№8 (129) 26 КРАСАВІКА 1999 Г.

НАША НІВА

Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

HTTP://MEMBERS.XOOM.COM/NASA_NIVA

# ХЭПІ-ЭНД ДЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

**У трынаццатую гадавіну Чарнобыльскай катастрофы мы павядзем гутарку пра культурны кантэкст гэтай падзеі. Найчасьцей яе называюць трагедыяй. Не забываючы, што трагедыя — гэта яшчэ й азначэньне жанру, прачытаем Чарнобыль як тэкст і параўнаем яго з творамі Васіля Быкава і Ўільяма Голдынга. Нарэшце, паспрабуем дачытаць гэты твор да ўдалае разьвязкі — да хэпі-энду. Ці, прынамсі, уявіць сабе нейкі выйсны канец гэтай гісторыі.**

**Часам зьяўляецца такое адчуваньне, што ў нас у Беларусі ўжо склалася табу на любыя «адвольныя інтэрпрэтацыі» паняцьця Чарнобыль. Яго недатыкальнасьць нагадвае недатыкальнасьць сьвятарных кароваў савецкага часу — Леніна, КПСС, Камунізму. І дакладна як і тады, гэтае табу тым больш жорсткае, чым менш само паняцьце зьвязваецца з канкрэтным, эфэктыўным, ратавальным дзеяньнем і чым больш за кулісамі табу робіцца ўсялякіх таемных справаў. Адзін дасьведчаны экспэрт сказаў мне: Чарнобыль — гэта нячысты бізнэс і нячыстая палітыка. Трагічны патас Чарнобыля становіцца ўсё больш непраглядным прыкрыцьцём згаданага бізнэсу і палітыкі ад шырокага грамадзтва...**

**Чаму для параўнаньня і зразуменьня Чарнобыля ў сёньняшняй «НН» мы абралі раман Уільяма Голдынга «Валадар мух»? Чарнобыль цяжка назваць лякальнай катастрофай. І ўсё ж адбылася гэтая аварыя ў замкнёнай краіне, якая мала адрозная ад няжылае выспы ў Ціхім акіяне. Там наўкола вада, тут — жалезная заслона: дзяржаўная мяжа, таталітарная ідэалёгія, адміністрацыйная сваволя.**

**Раман Голдынга распавядае пра эпізод другой сусьветнай вайны. Самалёт з ангельскімі хлопчыкамі на борце церпіць катастрофу на невялікай няжылай выспе ў Ціхім акіяне. Выратоўваюцца толькі хлопчыкі — ад шасьці да дванаццаці гадоў. Увесь твор — гэта гісторыя іх выжываньня. Спачатку яны склікаюць сходы і вырашаюць трымаць сыгнальны агонь на вяршыні гары. Потым пачынаюць паляваць на сьвіней. Апошні занятак, шал забойства і пах крыві, прыводзіць іх да зьдзічэньня. З уласьцівай падлеткам няўстрымнасьцю яны ператвараюцца ў дзікуноў. Яны абрастаюць патламі, яны брудныя, усё цела ў іх — у запёках ад ранаў. Твары размаляваныя рознакаляровай глінай. У рытуальным танцы яны нібы выпадкова забіваюць свайго раўналетка. Потым ужо лягчэй і сьвядома забіваюць другога. Нарэшце сярод іх застаецца толькі адзін хлопчык, які яшчэ мае ў сабе цывілізацыйныя стопары — Ральф.**

**Перад самым фіналам раман Голдынга нагадвае тыповыя канцоўкі Васіля Быкава. Зьдзічэлыя хлопчыкі ўчыняюць аблаву на Ральфа. У экстазе яны падпальваюць увесь востраў. Паранены Ральф выбягае да акіяну, які цяпер уяўляецца адначасова сьмяротным сыходам і адзіным ратункам. Патас апісальніка жыва прыпамінае быкаўскую «Аблаву», калі галоўны герой кідаецца ад загоншчыкаў у дрыгву і парынае ў ёй, успрымаючы такую сьмерць як паратунак.**

**І вось тут адбываецца самае галоўнае адрозьненьне паміж той культурай і, можа быць, цывілізацыяй, якую прадстаўляе Быкаў, і той, якую прадстаўляе нобэлеўскі ляўрэат Голдынг. У Быкава гэта канец, у Голдынга — працяг і пасьля — хэпі-энд. Уцякаючы, хлопчык Ральф налятае з разгону на чалавека, які стаіць на беразе. Гэта капітан у белай фуражцы. Палаючы востраў быў заўважаны з крэйсэра і капітан прыплыў у разьведку.**

**— Добры дзень, — кажа капітан Ральфу.**

### *Тэма нумару*

**— Добры дзень.**

**— Дарослых тут няма? — Ральф ківае. — У вас тут што, вайна? Абышлося без забойстваў, спадзяюся. Няма мёртвых целаў?**

**— Толькі два. Іх зьнесла ў акіян.**

**Сьмерць азначае незваротную страту. Забойства — незваротную віну.**

**Але недалёка ад берага відаць выразны абрыс крэйсэра. Кашмар скончыўся.**

**У Быкава крэйсэра — не бывае. Не бывае іншай зямлі, не бывае паратунку. Уявіць сабе такі канец у Голдынга, як, зрэшты і ва ўсёй заходняй масвкультуры высокага кшталту, немагчыма, там гэта ў лепшым выпадку ўспрымалася б як недасказанасьць, як чыста тэхнічная недаробленасьць тэксту. І ня толькі ў культуры. У жыцьці. Там абавязкова мусіць быць працяг. Тут усё можа абарвацца на самым кашмарным месцы. Як Чарнобыль. Чарнобыль у нашай сьвядомасьці абарваны на самым кашмарным месцы. За 13 гадоў прапаганда папрацавала для гэтага на поўную катушку — як афіцыйная, так і апазыцыйная. Чарнобыль — сьмерць — радыяцыя — безнадзейнасьць — беспрасьвецьце. Няма крэйсэра й ня можа быць. Жыцьцё ў прынцыпе ня мае ніякага сэнсу. За XX стагодзьдзе беларуская ідэя аж вывернулася ўся ў гэткім мазахістычным парываньні. Душылі камуністы, стралялі немцы, ударыла радыяцыя...**

*Працяг на старонцы 3.*



## *Якім вы ўяўляеце сабе сёньняшні дзень, калі б не было Чарнобыля?*

**Журналіст Аляксандар Лукашук:**

Чарнобыль ня выбухнуў — гэта такое шчасьце для ўсіх, што немагчыма апісаць. Як апісаць жыцьцё, якое не загінула — гэта па сілах хіба Пану Богу, гэта ягоная тэрыторыя. Гэта як бы не было і вайны, і Курапатаў, і калектывізацыі, і Слуцкі збройны чын перамог, і сёньня Рада БНР якога-небудзь 15 скліканьня галасавала, пасылаць ці не міратворчы аддзел у Косава. Праўда, хутчэй за ўсё, і этнічных чыстак Косава не было б разам з усёй бальшавіцкай спадчынай, ад якой дагэтуль трасе палову сьвету. Чарнобыль — агонія камунізму. Несвабодныя грамадзтвы ня ў стане эфэктыўна справіцца з цывільнымі тэхналёгіямі высокай складанасьці — як кітайцы, якія пры Мао мелі атамную бомбу, але намагаліся ў кожнай вёсцы выплаўляць чыгун. Ці саветы, якія запускалі ў космас сабак і маёраў, а жыльлёвыя чэргі расьцягваліся на дзесяцігодзьдзі. Паглядзіце на бяззубыя ўсьмешкі 30-40 гадовых беларускіх вяскоўцаў — плёмбы ставіць так і не навучылася савецкая мэдыцына, якая сама як Чарнобыль. Тэхналягічныя аварыі здараюцца паўсюдна — але толькі ва ўмовах несвабоды яны запраграмаваныя, а іх наступствы катастрафічныя.

**Гісторык Генадзь Сагановіч:**

Калі б не Чарнобыльская катастрофа, яшчэ жылі б мае заўчасна памерлыя родзічы, і не пусьцела б так раптоўна мая палеская вёска; Беларусь не пакінула б столькі маіх знаёмых і незнаёмых, што зьехалі зь дзецьмі далей ад бяды, думаю, мы былі б ва ўсім мацнейшыя і нязможныя такой стомай ды безвыходнасьцю...

**Лекар і экстрасэнс Валеры Ліstratаў:**

Чарнобыль адабраў у нас частку роднай зямлі і выгнаў адтуль народ. Я думаю, што народ наш быў бы больш здаровым, і працягласьць жыцьця была б вышэйшай, як і якасьць харчовых прадуктаў. Бо вядома, што некаторыя расьліны, грыбы гэтак абцяжараныя радыяцыяй, што іх зусім нельга ўжываць.

Ну і галоўнае — калі чалавек ведае пра небясьпеку, ён ужо ня можа поўнасьцю расслабіцца, адпачыць духам, бо падсьвядомасьць не дае гэта зрабіць. Я ўпэўнены, каб не было чарнобыльскае катастрофы, людзі пачувалі б сябе нашмат больш свабоднымі.

**Фатограф і журналіст Анатоль Кляшчук:**

Сёньняшні дзень, каб не было гэтае трагедыі, мне ўяўляўся б значна весялейшым. Ня ведаю, як бы жыў я, у якім бы быў здароўі, але той страх, які прыйшоў пасьля гэтае катастрофы, не дае мне спакойна жыць. У мяне зьявілася агіда і нянавісьць да гэтага Чарнобыля... Празь яго нашыя людзі стаяць нібы ў даўгой чарзе. Мне даводзіцца бываць у Бараўлянах, там жа ўсё забіта людзьмі!.. Я адчуў, што мая чарга папросту пакуль не дайшла да гэтага будынка. Паміраюць ад раку дзеці... Можна сабе ўявіць, колькі б не было трагедыяў на нашай зямлі, сьлёзаў, новых магілаў. Я не кажу ўжо пра тую спустошаную зямлю. Так, мы жылі б можа цяжка, як сёньня шмат народаў жыве, але быў бы зусім іншы настрой.

**Перакладчык і выдавец Зьміцер Колас:**

Па-першае, на гэтае пытаньне я магу сказаць: адбылося тое, што павінна было адбыцца. Думаю, што ў гісторыі няма ўмоўнага ладу. Любая імпэрыя, якой быў і Савецкі Саюз, мусіла б скончыцца нейкім катаклізмам. Ды з другога боку, гэты катаклізм быў каталізатарам распаду СССР. Таму, мяркую, калі раптам даць волю фантазіі і ўявіць, што гэтага катаклізму не было, дык сёньня мы па-ранейшаму жылі б у Савецкім Саюзе.

# АД ПЕРАМОГІ ДА ПЕРАМОГІ

### *NATO — 50*



Едучы аўтобусам зь Вільні ў Менск, я пачуў, як нейкая кабета, сталічнага выгляду, з валізамі, шчыльна наладаванымі літоўскімі харчамі, раптам з выклікам запытала ў кіроўцаў: «Ну, як там вашыя хлопцы забіваюць сэрбаў?» Кіроўца зьдзіўлена азірнуўся, пра нешта перамовіўся з напарнікам, і, сьцепануўшы плячыма, усьміхнуўся... Палова пасажыраў, што гэтаксама цягнулі вялікія клункі, пачалі клясьці NATO, іншая палова жвава абмяркоўвала эўрапейскую перамогу літоўскіх баскетбалістаў.

Як некалі савецкія людзі гатовыя былі да хрыпаты даводзіць адзін адному сваю заклапочанасьць Гандурасам альбо абмяркоўваць смак амараў, гэтак і цяпер беларусы з расейцамі ўсур'ёз прарочаць паразу «агрэсіўнага блёку НАТО» і адзін аднаго пераконваюць у непераможнасьці славянства.

За паўстагодзьдзя свайго існаваньня сілы NATO як арганізацыі упольна бяруць удзел у ваенных дзеяньнях толькі другі раз. Таксама на Балканах. «Агрэсіўны альянс са свамі заакіянскімі гаспадарамі» паўстагодзьдзя адыгрываў на эўрапейскім кантынэнце выключна ролю стрымліваньня, якая цалкам упісалася ў сцэнар «халоднай вайны». І тую вайну NATO, разам з саюзьнікамі, выйграла.

Тым часам партнэры па «мірнай» Варшаўскай дамове акупавалі Чэхаславаччыну, свайго ж саюзьніка, у 1968 годзе. Варшаўскі блёк урэшце пакрысе разваліўся сам, яшчэ да распаду СССР, дзякуючы лідэрам Альбаніі, Югаславіі, Румыніі, а затым і антыкамуністычнаму руху па ўсёй Усходняй Эўропе. Параза ў «халоднай» вайне стала відавочнаю.

*Працяг на старонцы 3.*



*Вельмі шаноўная рэдакцыя,*

Атрымала нумар «Нашай Нівы» з 8 лютага. Разгарнула, перадавіца: «Што аб'яднае нас?» Патрыятызм і толькі! Патрыятызм — пашана й любасьць да ўсяго свайго. Любоў да ўсяго свайго ёсьць цэмэнтам, што спайвае сем'і, народы; любоў, што варочае горы. Мне скажуць, што цяпер у большасьці беларускага народу няма ані пашаны, ані любові да беларушчыны. Няма, бо народ затруцілі, заразілі «снідам» нігілізму. Пры хваробе блізкія, крэўныя хворага стараюцца лячыць. І лячэньне памагае. Безнадзейна ж хворыя паміраюць і стаюцца «гноем пад жывое». Туды ім і дарога.

Але ж ёсьць у народзе патрыятызм. Перапісваюся з чалавекам з Полацку, якога ніколі й на вочы ня бачыла. Ды нас зрадняе любоў да Беларушчыны.

У 1993 годзе прыехала пасьля паўстагодзьдзя на Зьезд беларусаў сьвету ў Менск. Прыехала на бацькаўшчыну ў Пружаны, душа трапяцела. Пайшлі мы зь сям'ёй брата на могліцы адведаць магілкі бацькоў, дзядоў, родных, суседзяў. У сумным месцы мне было радасна асэнсоўваць, што хаджу па роднай зямлі, дзе спачываюць мае бацькі, дзяды, дзе мае карані, зь якіх чэрпаю духовыя сілы да жыцьця.

Паважаныя супрацоўнікі «Нашай Нівы», атрымоўваеце вы сотні такіх, як мой, лістоў — ці ж гэта нам не яшчэ адзін доказ таго, што нам ёсьць вакол чаго згуртоўвацца?

Застаюся з пашанай,

**Раіса Жук-Грышкевіч, Антарыё**

## Яны ня бачаць, што памыляюцца

Сымптомы маразму відавочныя ў паводзінах сучаснага рэжыму. Яскравы прыклад – «мясцовыя выбары». Празьмерная нават па тутэйшых стандартах заарганізаванасьць гэтай кампаніі не магла ня выклікаць нэгатыўнага стаўленьня нават у колах, якія адносна лёгка паддаюцца прапагандысцкім маніпуляцыям. Імкненьне любой цаной выконваць рытуалы, у гэтым выпадку псэўдадэмакратычныя – прыкмета неадэкватнага сьветаўспрыманьня. Але тое ж імкненьне дае пра сябе знаць таксама і ў дзейнасьці апазыцыі, якой рэжым увесь час «дапамагае кадрамі».

Людзі ж як драмалі, так і драмаюць. Нават арышт М.Чыгіра ня выклікаў пратэсту. Магчыма, гэта адбылося таму, што такога кшталту акцыі здольныя наладжваць перш за ўсё структуры БНФ, якія ня надта былі ў тым зацікаўленыя.

Дарэчы, уся гэтая справа абароны Кебічавай канстытуцыі ад яе сучаснага і быццам нязьменнага гаранта вельмі падобная на кампанію прыёму ў грамадзянства БНР. Парадаксальна, што адны і тыя ж людзі адным махам зьбіралі й подпісы за кандыдатаў у прэзыдэнты, і заявы ў грамадзянства. Чужому воку гэта падалося дадатковым сьведчаньнем таго ідэйнага заняпаду, у якім знаходзяцца нашы больш-менш дэмакратычныя сілы.

Тым часам новы вецер падзьмуў з Балканаў. У іншы час, у іншых умовах і пры іншых нацыянальна-свядомых лідэрах дэмакратычны рух выкарыстаў бы момант дзеля чарговай абразы бясьсільнага старэйшага брата. Няма таго, што раньш было! Маладыя фронтаўцы на ўгодкі 25 Сакавіка ўжо не «кахалі» NATO на праезнай частцы, як у Валянцінаў дзень. Апазыцыя заціхла, а Лукашэнка тым часам «гераічна» зьлётаў у Бялград. Як кажуць, куды чорт з капытам, туды і рак з кляшнёй. Але па-мойму, і ўлады адчуваюць унутрыпалітычную небясьпеку празьмернай актыўнасьці на паўднёва-заходнім напрамку. Таму ў афіцыйных СМІ да нядаўняга часу панаваў вельмі цікавы кактэйль з бязглудзых ваяўнічых заклікаў і істэрычных пацыфісцкіх дэкларацыяў.

Пад ціскам панславісцкага рэпрэсіўнага рэжыму, у спробах прапагандысцкае барацьбы зь ім дзіцячыя хваробы беларускага нацыяналізму набылі хранічны характар. Ідэалягічнае і псыхалягічнае эпігонства рамантызму XIX ст. Двухсэнсоўнае стаўленьне да Захаду, культурна-цывілізацыйная ці нават расава-храмасомная лучнасьць зь якім падкрэсліваецца раздражняюча часта і ў той жа час які разглядаецца як крыніца магчымай гегемоніі і ўніфікацыі культураў. Старыя крыўды на былых суседзяў-братоў па турме народаў і сацлягеры, карэнныя этнічныя меншасьці. Нарэшце, ірацыянальныя антымаскоўскія настроі. Яны асабліва ўзмацніліся пасьля згасаньня перабольшаных надзеяў на дапамогу крамлёўскіх лібэрал-бюракратаў супраць Лукашэнкі. Сустрэча расейскіх і беларускіх дэмакратаў у «Прэзыдэнт-гатэлі», мне падалося, прадэманстравала цалкам неадэкватныя ўяўленьні першых пра нашу сытуацыю. Для расейцаў аніякая беларуская дзяржаўнасьць ня мае гістарычных пэрспэктываў, эканамічных і сацыяльных падставаў. Яны ня бачаць, як яны памыляюцца.

**Зьміцер Сіманаў**




## Малады Фронт рыхтуе свой спэцназ

Малады Фронт распачаў падрыхтоўку маладзёвых камандаў, задачай якіх стане рэклямовая й інфармацыйная раскрутка будучых рэформаў сярод студэнтаў, школьнікаў, працоўнай моладзі. Вось ужо цэлы месяц штопанядзелак у штаб-кватэры БНФ праводзяцца шматлюдныя курсы «Ды-Джэяў Адраджэньня». Сёньня ў іх працы бяруць удзел больш за 100 чалавек. Маладыя людзі праходзяць адмысловыя тэставаньні, слухаюць лекцыі па сыстэмнай арганізацыі шоў, масавай псыхалёгіі, тэхналёгіі Public Relations, шоў-бізнэсу, выконваюць спэцзаданьні (напрыклад, растрыбушыць Інтэрнэт наконт рэклямы рэформаў на Захадзе або падрыхтаваць 1,5 хвілінавы выступ на тэму «Тэлевядучыя сьвету»). Сэрыя з 12-ці сэмінараў прадугледжвае шырокае выкарыстаньне інтэрактыўных мэтадаў. Кожны ўдзельнік мае свой асабісты рэйтынг, які выражаецца ва ўмоўных балах і вызначае дзясятку лідэраў.

У працэсе навучаньня будучыя Ды-джэі мусяць прайсьці самыя сур'ёзныя выпрабаваньні: пад наглядам трэнэра правесьці дыскатэку, арганізаваць шоў беларушчыны, змакетаваць кампутарны тэкст, эмацыйна выступіць перад аўдыторыяй і г.д. Якраз напярэдадні 16 траўня 10-12 найлепшых навучэнцаў курсаў атрымаюць адмысловыя сэртыфікаты й адзнакі «Ордэн Ды-джэяў». Для іх рыхтуюцца праграмы індывідуальнага трэнінгу й канчатковыя зборы.


Фота IREX/ProMedia

*Больш за дзесяць тысячаў чалавек прайшлі вуліцамі Менску ў «Чарнобыльскім Шляху».*

«Каманда ўнівэрсальных Ды-джэяў — своеасаблівы шоў-спэцназ, — кажа Павал Севярынец, які ўзначальвае групу трэнэраў (дарэчы, таксама маладых людзей ва ўзросьце 22-25 гадоў). — Гэты «спэцназ» павінен прыцягваць да рэформаў ударную сілу — моладзь». Старшыня МФ лічыць, што такая каманда можа спатрэбіцца ў Беларусі вельмі хутка — можа, ужо ўвосені гэтага году.

Малады Фронт запрашае ўсіх зацікаўленых штопанядзелак а 17-й гадзіне ў Менску на вул. Варвашэні, 8.

**Прэс-служба Маладога Фронту**

Летась віншавалі вас зь перамогай, калі там з «вышыняў» пацягнулі «НН» на суд за тое, што яна трымаецца клясычнай беларускай мовы...

Ды вось цяжка вытлумачыць, чаму вы назоўнікі ставіце ў давальным склоне пасьля дзеяслова вучыць(-цца), навучаць? Прыклад: «НН»: Чаму вы вучыце свайго сына?» Гэта пытаньне Віктару Ганчару (гл. «НН», № 6, бачына 4). Трэба: Чаго вы вучыце свайго сына? Або вось іншы прыклад: «Мове Петрык навучыўся ў настаўніка беларускай мовы...» (гл. «НН», № 6, бачына 2). Гэта ў Маскоўшчыне вучаць, навучаюць або «обучают» мове!

Жадаю вам усім добрага здароўя й найвялікшых ды найлепшых посьпехаў у працы й творчасьці!

**Кастусь Акула, Таронта**

## НАШЫ ГАВОРАЦЬ ПА-НАШАМУ

Прыслухоўваючыся да багатых гаворак тутэйшай зямлі, я ўбачыла, што мы прыніжаем памяць нашага слаўнага вучонага Браніслава Тарашкевіча. Ну завошта гэта мы мову зямлі, якая нам верна слугуе (і мова, і зямля!) абазвалі клічкай «тарашкевіца» ды яшчэ ў двукосьсе ўзялі, як недзеяздольную? А я вось зрабіла інакш. Як прыйшла ў хату цётка-перапісчыца, я й запісала на іхнае «ФИО» — Ганна Сьцепулёнак, дачка Пятра. Цётка вочы вылупіла:

— У беларусаў такова нет.

— Вы кажаце слушна, няма імён па бацьку.

І запісала сябе й дзяцей ліцьвінамі, роднай мовай — ліцьвінскую, іншыя мовы, якімі валодаем — расейская. Праўда, мой Міколка да чужой мовы шчэ не дапяў, затое ён, разумнік, ужо заўважае памылкі ў кніжках, якія яму даюць у школьнай бібліятэцы. Цётка-перапісчыца роўненька выйшла з нашай хаты, а я тут Вам зараз распавяду пра гэтыя памылкі ў нашай мове, бо не адна я іх бачу.

Дык вось Міколка-першакласьнік у бібліятэчнай кніжцы ўбачыў напісаньне «у акне» і паправіў: «Трэба пісаць — «у вакне». «Ну так, — кажу, — і твая бабка гаворыць. Паставіла чыгунок на вагонь. Таму й я кажу: села ў ваўтобус. Пасьля «у», калі наступнае слова пачынаецца з «а», дабаўляецца «в».

Мае сыны ўзаконілі форму напісаньня «клас». Віталік напісаў верш зь Міколкі пад назовам «Настаўнік-Першакласьнік». Настаўніца Гладкая Тацяна прачытала яго вучням перад класам.

Хоць ты ў пушчу зьбягай да зьвяроў, хоць на звалку да бамжоў, як пачую пра «славутыя творы Адама Міцкевіча»! Так лёгка, не задумваючыся, мы калечым нашую мову! Міцкевічавы творы былі й застануцца слаўнымі, знакамітымі, асёл жа застанецца славутым, бо ў гэтае слова ўкладзены адмоўны сэнс.

Думаецца, што дарма «нашаніўцы» ўсюды пішуць толькі «капэрта» — я на Мёршчыне ад цёткі Ніны (з дому Панізьнік) чула натуральнае «канвэрт». А на «цьвятную капусту», каляфёры, мая мама ведаеце, як хораша кажа: капуста-цьвітуха.

А вось якія харошыя дзядоўскія прыказкі я апошнім часам згадала:
Ня плаціць багаты, а плаціць вінаваты.
Бруд робіць цуд!
За варону замуж выйшла [прапала курыца, напрыклад].
Сьмерць і радзіны не глядзяць добрай гадзіны.
Як аддасі, дык знойдзеш, а як схаваеш, дык згубіш.
Разумных дзяцей шкода, а дурных — яшчэ больш.
Так поп, што бярэ й боб.
Плянэта твая такая [лёс, доля такая].
А слоўцы якія ў нас!
Мурнік — пячнік.
Гадун — варажбіт.
Гарэніць — гарчыць [малако ў цельнай каровы гарэніць].
Сьцямка, заране — надта рана.
Камсамолачка — ідэістка, функцыянэрка, без праўдзівай веры.
Пабяляны — эмаляваны.
Кацёлачкі — шарыкі.
Прыштыкі — тое, што па-расейску «изюминка».
Нешта не багавое — зусім благое.
Пачапіцца — значыць, павесіцца (выбачайце).
Ну й скем — кажуць пра сьцюжу.
Процівень — наравісты, настырны чалавек.
Пішчаніцай лезе ў вочы — скажуць пра такога.
Сядзь зь ціхатою! — сварацца на дзяцей.
Бадун — мабыць, хітры дурань.
Малайцом, сынок! — пахваліць мама сыночка. Ня кажуць «маладзец» ці «малайчына».
Мэрліна, мэрля — марля.
Не зацемнавай! — калі просяць адысьціся ад вакна (= ня засьці).
Прычындалы — інструмэнты, бо яны прычыняюцца да працы.
Салапяка — «малакасос», знаёмае, яшчэ ад Якуба Коласа слоўца.
Падмосьце — так хораша гучыць тое, што іншыя брудна называюць «козлы».
Рассусольваць — прамаруджваць (ад «суслы», «соскі»).
Як дала гасла! — у сэнсе: дала збой, згасіла нейкую звадку.
Праўда што! — згаджаюцца з тым, хто слушна кажа.
Прыдасца — надзець спатрэбіцца, падыдзе.
Сьпіткі-зьедкі.

Уперад добра было! — параўнай Максімава: «Няма таго, што раньш было!» Выглядае, што мы стапталіся і зрабіліся ўжо «задам», бо адракліся ад даўніны, «пераду». Каросту й тую сталі называць «часоткай». А пра яе цікавая прымаўка засталася: «Кароста — ня проста». Панская хвароба. Ад яе людзі не ўміраюць, але й ручкі не гуляюць. Альбо хто памятае яшчэ, што «кор» — гэта «адзёр». І кароста, і адзёр — хваробы набірушчыя, значыць, заразныя.

Не пакрыўдуйце, але Вы пішаце: «партнэр», а я — «напарнік». Вось так мы і ходзім з Вамі, панове, укружка. А чаму не ўжываць часьцей спрадвечны зварот «Гаспадар», «Гаспадарыня»?!

**Ганна Матусэвіч, Койданава**

## Заява

На пачатак траўня прызначана падпісаньне ў Горадні так званай «саюзнай дамовы». Тое, што гэта можа здарыцца ў нашым горадзе, зьяўляецца зьвышцынізмам і абразай нашай нацыянальнай годнасьці. Менавіта ў Горадні 205 гадоў таму пад дуламі расейскіх гарматаў адбыўся апошні Сойм Рэчы Паспалітай, які зацьвердзіў акупацыю беларускіх земляў Расейскай імпэрыяй.

Мы лічым, што далучэньне Беларусі да Расеі нясе нашай краіне і ўсяму сьвету небясьпеку фізычнага зьнішчэньня. Ужо неадназоразова зь дзяржаўных трыбунаў Менску й Масквы гучалі словы пра вяртаньне ў Беларусь ядзернай зброі. Расейская «чырвона-карычневыя» і прэзыдэнт Беларусі выступаюць за ваенны саюз зь Югаславіяй, які непазьбежна паставіць сьвет на мяжу трэцяй сусьветнай вайны.

Мы рашуча пратэстуем супраць прыезду ў наш горад расейскіх, беларускіх і югаслаўскіх мілітарыстаў-»інтэграстаў». Мы зьвяртаемся да жыхароў Горадні. Сёньня на нас ляжыць адказнасьць за лёс Беларусі і будучыню Эўропы. Давайце ўсімі магчымымі законнымі сродкамі спынім злачынныя намеры і ўратуем сьвет ад катастрофы.

*Данута Бічэль-Загнетава, Эдвард Дзьмухоўскі, Дзьмітры Кісель, Алесь Краўцэвіч, Алесь Лобан, Мікалай Маркевіч, Андрэй Мялешка, Андрэй Пачобут, Віктар Сазонаў, Уладзімер Хільмановіч*

## Засьвярбелі кулакі

23 красавіка ў Менску а 7-й гадзіне вечара быў зроблены напад на паэта і журналіста, сталага аўтара «НН» Славаміра Адамовіча. Двое зламыснікаў атакавалі яго ў пад'ездзе дому, дзе знаходзіцца рэдакцыя «НН», куды Адамовіч і накіроўваўся. У выніку непрацаздольны сутычкі паэт атрымаў лёгкае пашкоджаньне твару. Сьведкамі здарэньня сталі жыхары кватэраў, якія пачулі крыкі і набралі 02. Міліцыянты зьявіліся хутка, але на месцы інцыдэнту ўжо нікога не засьпелі.

С.Адамовіч сьцьвярджае, што яго высочваюць спэцслужбы рэжыму ў зьвязку зь ягонай дзейнасьцю на пасадзе сакратара Менскай гарадзкой камісіі па выбарах прэзыдэнта Беларусі, якія прызначаныя на 16 траўня. Гвалтоўныя дзеяньні спэцслужбаў маюць намер запалохаць патрыётаў, якія захоўваюць вернасьць закону і Беларусі.

С.Адамовіч кажа, што наіўна палохаць тычкаю ў твар чалавека, які прайшоў Лукашэнкаву турму і сухую галадоўку. А тое, што з набліжэньнем дня выбараў у дыктатуры засьвярбелі кулакі, сьведчыць толькі пра адно: рэжым губляе вытрымку, баіцца сам і спадзяецца, што спужаемся мы.

**Міраслаў Чантарыцкі**

### СЛОВА АЙЦА АНДРЭЯ

# НА НЯДЗЕЛЮ РАССЛАБЛЕНАГА

*«Тады адкрыліся ў іх вочы, і яны пазналі Яго...»*

*Лк.24.31а.*

У Эвангельлі паводле Лукі апісана гісторыя двух вучняў Ісуса Хрыста, якія спадзяваліся, што Ісус сапраўды зьяўляецца тым абяцаным Збаўцам, але пасьля таго, як Ісус памёр, зьняверыліся. Зьняверыліся так моцна, што не зважаючы на апавяданьні жанчын Міраносіц, якія бачылі адвалены камень, пустую магілу і чулі словы анёлаў: «Ісус жывы», не зважаючы на апавяданьні Пятра і Яна, якія бачылі тое самае, гэтыя вучні пакінулі Ерусалім і пайшлі ў мястэчка Эммаўс. Эвангельле распавядае нам, што на дарозе да іх падыйшоў Уваскрослы Хрыстос, але яны не пазналі Яго. Не пазналі яны Яго нават тады, калі Ісус пачаў размаўляць зь імі. Ён патлумачыў ім, што так менавіта павінна было стацца са Збаўцам, што менавіта гэта прарочаць прарокі, пачынаючы ад Майсея. Толькі калі яны прыйшлі да Эммаўсу і селі вячэраць, а Ён «узяў хлеб, блаславіў, разламаў і даў ім», толькі «тады адкрыліся ў іх вочы». Так вучні з Эммаўсу пазналі Ісуса Хрыста ў Эўхарыстыі.

У Эвангельлі ад Яна апісана гісторыя спатканьня Марыі Магдалены з Уваскрослым Хрыстом. Калі яна стаяла побач пустой магілы, яна ўбачыла Ісуса, але не пазнала Яго. Толькі калі Ён вымавіў ейнае імя, яна пазнала Яго.

Апостал Тамаш пазнаў Ісуса, убачыўшы раны, вучні з Эммаўсу пазналі Ісуса ў Эўхарыстыі, Марыя Магдалена пазнала Яго, калі Ён вымавіў ейнае імя. Сёньня Ісуса таксама можна спаткаць па-рознаму, альбо ў Эўхарыстыі, альбо пачуць, як Ён кліча цябе, вымаўляючы тваё імя, альбо ў іншы спосаб.

У мінулым годзе ў нашай парафіі былі рэкалекцыі пад час Вялікоднага посту. Я папрасіў аднаго маладога чалавека, каб ён распавёў для ўсіх пра тое, як ён стаўся хрысьціянінам.

Ён распавёў сваю гісторыю: ён вырас у звычайнай савецкай сям'і, вучыўся ў звычайнай савецкай школе, меў сяброў — нармальных людзей, як большасьць з нас. Аднаго разу яму прапанавалі ўзяць удзел у пілігрымцы зь Віцебску да Полацку, якую ладзяць штогод маладыя грэка-каталікі. Ён згадзіўся. Пяць дзён ён перажыў, як бы патрапіў у іншы сьвет, ён убачыў зусім іншых людзей. Такіх адносінаў паміж маладымі людзьмі ён яшчэ ня бачыў, кожны ставіўся да другога са шчырым жаданьнем памагчы, яны заўсёды ласкава пасьміхаліся адзін аднаму, калі трэба было нешта зрабіць, заўсёды падраджаліся некалькі чалавек. Што гэта за людзі? Яны называюць сябе хрысьціянамі. Хто такі Хрыстос?

Сёньня гэты малады чалавек — хрысьціянін, навучаецца ў Каталіцкім Унівэрсітэце ў Любліне. Як ён сам кажа, ён спаткаў Ісуса праз тых маладых людзей.

Адзін сэмінарыст, будучы сьвятар, распавёў мне, як ён, менскі вулічны хлопец, спаткаўся з Хрыстом. Аднаго разу ён убачыў Новы Запавет. Што гэта за кніга? Чаму хрысьціяне ставяцца да яе, як да Сьвятой кнігі, што там напісана? Ён прачытаў першае Эвангельле, Эвангельле паводле Мацьвея проста за ноч. На раніцу ён вырашыў, што мусіць прыняць Хрост, а пасьля служыць Ісусу сьвятаром. Зразумела, што ўсё ня сталася адразу, але ён на дарозе, на дарозе з Уваскрослым Хрыстом.

Беларусь ідзе таксама па дарозе. Мы самі называем гэтую дарогу Чарнобыльскай. Гэтая дарога, вельмі падобная да дарогі зь Ерусаліму да Эммаўсу. На Чарнобыльскай дарозе, як і на той да Эммаўсу — зьняверанасьць, сум, боль, сьлёзы і роспач. Пачуцьцё нейкай падманутасьці. Мы пазналі жыцьцё, мы чакалі радасьці і здароўя для сябе і сваіх дзяцей, а замест гэтага — хваробы, дэфіцыт імунітэту, атручаныя рэкі, палі, лясы. І здаецца, сонца ўжо ня так ярка сьвеціць...

Але можа варта азірнуцца, можа, як піша Ян, «стаіць паміж вамі Нехта, каго вы ня ведаеце»? (Ян. 1. 26.)

Ён сам выйшаў нам насустрач.

Азірніцеся.

*а. Андрэй Абламейка*

# АД ПЕРАМОГІ ДА ПЕРАМОГІ

*Працяг са старонкі 1.*

З крахам камунізму ў Эўропе пад канец другога тысячагодзьдзя засталася адна глябальная праблема, якую агучыў папа Ян Павал II, а менавіта — права нацыяў на самавызначэньне, якое шматкроць дэклaравалася, але да сёньня не знайшло свайго нарматыўнага ўвасабленьня. Імклівы распад СССР, Югаславіі і Чэхаславаччыны скаталізавалі нашмат больш праблемаў, чым можна было прадбачыць. Сэпаратысцкія рухі ўскалыхнулі ўвесь кантынэнт, аднак міжнародна прызнаных мэханізмаў усталяваньня справядлівасьці пакуль няма. Насуперак лёгіцы марксізму, быцьцё абагнала сьведамасьць.

Глябальнае «халоднае» супрацьстаяньне зьмянілася ланцугом цяжка прагназаваных лякальных канфліктаў, спароджаных знутры. Таму дзеля гарантыяў бясьпекі Эўропа інстынктыўна абірае сабе шлях да стварэньня не палярнага, а беспалярнага парадку, які можа забясьпечыць стабільнасьць і прадухіліць шматбаковыя канфлікты.

Напрыклад, — стаяць на лініі агню паміж бакамі(!?). Па-другое, у іх няпэўнае кіраўніцтва, што дазваляла шматкроць розным дзяржавам папросту адклікаць сваіх ваякаў з зоны баявых дзеяньняў, калі яны раптам былі з чым нязгодныя. «Голубые уходят» — пад гэткім загалоўкам расейскі часопіс «Огонек» зьмясьціў рэпартаж пра вывад аанаўскага кантынгенту ў Анголе, хоць вайне ў гэтай краіне не відаць канца. Нідзе кантынгенты ААН ня вырашылі ваенных задачаў. А таму дзеля ўсталяваньня міру ў Босьніі ААН зьвярнуўся менавіта да NATO, з мэтаю эфэктыўна скарыстаць вайсковую моц. І гэта была другая перамога NATO, на гэты раз у сапраўднай вайне. І сёньня ўдзячная Босьнія накіравала сваю дэлегацыю ў Вашынгтон, хоць яна не ўваходзіць ні ў NATO, ні ў Раду паўночнаатлянтычнага партнэрства.

Сёньня альянс NATO — гэта 19 дзяржаваў, маленькіх і вялікіх, вельмі багатых ці проста заможных, каталіцкіх, пратэстанцкіх, атэістычных, праваслаўных і мусульманскіх, але гэта тыя дзяржавы,



*Людзі радасна вітаюць войскі NATO ў шматпакутнай Босьніі*

якія хочуць жыць разам у вольным і стабільным сьвеце.

Найчасьцей апанэнты NATO закідаюць альянсу «двайны стандарт».

Слушна, яны не бамбяць Турцыю за курдаў. Бо, па-першае, Турцыя — удзельнік альянсу. Па-другое, туркам ня прыйдзе ў галаву бамбіць сваіх грамадзянаў, нават і курдаў, як гэта рабіла Масква ў Чачэніі. Па-трэцяе, туркі ня робяць этнічных чыстак, а імкнуцца асымілёваць курдаў, накшталт таго, як сёньня зь беларусаў лепяць расейцаў. Пачацьвертае, туркі змагаюцца ня з курдамі, а з радыкальным сэпаратысцкім рухам выразна левага ўхілу. А вось Ірак бамбілі менавіта і за генацыд супраць курдаў, ужываньне хімічнае зброі супраць мірных жыхароў, і сёньня кантралююць паветраную прастору над ірацкім Курдыстанам, дарэчы, з турэцкага боку. І самае галоўнае — сфэра дзейнасьці NATO абмежаваная была выключна Эўропаю і Паўночнай Атлянтыкай. І вось гэтую канцэпцыю да свайго юбілею альянс зьбіраецца перагледзець, бо ўсе ягоныя ўдзельнікі прызнаюць — пагроза Эўропе сёньня сыходзіць толькі звонку. Таму міністар абароны ЗША Ўільям Коэн, выступаючы нядаўна ў Кангрэсе, заявіў, што NATO надалей ня будзе абмяжоўвацца зонай «адказнасьці», гэта азначае тэрыторыяй краінаў, якія ў яго ўваходзяць. А вось дзе насамрэч альянс дапусьціў двайны стандарт, дык гэта ў дачыненьні да Расеі, якая вынішчала чачэнцаў, сваіх жа грамадзянаў, забіўшы ў сотні, калі ня ў тысячы разоў болей, чым выпадкова загінула ў Югаславіі ў выніку саюзных апэрацыяў. Каму ж тады заклікаць да адзінага стандарту?

Беспалярнасьць — гэта сыстэма калектыўнае бясьпекі, супольнае эканомікі, калегіяльнасьць у рашэньні праблемаў кантынэнту, найперш у сацыяльнай сфэры і экалёгіі. Як і любая калегіяльнасьць, дзе рашэньне большасьці абавязковае для астатніх, яна нясе з сабою страту пэўнае часткі сувэрэнітэту, калі разглядаць сувэрэнітэт як самадастатковую каштоўнасьць. Але якая вышэйшая мэта нацыі? Быць вечнай. Захаваць сваю культуру, мову і традыцыйныя каштоўнасьці. У гэтым сэнсе менавіта беспалярны, шматмоўны, шматкультурны сьвет ёсьць пакуль адзіным гарантам супраць накіданьня культурнае манаполіі адной, двух ці трох нацыяў усім астатнім. Пры калегіяльнасьці эўрапейскіх арганізацыяў, слова самых малых іхных сяброў важыць гэтулькі ж як і вялікіх. Больш за тое, нацыі, якія нядаўна сталі на ўскрайку глябальных культурных працэсаў, міжволі выпростваюцца, ледзь ня змушана забясьпечваюць сябе культурна і інфармацыйна на ўзроўні нацыяў вялікіх. Стан абавязвае...

Навошта ж гэткай «пастаральнай» Эўропе армейскі кулак? З той простай прычыны, што ня ўсе нацыі гатовыя прыняць гэткую сьветабудову, песьцячы ў сабе міты пра сваю выключнасьць. А па сутнасьці, ня будучы гатовымі да выключна культурнага і эканамічнага спаборніцтва, імкнуцца забясьпечыць сабе гэткія прывілеі, якія б кампэнсавалі ім эканамічную і сацыяльную недарazвітасьць. І гучна ляскаюць дзьвярыма, што гасьцінна распахнулі перад імі ветлівыя й адукаваныя заможныя суседзі. На жаль, лёгіка гэткага супрацьстаяньня непазьбежна вядзе да ўзброеных канфліктаў, бо ніводная краіна на кантынэнце ня можа існаваць сама па сабе, будучы аперазаная з усіх бакоў адзінай Эўропаю. Якая альтэрнатыва? Спакойна назіраць за крывавай бойняю на Балканах і ня ўмешвацца?

Так, сапраўды, існуюць гэтак званыя «міратворчыя кантынгенты» ААН у блакітных касках. Але, папершае, іх функцыі няпэўныя.

На сьвяткаваньне юбілею NATO зьедуцца кіраўнікі ўсіх краінаў Эўропы і СНГ бяз розьніцы ў статусах. Не паехалі толькі чатыры краіны — Югаславія, Расея, Кыргызстан і Беларусь.

**Гары Куманецкі**

# НЯБЕСНАЯ ПАПАРАЦЬ МАНДЗЮСАКА

Мандзюсака — японская папараць-кветка. Але цьвіце яна не ў вільготным змрочным лесе, а на нябёсах. І дарце свайму шчасьліваму назіральніку загадкавую магчымасьць усё астатняе жыцьцё пазьбягаць зла ў сваіх дзеях. Тэатральная трупа «Мандзюсака» з радзімы нябеснай краскі гасьцявала ў Беларусі пры канцы сакавіка і на пачатку красавіка, вандруючы па самых забруджаных раёнах Магілёўшчыны й Гамельшчыны ды даручы хвілі радасьці чарнобыльскім дзеткам...

Старыя й малыя былі ў захапленьні. Яны ляскалі ў далоні, шырака ўсьміхаліся ды часамі пішчэлі з асалоды. Рэдкія «дарослыя» непаразумела варочалі галовамі, пэўна, спрабуючы ўцяміць, што дзеецца, але не задавалася... Толькі непасрэднасьць разумела хуткія словы чужой мовы й сакавітыя вобразы чужой пластыкі. Ды й чаму чужой? Хіба не хапае аднаго ймгненьня, каб працяў душу боль нечага гора ці заказытаў у грудзях агонь нечай любові? Хіба не адным імгненьнем успыхвае зьнічка захапленьня або цяжкі ўсхліп роспачы? Хіба не ў адным каханьні аснова чалавечага жыцьця?..

Каханьне... Яно — на цяжкіх паясах чароўных кімано. Яно — на бліскучым лязе старога самурайскага мяча. Яно — у самім зьяўленьні «Мандзюсакі» ў Беларусі. І хіба не яно ў такіх падобных на нашыя малітвах, прасьпяваных трупай тэатра ў адселеных вёсках Чачэршчыны ды каля абязбожанай Сафіі ў Полацку?

...Разьюшаны менскі завуч дарэмна спрабаваў выціснуць дзяцей з маленькай школьнай залы. Маўляў, дзея скончаная — усе на ўрокі, а йначай... Ягоныя «страшкія» словы патаналі ў цеплыні павольнай незнаёмай музыкі. Дзеці зьбіліся да самае сцэны ды прагна лавілі жывыя дзіўныя словы разьвітаньня й непаразумелыя іерагліфічныя росьпісы на праграмках. Як усё сымбалічна! Міжволі ўзгадаеш словы таямнічага верша кіраўніцы «Мандзюсака» Кіёэ Фудзінака:

Сьціхла віхура...
Нарэшце сабраліся зноў
Вашыя душы.
Па небасхіле сівым
Поўня, бы човен, плыве.
Восем аблокаў
У месяцовым сьвятле —
Добрая вестка!
Значыцца, змога й боль
Хутка міне назаўжды.
Неба адбітак
У люстры вазёрнай вады
Зьлёгку йскрыцца.
Песьня блукае праз ноч,
Песьня з глыбіняў душы.
Гэтаю ноччу
Хай Бадхісатва Каннон
Сэрца раскрые,
Быццам бы келіх сакэ,
Поўнае дзіўнага сну.
Здарыцца можа —
Зьнешнюю існасьць сваю
Ён ператворыць
Словам у вецер або
Кветак агністы дзірван.
Водару лекі
Ціха абгорнуць твае
Змоглае цела.
Змоўкні й прагна глядзі
Танец нябесных красунь.

**Андрэй Захаранка**

Мы хадзілі аднымі калідорамі, езьдзілі адным трамваем, частавалі адзін аднаго гарбатаю ды высьвятлялі дробныя непаразуменьні. Мы ўздымалі келіхі на нечых днях народзінаў ды не забываліся стэлефанавацца, прыкладна ведаючы храналягічныя арыенціры сьвятаў — ці то нашага Дня Волі, ці то мусульманскага Новага году. Апошнім разам з маім колішнім суседам па інтэрнаце мы «перасекліся» каля мэтро. Я вымавіла два словы, ад якіх зь ягонага твару адразу зьляцела звыклая прыветная разважлівасьць. Словы былі — «Курдыстан» і «Аджалан»...

— Нашыя курды ўсе зьехалі, — сказаў Амран. — Нікога зь іх цяпер няма ў Менску. Ты хіба зусім ня памятаеш, якія між намі былі спрэчкі?

Можна падумаць, сам ён шмат разумеў у нашых колішніх спрэчках з палякамі ды украінцамі!

Перш чым пражыць у Менску больш за пятнаццаць гадоў, мой сусед пасьпеў нарадзіцца ў правінцыі Гілян на паўднёвым захадзе Ірану, уцячы ад фундамэнталіста Хамэйні, павучыцца ў Кабульскім унівэрсытэце, потым зьбегчы ад незразумелай яму савецка-афганскай вайны... Цяпер вырашае, ці вернецца на радзіму, ці паедзе на Захад, ці беларускія ўлады дадуць колішняму палітычнаму ўцекачу палітычны прытулак. Курдзкае пытаньне майго знаёмага глыбока хвалюе ня толькі таму, што сярод ягоных сяброў ёсьць курды, але й таму, што ён — гілянец, прадстаўнік яшчэ адной з іранскіх нацыянальных меншасьцяў. У Іране гілянцы маюць тыя ж правы, што й курды, а іранскі Курдыстан знаходзіцца з правінцыяй Гілян зусім побач.

— Усе курды, якіх я сустракаў у Менску, — працягваў знаёмец, — гавораць пра курдзкія праблемы настолькі эмацыйна і па-аджаланаўску, што часам забываюцца нават на праўдзівыя факты гісторыі і сучаснасьці...

Натуральна, я зацікавілася поглядам свайго іранскага суседа на гісторыю ды сучаснасьць курдзкага пытаньня.

**ВЫТОКІ**

Вытокам сваёй старажытнай дзяржаўнасьці ў курдаў прынята лічыць перамогу над крыжакамі, дасягнутую пад кіраўніцтвам вялікага палкаводца Сурахадзіна Аюбі, вядомага як Саладзін. Зразумела, курды залічваюць яго першым у сьпіс сваіх нацыянальных герояў. Праўда, апанэнты такой трактоўкі гісторыі лічаць Аюбі зусім ня курдам, а пэрсам з паходжаньня, не забываючы ўдакладніць, што кіраваў ён ня курдзкім войскам, а зборным з многіх народаў «войскам ісламу».

Сем стагодзьдзяў таму курды разбурылі старажытную дзяржаву асырыйцаў. Пазьней яны трапілі разам зь іншымі народамі ў Атаманскую імпэрыю. Менавіта распад гэтай ды іншых імпэрыяў і нарадзіў многія зь сёньняшніх курдзкіх праблемаў. На пачатку XX ст. пасьля паразы Атаманскай імпэрыі ў каляніяльнай вайне частка падуладных ёй тэрыторыяў адышла пад уладу Вялікай Брытаніі (Эрзэрумскі ды Анаталійскі пакты 1909 ды 1913 г.). Пасьля I сусьветнай вайны, дзе Турцыя выступала ў хаўрусе зь Нямеччынай, распад імпэрыі працягваўся: да пераможцаў, краінаў Антанты, адышлі Ірак, Сырыя, апошняя частка Ярданіі... пад юрысдыкцыяй Стамбулу засталіся спрадвечна турэцкія тэрыторыі. Але разам зь імі — частка Курдыстану.

У 1915 годзе пачынаецца сапраўдная рэвалюцыя з мэтаю стварэньня «новай Турцыі». «Бацька туркаў» Ататурк праводзіць так званую туркізацыю краіны. Курды адыгрываюць фатальную ролю ў гэтым працэсе, мабыць, ня ведаючы, што ваююць супраць саміх сябе. Выкарыстоўваючы курдзкія збройныя атрады, Ата-

# ЧАРНАГОРЫЯ СУПРАЦЬ ЮГАСЛАВІІ

*Сытуацыя на Балканах у асьвятленьні прарасейскіх СМІ выглядае як агрэсія NATO супраць мірнае Югаславіі, адзіным паратункам для якое можа быць толькі вайсковая дапамога з боку Беларусі й Расеі. Пра галоўную прычыну новага балканскага канфлікту — касаўскую праблему — амаль ніхто ня згадвае. Пра крывавыя рэйды сэрбскай паліцыі супраць албанскага жыхарства Косава і дыктатуру Мілошавіча маўчаць. На трупах касавараў ды сьлязах сэрбаў ідзе вялікая палітычная гульня пад сьцягамі мітычнага «славянскага братэрства». Як спроба застрашыць NATO ды скарыстацца расейскаю зброяю выглядае задума Мілошавіча далучыцца да беларуска-расейскага саюзу. У афіцыйных СМІ шмат гавораць пра пастанову югаслаўскай Скупшчыны аб прыняцьці краіны ў склад гэтага саюзу. Пры гэтым ніхто ня кажа, што яна нелегітымная, бо прынятая без уліку думкі Чарнагорыі. Чарнагорыя ж мае сваё, адрознае ад афіцыйнага Бялграду, глядзішча на падзеі вакол Косава.*

*Чарнагорыя даўно адхіленая ад удзелу ў саюзных органах Югаславіі, і яна, закладнік бязглуздае палітыкі дыктатарскага сэрбскага рэжыму, усё больш схіляецца да выхаду з фэдэрацыі. Малады прэзыдэнт Чарнагорыі Міла Джуканавіч — сымбаль імкненьня адной з найстаражытных славянскіх дзяржаваў да незалежнасьці і непрыманьня ідэяў славянскага расізму. Ягонае глядзішча будзе цікавым чытачам «НН», калі ўзяць пад увагу падабенства беларускага й чарнагорскага бяспраўнага становішча ў складзе адпаведных саюзаў.*

— Як спадар прэзыдэнт ацэньвае ідэю Мілошавіча аб далучэньні Югаславіі да Саюзу Беларусі й Расеі?

— Мілошавіч фармальна пераўтварыў сваю ідэю ў ініцыятыву югаслаўскага парлямэнту. Гэтак званага парлямэнту, бо прадстаўнікі Чарнагорыі ня ўдзельнічаюць у Скупшчыне. Югаслаўскія фэдэральныя інстытуты фактычна даўно ня дзейнічаюць. Саюзны парлямэнт існуе ва ўрэзаным стане, таму па сутнасьці ягоная прапанова аб далучэньні да Саюзу Беларусі й Расеі ня мае пад сабой грунту, бо сваё глядзішча мусіла выкласьці й Чарнагорыя. Мілошавіч скарыстоўвае сытуацыю, калі Югаславія апынулася ў стане вайны з NATO і жадае ўцягнуць у канфлікт Расею, каб паказаць слушнасьць сваёй тэорыі, быццам з Балканаў пачнецца III сусьветная вайна. Мілошавіч у сваіх амбіцыйных задумах спадзяецца скарыстацца з сяброўскага й спагадлівага стаўленьня Расеі да Югаславіі.

— З спадаром прэзыдэнтам не было кансультацыяў з сэрбскага боку?

— Не, аніхто не кансультаваўся ані з мною, як з прэзыдэнтам Чарнагорыі, ані з нашым парлямэнтам.

— Якое Вашае стаўленьне да праблемы альбанскіх уцекачоў, якіх шмат у Чарнагорыі?

— Косаўская праблема мусіць быць развязана палітычным чынам. Кожны від гвалту ў Югаславіі — гэта памылка. Я папярэджваў пра памылковасьць вайсковае акцыі ў Косаве. Калі NATO хоча нанесьці паразу Мілошавічу ды зьліквідаваць ягоны дыктатарскі рэжым, дык гэтага ня ўдасца зрабіць з дапамогай зброі, бо гэта толькі ўзмацняе яго. Праблема Косава мае сваю перадгісторыю ад часу скасаваньня 10 гадоў таму косаўскае аўтаноміі, і ўжо тады трэ' было шукаць выйсьця, а цяпер, калі канфлікт зацягнуўся, распачынаньне вайны сталася няслушным актам. Нашага голасу розуму не пачулі.

— Ці ёсьць пэрспэктыва дэмакратычных зьменаў у Югаславіі?

— Дэмакратычныя зьмены ў Сэрбіі патрэбныя. Мілошавіч супраць дэмакратыі, але пакуль ня будзе ўсталяваная дэмакратыя, казаць пра рэформы і ўдзел Югаславіі ў інтэграцыі з эўрапейскай супольнасьцю немагчыма.

— Якія надзеі Вы ўскладаеце на косаўскага лідэра Ібрагіма Ругову і ці ўважаеце яго за чалавека, здольнага цяпер займаць пасаду прэзыдэнта Косава?

— Цяпер гэта нерэальна, бо Мілошавіч паказвае, што ён не разумее патрабаваньняў часу. Некалі Ругова быў сапраўдным лідэрам Косава, цяперака яго з нацягам можна назваць аўтарытэтным палітыкам. Патрэбная міжнародная ініцыятыва ва ўрэгуляваньні канфлікту, пэўны спадзеў ёсьць на Расею. Чарнагорыя гатовая ў кожным разе зрабіць свой унёсак у стабілізацыю сытуацыі ў рэгіёне.

*Вайна на Балканах ідзе пад няспынным плыняй хлусьні, што ліецца на нашыя галовы з расейскіх СМІ ды з адначасовым неразуменьнем усяе глыбіні й складанасьці сытуацыі з боку NATO. Ніхто не прыслухаўся да думкі маленькае Чарнагорыі: яе без запытаньня амаль улучылі ў саюз зь Беларусяй і Расеяй, на яе заляхаюць натаўскія тамагаўкі, сюды ж уцякаюць касавары. Чарнагорыя фактычна выйшла з саюзу з Сэрбіяй, засталося аформіць гэта адпаведным юрыдычным актам. Для Сэрбіі Чарнагорыя — выйсьце да мора, як Беларусь для Расеі — гэта наўпростае «вакно» ў Эўропу і закладнік у выпадку вайны. Досьвед гэтае маленькае рэспублікі ў паўднёвай Эўропе каштоўны для Беларусі, як для рэальнае ахвяры палітычных гульняў крамлёўскіх палітыкаў.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

*Косаўскія ўцекачы ў Чарнагорыі*



# КУРДЫСТАН, ПАДЗЕЛЕНЫ НА ТРЫ

турк праводзіць этнічныя чысткі і вынішчае ў Турэччыне каля паўтара мільёна этнічных армянаў.

У 1919 годзе адбываецца чарговы і апошні перападзел межаў на мапе рэгіёну. Фактычна, умовы пры гэтым дыктуе Вялікая Брытанія. Стварэньня незалежнай, прынамсі, хоць намінальна, але ўсё ж асобнай дзяржавы курдаў, гэтымі ўмовамі не было прадугледжана. Шмат для каго гэта выглядае незразумелым, улічваючы, што менавіта тады атрымаў незалежнасьць раней калянізаваны Ірак — дзяржава, якая ніколі не існавала пад гэткаю назвай — у адрозьненьне ад Ірану-Пэрсіі, што ніколі не была нічыёй калёніяй. На пэрсідзкай мове слова «Ірак» азначае «за ракою». Па-нашаму кажучы, нібыта «Зарэчча» атрымліваецца.

Як мы ўбачым потым, гэтыя тры дзяржавы (Іран з даўняй нацыянальна-дзяржаўнай традыцыяй, шмат часу залежны Ірак і калянізатар Турэччына) праз фармаваньне масавай псіхалёгіі ўскосным чынам адыграюць сваю ролю і ў лёсах курдаў.

Менавіта ў склад Турцыі, Ірану ды Іраку пасьля апошняга перападзелу межаў і адышлі часткі разрэзанага межамі Курдыстану.

Навошта гэта было зроблена? Чаму землі з кампактным насельніцтвам, якое гаворыць на адной мове і мае агульныя традыцыі, трэба было гэтак разьмяжоўваць? Відавочна, ангельскія калянізатары ставілі свае стратэгічныя мэты. Напрошваюцца аналёгіі з перасяленьнем, выгнаньнем цэлых народаў, іхным зьмешваньнем дзеля «фармаваньня адзінага савецкага народу» за Сталіна. Пры спробе вяртаньня да спрадвечных вытокаў, вызначэньні этнічных ды дзяржаўных межаў паміж народамі пры канцы існаваньня СССР тут жа ўзьнікла блытаніна, што перайшла ў некалькі лякальных войнаў на Каўказе. Верагодна, што й Брытанія мела патрэбу ў існаваньні патэнцыйнага асяродку нестабільнасьці на Блізкім Усходзе на выпадак магчымага паслабленьня тут свайго ўплыву.

Між тым вынікі такога падзелу неўзабаве пачалі зьведваць на сабе турэцкія курды. «Туркізацыя» дасягнула апагею. Было абвешчана, што ў Турцыі адгэтуль жывуць толькі й выключна туркі. Што да нацменшасьцяў, дык улады «новай Турцыі» не прызнавалі нават самога факту іхнага існаваньня. Курдаў сталі называць «горцамі», альбо «горнымі туркамі». Ім забаранілі ня толькі пісаць, чытаць, друкаваць, але й проста размаўляць на роднай мове. Яна, дарэчы, роднасная не турэцкай мове, а іранскай: яна ўваходзіць ня ў цюркскую, а ў іранскую моўную групу.

### СПРОБЫ АДРАДЖЭНЬНЯ

Сказаць, што курды да зьяўленьня Абдулаха Аджалана не адстойвалі свайго права на самастойнасьць, азначала б сказаць няпраўду. У 1943 годзе неразьбярыху падзеяў II сусьветнай вайны паспрабавалі скарыстаць для ўтварэньня незалежнай рэспублікі курдзкія камуністы. На поўначы Ірану, куды ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі, былі абвешчаныя дзьве рэспублікі — Іранскі Курдыстан ды Іранскі Азэрбайджан. Дэклараваліся іхныя незалежнасьць і дэмакратычнасьць, што не замінала кіраўнічым партыям новых краінаў афіцыйна лічыцца філіямі КПСС. У пляны Іосіфа Сталіна ўваходзіла далучэньне абедзьвюх рэспублік да СССР. Чырвонае войска выкінулі з Ірану ў выніку Тэгеранскага пакту; прэзыдэнт Трумэн тады пагражаў нават ядзернай вайной супраць СССР. Рэспублікі былі зьнішчаныя праманархісцкім войскам Ірану пры падтрымцы мясцовага насельніцтва. Каля 10 тысячаў чалавек у выніку эміґравалі ў Савецкі Саюз, неўзабаве папоўніўшы «насельніцтва» ГУЛАГу. Пракамуністычныя лідэры іранскага Курдыстану, якіх ня змог пакараць сьмерцю іранскі шах, на эміграцыі як бы выпадкова загінулі ў аварыях ды няшчасных выпадках.

Курдзкі рух у Іране пайшоў на спад і змог узьняць галаву толькі пасьля скіданьня ў 1979 годзе шаха дынастыі Пахлеві. Іранскія курды спрабуюць дамагчыся эканамічнай і культурнай аўтаноміі ў складзе гэтай краіны, але аятала Хамэйні душыць іхную барацьбу ня менш жорстка, чым зьнішчаны ім ягоны папярэднік. На думку майго знаёмага, пры ўсім сваім фундамэнталізме Хамэйні не хацеў дзяржавы, у якой усе мусульмане былі б роўнымі, як гэта запісана ў Каране. Пасьля сьмерці Хамэйні ягоныя пераемнікі сталі праяўляць большы лібэралізм у курдзкім пытаньні. Аднак яшчэ задоўга да праяваў гэтага лібэралізму іранскія ўлады неглосна падтрымлівалі рэвалюцыю курдаў, што ўспыхнула ў 1975 годзе ў суседнім Іраку пад кіраўніцтвам Мустафы Барзані. Падтрымка была абумоўленая пэўнымі супярэчнасьцямі, якія на той час існавалі паміж уладамі дзьвюх суседніх краінаў. Рэвалюцыя была падаўленая пасьля заключэньня паміж Багдадам і Тэгеранам дамовы аб спыненьні дапамогі паўстанцам. Цікава, што Мастафа Барзані пасьля паразы курдаў у Іраку эміграваў у Іран. У выніку рэвалюцыі іракцаму Курдыстану ўлады краіны далі аўтаномію. Аднак пазьней, калі яна выканала сваю «суцішальную» ролю, яе анулявалі.



*Курдзкі паўстанец*

### ПАРТЫЯ АДЖАЛАНА

Курдзкая Рабочая Партыя (КРП) узьнікла на мяжы 70-х і 80-х гадоў. Найбольш прыхільнікаў яна займела ў курдаў Турэччыны, што цалкам заканамерна: менавіта ў гэтай краіне этнічна курдзкае насельніцтва найбольш бяспраўнае. З патрыятычнымі курдзкімі рухамі Ірану, якія дзесяцігодзьдзямі адстойвалі права свайго народу на аўтаномію, КРП сувязяў ня мела. Больш за тое, разыходжаньні ў мэтах і сродках іх дасягненьня даходзілі нават да збройных сутычак паміж курдзкімі патрыётамі Ірану і атрадамі Аджалана. Як вядома, КРП, найбольш вядомая й радыкальная арганізацыя курдаў у сьвеце, ставіць на мэце нацыянальнае самавызначэньне ды стварэньне незалежнай курдзкай дзяржавы. У адрозьненьне ад іранскіх курдаў зь іхнаю выключна мірнай барацьбой за аўтаномію, КРП ня грэбуе тэрактамі й забойствам дзясяткаў людзей.

Калі гісторыя з магабадзкімі прасавецкімі рэспублікамі падказвае, чаму сёньня курдаў можна пабачыць на мітынгах камуністаў, дык ідэалёгія партыі Аджалана тлумачыць карані іншага хаўрусу. Скажам, у гарадах Нямеччыны разам з курдамі на іхныя вулічныя акцыі нярэдка выходзяць нэанацысты. Справа ў тым, што фактычна КРП — арганізацыя шавіністычнага, прафашысцкага кшталту. Яна прапагандуе гвалт і забойствы, лічыць ворагамі ўсіх туркаў, з навародкамі ўлучна, а таксама іракцаў ды іранцаў усіх плямёнаў і народнасьцяў. Мой знаёмец, які да знаёмства зь сябрамі КРП сымпатызаваў курдам і шкадаваў іх, пабыўшы безь віны вінаватым у курдзкіх праблемах, «ворагам»-іншародцам, цяпер па-свойму ставіцца да паняцьцяў «курдзкі народ» і «Курдзкая Рабочая Партыя». Што да ідэалягічнага хаўрусу партыі Аджалана з «нэанацы», то менавіта нянавісьць да туркаў увогуле і нямецкіх туркаў, у прыватнасьці, яднае адных і другіх. У Нямеччыне пасьля II сусьветнай вайны асела даволі шмат туркаў, якія, між іншым, адыгралі сваю ролю ў адбудове краіны пасьля паразы гітлераўскага рэжыму.

Нягледзячы на розьніцу ў радыкалізьме мэтаў і сродкаў барацьбы зь вялікай часткай нетурэцкіх курдаў, КРП мае свае базы на тэрыторыі Ірану ды Іраку. Праўда, частка тамтэйшых курдаў лічыць Абдулаха Аджалана ня «бацькам курдзкага народу», а ягонай ганьбай. Ходзіць шмат чутак пра сувязі Аджалана з італьянскай мафіяй і вялізныя сумы «наркадаляраў» на ягоных замежных рахунках.

Ці мог у Турцыі паўстаць нейкі іншы, адрозны ад КРП, менш радыкальны ў сродках барацьбы, не шавіністычны й не мафіёзны рух курдаў? Мой знаёмы іранец катэгарычны: не, ня мог. Зь ягоных словаў, любы рух мірнага супраціву курдаў (кшталту нашага БНФ) быў бы проста фізычна вынішчаны турэцкімі ўладамі. Гвалтоўныя дзеяньні і ідэалёгія КРП — парадкэньне акупацыйнага гвалту.

### ТРЫ КУРДЗКІЯ НАРОДЫ?

«Самавызначэньне курдаў — лёзунг, які мае права на існаваньне, але ня мае сэнсу, — лічыць Амран. — Ня мае таму, што аб'яднаньне аднаго народу немагчыма ажыцьцявіць на грунце трох цалкам адрозных культураў». Прадстаўнікі курдзкае нацменшасьці ў Іране, Іраку й Турэччыне ў апошнія дзесяцігодзьдзі існуюць у вельмі розных, часам непараўнальных умовах. Прыкладам, у Іране ў курдаў ёсьць рэальная магчымасьць разьвіваць сваю мову й літаратуру. Па краіне распаўсюджваецца сямнаццаць пэрыядычных выданьняў на мовах нацыянальных меншасьцяў (і нават на дыялектах), і гэта толькі выданьні агульнаіранскія. Па рэгіёнах іх яшчэ больш. Курдзкамоўная прэса — не выняткам з гэтага правіла. У іранскай частцы Курдыстану існуюць ня толькі газэты, але й радыё, тэлевізія на роднай мове тутэйшага насельніцтва — курдзкай. Дасягненьні літаратуры й культуры курдаў у Іране агульнапрызнаныя, яны сталіся часткай культуры краіны. «Я кажу пра гэта зусім не з сваіх патрыятычных іранскіх перакананьняў, — падкрэсьліваў у гутарцы мой знаёмец, — а таму, што ўсё гэта ёсьць насамрэч». Наяўнасьць у Іране свабодаў для нацменшасьцяў тлумачыць пэўную памяркоўнасьць большасьці тамтэйшых курдаў, якім для шчасьця не стае толькі асаблівага статусу іранскага Курдыстану ўнутры Ірану.

Нічога зь пералічанага вышэй курды ня маюць у Турэччыне, дзе іх працягваюць лічыць нейкімі «горнымі туркамі» і забараняюць нават размаўляць на роднай мове. Іхная нацыянальная годнасьць настолькі прыніжаная, што структура кшталту КРП і лідэр тыпу Аджалана паводле ўсіх законаў жыцьця й логікі зь філязофіяй ня мог не зьявіцца на гэткай глебе.

Што да курдаў Іраку, то яны, як іхныя браты ў суседнім Іране, не пазбаўленыя ўладамі сваіх СМІ. Але зразумела, што не ад добрага жыцьця й дэмакратычнага ладу ўсе курдзкія СМІ — у апазыцыі да рэжыму Садама Хусэйна (дарэчы, яшчэ ў бытнасьць Садама Хусэйна міністрам замежных справаў паміж Іракам ды Іранам увесь час узьнікалі праблемы з дэмаркацыяй мяжы на памежных курдзкіх тэрыторыях).

Ніводная з трох частак этнічнага Курдыстану ня мае статусу аўтаноміі ў складзе той ці іншай краіны. Між тым умовы жыцьця й палітыкі ўладаў зрабілі сваю справу: іранскі, іракі й турэцкі курд — абсалютна розныя людзі, як тры браты-блізьнюкі, якіх выхоўвалі ў зусім розных умовах. Справа ня толькі ў пэрсідзкім альфабэце, якім карыстаюцца іранскія курды пры пісьме на роднай мове, а ў сьветаглядных і духовых адрозьненьнях. Іранскія курды лічаць сябе адным са спрадвечна пэрсідзкіх народаў і жывуць у сапраўды этнічна блізкім атачэньні (уявіце сабе для параўнаньня беларусаў Смаленшчыны, якія мелі б беларускамоўныя СМІ, кнігадрук і школы). Курды Турэччыны й Іраку жывуць сярод цюркскамоўных народнасьцяў зь іншымі традыцыямі і пры той ці іншай ступені ўціску на этнічнай глебе пачуваюцца чужымі. Тым ня менш, як кажа мой знаёмы, курдзкамоўная літаратура іранскіх курдаў — зьява, чужая для іхных суродзічаў зь іншых частак Курдыстану. Але гэта цалкам натуральная зьява для сучаснага Ірану, дадае ён. Духова больш блізкія адзін да аднаго курды Іраку ды Ірану.

У выпадку рэалізацыі такой ідэі КРП, як зьбіраньне ўсіх курдзкіх земляў пад адным дзяржаўным «дахам», гэты народ напэўна б чакала не адзінства, а непаразуменьні, грамадзянская вайна й крывавая барацьба за ўладу. Доўгачаканы нацыянальны дом зусім не абавязкова аказаўся б тады для курдаў крэпасьцю.

Сёньня прыблізна 4,5 мільёны этнічных курдаў пражываюць у Іране і каля 7,5 мільёнаў — у Іраку. У Турэччыне ж курдаў больш, чымся ў гэтых краінах разам — пад 17 мільёнаў.

Пасьля арышту Абдулаха Аджалана турэцкімі ўладамі курды ўсяго сьвету, падобна, забыліся на свае ідэйныя разыходжаньні, выступаючы ў падтрымку лідэра Курдзкай Рабочай Партыі. Ягонае зьняволеньне, магчымае жорсткае абыходжаньне зь ім і пакараньне сьмерцю, што пагражае яму, падштурхнулі курдаў да праяваў этнічнай салідарнасьці. Нягледзячы на колішнія перастрэлкі з баевікамі КРП, іранскія курды цяпер праводзяць мітынгі салідарнасьці з Аджаланам. Іранскія ўлады гэтыя мітынгі не забараняюць...

**Тацяна Сьнітко**

# КАЗКІ ЖЫЦЦЯ

## МІКОЛКА-ПАРАВОЗ

Колькі гадоў таму, калі я ўстаў пад бел-чырвона-белыя сьцягі, адзін нацыяналіст азадачыў мяне просьценькім пытаньнем: «А які твой улюбёны беларускі літаратурны герой?» «Міколка-паравоз», — адкруціўся я. Але ўсё ж наважыўся тэрмінова й дэталёва пазнаёміцца з тым, ад чаго мяне на працягу майго школьнага навучаньня так доўга вызвалялі — з тоўстымі кніжкамі на беларускай мове.

Я менавіта так і сказаў зьбянтэжанай бібліятэкарцы: «Дайце мне тры самыя тоўстыя кніжкі на беларускай мове». Замова была задаволеная хутка. Праз пару хвілінаў бібліятэкарка вынесла мне «На ростанях» Коласа, «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча і «Палескую хроніку» Мележа. Таўшчынёю тамоў я застаўся задаволены.

Першым на маім шляху зьявіўся вясковы настаўнік Лабановіч.

Непітушчы сацыяліст з арыентацыяй на Расею. Чалавек даволі сумны, часам нават занудны. Але згадваю яго толькі добрымі словамі. Менавіта ён навучыў мяне сваёй мове, зрабіў завочную экскурсію ў Пішчалаўскі замак — цяперашнюю Валадарку і паказаў шлях да Вільні. На гэтым мы й разьвіталіся.

Наступны герой, вельмі малады, празрыстай душы чалавек, які, нібы Магелан, адкрыў сваю краіну ды вырашыў стаяць за яе насьмерць, падаў мне іншы ўрок. Слова «Беларусь» у яго арганічна спалучалася з залітай сьвятлом жырандоляў залай родавага палацу, кінутай у твар пальчаткай, разьлітай па шляхетным навакольлі шчымлівай мэлёдыяй разьвітаньня з радзімай. Але, на жаль, я безнадзейна перарос маладога пана Загорскага ў цынізьме.

Але тое, што Беларусь — гэта яшчэ й беспрагляддзе надзеяў і безвыходнасьць лёсаў, на ўсю поўніцу даў мне адчуць аўтар трэцяй тоўстай кніжкі. Якую я адкладаў на пасьля, напалоханы ленінскім ляўрэацтвам пісьменьніка. Толькі, як высьветлілася, дарэмна. Гісторыя закінутай у балотах палескай вёскі Курані чыталася мною з імпэтам паглынальніка дэтэктываў.

Пасьля я ня раз бываў у знаёмых мясьцінах. На некалі вірлівым пляцы мястэчка Юравічы перад велічнымі руінамі езуіцкага калегіюму лянiва апахмяляліся ўнукі Васіля Дзятла. На Берасьцейшыне, у размаляванай мацюкамі залі аднаго з закінутых шляхецкіх палацаў, тры яснавокія хлапчукі мірна рэзаліся ў буру. Нязьменнай засталася толькі Вільня.

На старое ж пытаньне я адказваю па-ранейшаму: «Міколка-паравоз» —

мой любімы герой. Я ніколі не прачытаю аднайменную кніжку. Але езьдзіць на паравозе люблю. Асабліва да Вільні.

**Зьміцер Бартосік**

## ПРА ІДЭАЛЫ

У год, калі памёр Сталін, мой бацька стаў у сваёй вясковай школе старшынём камсамолу. У той час ён быў захоплены Кастусём Каліноўскім і паклаў нямала намаганьняў, каб школе надалі імя слыннага паўстанца. Канстанцін Вікенці Каліноўскі ўяўляўся яму тады хлопцам у сялянскай сьвітцы, рыхтык як на палотнах Гугеля й Кудрэвіч, дзе ён ачольвае сярмяжнае сялянскае войска. Юначы імпэт, аднак, ня быў ухвалены ў вышэйшых інстанцыях, хоць бацькава школа й выбілася ва ўзорна-паказальныя. Граматы далі. Пра Каліноўскага паралі не шумець. Недзе тады ў юначых душах і былі пасеяныя зярняты нязгоды і прынцыповае беларушчыны.

... Ідэалы-пэрсаналіі — усё ж справа ўзроставая. І я быў у дзяцінстве неарыгінальны, калі марыў быць мараком, геолягам і лётчыкам. Тады для мяне ідэаламі былі пэрсанажы Стывэнсана, Вэрна і Сабаціні. Праўда, невядома адкуль, праклюнулася і любоў да каўкаскіх герояў з расейскае



літаратуры. Я вельмі шанаваў Шаміля, чым зьдзівіў настаўніцу тае самае літаратуры. Гэтак і напісаў у сачыненьні, што мае ідэалы — гэта Спартак, які ваяваў з Рымам і Шаміль, які ваяваў з Расеяй. Савецкая школа ў БССР спараджала і такія гібрыды. Бракавала толькі беларускага кампанэнту. Калі ж па праграме дайшлі да Каліноўскага, дык я «адхінуў усе сумненьні разам». Натуральна, маё захапленьне, па сямейнай традыцыі, было бязьмежным. Калі ж я перажыў і ўзрост Каліноўскага, дык узораў для пераймання й шанаваньня стала меней...

Сталеючы, людзі разумеюць, што героі кніг і кіно — гэта мастацтва. Толькі мастацтва... І пакрысе забываюцца на мушкецёраў, індзейцаў ды палярнікаў. Шукаюць узораў сярод жывых. Аднак ідэал — недасяжны. І ў набліжэньні многія куміры могуць аказацца ня гэткімі, якімі нам іх малюе нашае ўяўленьне. Чытаючы кнігі Караткевіча, я ўяўляў яго калі ня Чорным Воінам, дык прынамсі Андрэем Беларэцкім. Мне пашчасьціла пазнаёміцца зь ім асабіста. Я не расчараваўся. Проста раз і назаўсёды пераканаўся ў тым, што творца й яго-ная торчасьць ня тоесныя.

Аўтарытэтам для мяне ёсьць асобы, якіх я ведаю асабіста і якія мяне не расчаравалі на працягу нашага знаёмства. Асобы, якія мяне здзіўляюць. Мяне зьдзіўляе папа Ян Павал II, які кожны дзень прамаўляе да людзтва, заклікаючы быць людчэйшымі, і, сярод бальканскае куламесы не шукае «сваіх» і «чужых», каб нешта зьмяніць у нашых душах. Мяне зьдзіўляе Васіль Быкаў, які па-ранейшаму піша і не мяняе сваіх прынцыпаў, які не пакідае стараца нешта зьмяніць у людзкіх галовах. Мяне зьдзіўляе мой бацька, які штодзённа ходзіць настаўнічаць за мізэрныя грошы, каб штосьці зьмяніць ва ўяўленьнях студэнтаў і па-ранейшаму шануе Кастуся Каліноўскага... Асобы, якія добра робяць сваю справу.

**S.H.**

## «ПАСЬЛЯ ЛУКАШЭНКІ»

Кіраваць ён будзе намі 30 гадоў. Мне будзе 65, калі настане гэтае «пасьля». Хоць я ня бачу сэнсу столькі жыць у такай краіне, як і не знаходжу жаданьня яе пакідаць. Можна лічыць маё прызнаньне прыкметай прыналежнасьці да «людзей на балоце». Наш праклён — каўтун. Гэта наш крыж. У кожнага народа ён свой. Перакласьці на іншыя плечы немагчыма.

Наконт трыццаці гадоў паведаміў Глоба. Я ня веру прадказальнікам. Але не магу не даваць веры паважнасьці намераў закулісных арганізацыяў, якія агучвае падобная публіка. Узгадайце, што было ўкладзена ў вушы электарату: вамі будзе кіраваць 40-гадовы і г.д. Ён сам паўтараў, што прыйшоў «усур'ёз і надоўга», пакуль ня быў упэўнены. Але цяпер больш не паўтарае.

Ён, верагодна, ня стане прэзыдэнтам старэйшага брата, бо старэйшы брат развальваецца на кавалкі. Але затое яму паставяць помнік. Паводле Глобы. Толькі ня ведаю пакуль, дзе. Каля акадэміі навук, акадэміі міліцыі, сельгасакадэміі, міністэрства калгаснага ладу або побач акадэміі мэханізацыі сельскай гаспадаркі? Ня выключана, што для помніка будзе насыпаны курган, ад кожнага калгасу — па машыне зямлі.

Выдатны шанец атрымае саюз пісьменьнікаў — паўтарыць лацінаамэрыканскі літаратурны фэномэн. Без дыктатарскага рэжыму такое найрад ці магчымае.

Будзе створана і даведзеная да выбітнага ўзроўню галерэя ягоных партрэтаў. У маёй шуфлядзе зьявіцца альбом паштовых марак з прэзыдэнцкімі сюжэтамі, цэлыя сэрыі: «прыём у акцябраты», «камсамольскі важак», «на ахове заходніх рубяжоў савецкай айчыны», «шлюб», «у саўгаснай канторы», «барэц з мафіяй», «стрэл у Лёзьне», «клятва на канстытуцыі», «сэлектарная нарада», «арнамэнт», «зьнішчэньне шляхбаўмаў» і г.д. Дапускаю, што партрэт зьявіцца таксама ў цэрквах.

Надрукуецца вялікі збор твораў. Адных толькі праклёнаў супраць NATO — цэлы том. Частотны слоўнік мовы: «жульё», «біць па мордзе» і ўсё такое. Скарынаўскі мэдаль атрымаюць усе гараданачальнікі ў краіне старэйшага брата — да райцэнтру ўлучна.

Усё гэта стане нашым «пасільным укладам» у сучасную эўрапейскую цывілізацыю. Праўда, каб пасьля выйсьці з рабства, нам усё адно ня хопіць дзесяці гадоў...

**Сяргей Астраўцоў, Горадня**

СЛОЎНІК ПАНЯЦЬЦЯЎ

## §4. АДАМ ГЛЁБУС І ДЭФЛЯРАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ.



Куды глядзіць галоўная вуліца Менску, якая ў розных часох і пры розных рэжымах, натуральна, і называлася па-рознаму -- праспэктам Сталіна, Леніна і нарэшце Скарыны? Яна глядзіць на Маскву. У такой «адвольнай» плянамэтрыі прачытваюцца закладзеныя ў беларускай сталіцы сэнсы -- быць горадам імпэрскага значэньня і адначасна гэткім сабе нэкропалем, дзе ўсё, асуджанае пэўнымі сіламі на сьмерць, памірае, адыходзіць, так што толькі ўважлівы назіральнік здолее распазнаць сьляды прамінулага, страчанага, зьбяёданага.

Нішто так не характарызуе Менску, як разьмешчаныя ў ім грамадзкія прыбіральні. Папершае, іх заўсёды катастрафічна не ставала, і таму ўвесь Менск ператвараўся ў адну вялікую прыбіральню. У адрозьненьне ад сусьветнай практыкі, у ім няма і не было прыбіральняў пры мэтро, буйных установах гандлю і, нават, пры асобных кавярнях і іншых прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня. Відаць, ужо на ўзроўні праектаваньня адпаведныя фізіялягічныя патрэбы ўспрымаліся падазронымі й нячыстымі, нечым такім, што савецкаму чалавеку сьветлага заўтра было чужое, чаго ён павінен быў катэгарычна выракацца ці, прынамсі, стрымліваць у сабе ў зародку. Па-другое, як казала мая знаёмая зь Нямеччыны, у Менску самыя сьмярдзючыя [грамадзкія] прыбіральні на сьвеце. Для мяне дагэтуль застаецца загадкай, што ж там так сьмярдзіць, выпаражненьні беларускіх грамадзянаў ці нешта большае. І, можа, гэтая тхліна раскладаньня проста зыходзіць з гэтага ўяўленага намі на хвіліну нэкропалю?

Як бы там ні было, але ўжо адпраўленьне сваіх натуральных фізіялягічных патрэбаў для савецкага кіраўнічага зьвяна было па сутнасьці сэксам. У гэтым мы бачым пэрвэрзію. Увогуле, пэрвэрзія (ці, інакш, вычварэньне, перакручваньне, скрыўленьне) зьяўляецца ўнівэрсальнай характарыстыкай шмат якіх кавалкаў старой і новай беларускай рэчаіснасьці і, у тым ліку, стану гуманітарнай веды. Возьмем, напрыклад, тое, што ляжыць пад рукой. Тое, што называецца ўва ўнівэрсытэцкіх падручніках «сучаснай беларускай мовай» (дык як, паважаныя таварышы акадэмікі, усё-ткі будзе па-беларуску — *форм* ці *формаў*?), на добры лад ёсьць ня чым іншым, як радыкальнай пэрвэрзіяй беларускай мовы як такой. Падумаць толькі, якому калясальнаму псэўдаўніфікацыйнаму ціску паддавалася мова, якая да пачатку XX ст. існавала ў нешматлікіх пісьмовых фіксацыях і фактычна ня мела ўласнай кніжнай традыцыі.

Малады беларускі пісьменьнік Адам Глёбус праяўляе цікавасьць да многіх бакоў жыцьця. Таму й палавое жыцьцё, якое так старанна ігнаравалі яго беларускія літаратурныя настаўнікі, ня можа пакінуць Глёбуса абыякавым. Ён не здавальняецца голым апісаньнем адпаведных сцэнаў, яму хочацца дасягнуць максымальнай мастацкай разьняволенасьці. У выніку нярэдка перад вачыма чытача адкрываецца тое, што ў падручніках па сэксалёгіі называецца пэрвэрзіяй — у яго кнігах адна дама суполіцца зь пацьма панамі, завязваюць трывалыя сяброўскія сувязі людзі зь нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыяй і г.д. Ня трэба, аднак, забывацца, што для аўтара гэткая пэрвэрзія зьяўляецца ня чым іншым, як дзейсным сродкам эмансыпацыі, адыходу ад састарэлых схемаў і канвэнцыяў.

**Валерка Булгакаў**

## ГІСТОРЫЯ

## Гэнрык Жавускі

# РЭЙТАН

З нас, старых, сьмяюцца, што мы заўсёды радыя гаварыць пра даўныя часы і пра даўнейшых людзей. Але што ж паробіш, калі й часы, і людзі тады былі лепшыя, чымся цяпер! Нязьведаныя шляхі Боскія: Пан Бог гатовы быў пакінуць Садом, абы ў ім, прынамсі, зь дзесяток праведных знайшлося, — ды няўжо гэткай малое лічбы ў нас не знайшлося? З тым ніколі не згаджуся. Нэндзнасьць і прыгнёт бывалі частымі зьвестунамі вялікага багацьця. Таму людзі, дасьведчаныя ў навуках Боскіх, якія асягнуць можна толькі цнатлівасьцю сэрца і страхам нязьмерным, пра гэта добра ведаюць; стогнуць, як той казаў, пад нястомным дабрабытам і радыя, калі які неспадзяваны клопат перарве ім трохі клубок, снуты заўсёды прыязным лёсам.

Гэткім быў Ягамосьці Рэйтан, падкаморны Наваградзкі, якога ў маёй маладосьці меў шчасьце часта бачыць, бо хадзіў у школу з усімі ягонымі сынамі, апроч пана Міхала, які выхоўваўся ў Нясьвіжы з князем Каралем Радзівілам, гетмановічам вялікалітоўскім. Ягамосьці падкаморы быў службоўцам, якіх і даўней нат ня шмат было; бо і ў розуме надзвычайным, і справядлівасьцю быў ледзьве ня роўны сьвятым судзьдзям тым усяго людзтва Божага. А які быў пабожны і вернік!, што калі б не пакорнасьць, то мёртвых уваскрашаў бы. Ён то й быў асаблівым дабрадзеем айцоў езуітаў у Навагрaдку, а тамтэйшы бедны дамініканскі кляштар, дзякуючы ягонае шчодрасьці, стаўся адным з найбагатшых на Літве. Бывала, ён штомесяц склікаў законьнікаў у Грушаўку, каб разам пасьціць і рыхтавацца да споведзі, то як які вінавайца дысцыплінаю катаваў сябе і ня толькі сябе, але і ўсю чэлядзь. «Мой хлеб законны ясьце, — дык і патурайце мне», — і страху на ўвесь двор, калі зьяўляецца які дамініканец ці езуіт. І ніводны слуга ад яго не пайшоў: старэлі і паміралі ў яго, і былі настолькі адданыя, што ў агонь за яго скочылі б, хоць і быў грозны. Ды ня толькі слугі, але й жонка і дзеці былі як на духу перад ім. Шчасьце незвычайнае меў ён: з бацькоўскай спадчыны багаты, стала багацьце павялічваў сваё, хоць і здавалася, што пра яго ня дбаў. Ані спытаўся калі, што там на палетках робіцца. Аконамы яго як хочуць, так і правяць, а ён кажа: «У мяне пан Езус — гаспадар, Найясьнейшая панна — гаспадыня». Гэткім быў ад усяго далёкім, што нават у спадчынны Бераздаў, што ў ваяводзтве Полацкім ад Вялікіх Лук непадалёк, за ўсё жыцьцё быў усяго на пару тыдняў завітаў. Там жа, калі ўспадчыньніў яго па бацьку, шэсьць фальваркаў было, дзецям жа сваім пакінуў адзінаццаць. Меў ён яшчэ па бацьку Грушаўку, дзе жыў, трыста хат у Мазыршчыне, ужо з уласнага набытку, і дажывоцьце ў Рубяжэвічах ад княжны канцылярыны Радзівілавай, якая, дзякуючы ягоным слушным парадам, мільёны сабе ацаліла. Ні перад кім не запабягаў, ні аб чым не прасіў ні ў кога, і пра ўласныя інтарэсы не клапаціўся. Да ўшанаваньняў і славы роўна быў абыякавы: два разы абіралі яго дэпутатам, раз паслом, потым земскім судзьдзём, нарэшце быў ухвалены на найпершую пасаду ваяводзтва. І на ніводным з тых соймікаў не прысутнічаў. Кожны ляўдум і кожны прывілей шукалі яго ў Грушаўцы, а ня ён іх у Навагрaдку альбо Варшаве.



Ён ня раз непакоіўся з-за гэткай трываласьці ўдачы. Аднаго разу згарэў у яго гарэлачны склад, у якім захоўваўся колькігадовы запас. Уратаваць нічога не ўдалося; на трыццаць тысячаў пайшло дабра з дымам; увесь дом быў у смутку, толькі ён адзін сьмяяўся.

— Хоць адзін раз не пашанцавала. Я рады, што пан Бог пра мяне памятае.

Ды было гэта, як жарт лёсу; дня не мінула, як атрымаў ён прывілей на староства Крычаўскае, якое за год яму прынесла больш, чымся толькі што страціў. Усе дома радаваліся, але ня ён: гэта звалілася яму, як камень зь неба, бо ні стараўся, ні сувязяў пры двары ня меў. А ў жыцьці сямейным які ён быў шчасьлівы! Жонка, як той анёл у чалавечым абліччы, такая цнатлівая і прыгожая; сыны ў веку кавалерскім, ды такія, што кожны бацька пазайздросьціць; а трох дачок, прыгожых паненак, можна было прыняць за малодшых сясьцёр маткі. Яшчэ пры жыцьці выдаў іх за нашчадкаў самых слынных радоў ваяводзтва. Адну ўзяў пан Павал Есьмян, харужы слонімскі, продак якога быў ваяводам смаленскім; другую выдаў за пана Казімера Гарабурду, старосту віляцымоўскага, род якога ва ўсёй Літве ня меў над сабой старажытнейшага; трэцяя пайшла за пана Яўхіма Рдултоўскага, кашталяна наваградзкага, які пасьля сьмерці цясьця стаў падкаморым нашым. Да таго ж такі здаровы быў, што восемдзесят гадоў маючы, лекаў ня ведаў. І калі пачаў слабець, на чатыры гады прыкуты да ложка, пасьля чаго і сьмерць прыняў, увесь пакрыты ранамі, нязносны боль церпячы (так лекары казалі, але па ім таго не відно было), калі ўсе плакалі, ён весялейшы як калі быў. Жартаваў:

— Рады я, што Божа пра мяне жывога ўспомніў і мушу я ў пакутах задумацца аб сваім лёсе: калі раней я сам сябе хвастаў, то зараз Ён мяне хвошча.

Без сумневу Пан Бог душу ягоную забраў на неба, а на зямлі між усіх годных дзяцей узнагародзіў яго Тадэвушам, адным з найвялікшых мужоў стагодзьдзя.

У школах пан Тадэвуш бадай ці не апошнім вучнем быў, бо да навук здольнасьцяў ня меў, а ў гульнях задуменны і нават пануры; не было ў яго тае таварыскае жылкі, гэтак неабходнай, каб стаць папулярным. Айцы езуіты доўга высільваліся, каб адвучыць яго ад заўсёднай задуменнасьці, але пераканаўшыся ў марнасьці сваіх намаганьняў, пакінулі ў спакоі; а ў паводзінах сваіх быў вельмі добры і паслухмяны перад начальствам школьным, і хоць езуіты ў выхаваньні школьнай моладзі былі вельмі строгімі, ды за колькі гадоў пан Тадэвуш ня быў ніводнага разу аштрафаваны. Раз толькі яго моцна пакаралі, і вось зь якой прычыны. У чацьвертай клясе вучыўся Ўладзіслаў Аскерка, кашталяніч наваградзкі, унук апошняй з роду Гансеўскіх, якая з пасагам вялізную частку сваёй бацькавіны Аскеркам прынесла. Гэта быў хлопец вельмі разважлівы і надзіва здатны да навук. Неяк пад час майскай рэкрэацыі размова зайшла пра гетмана Гансеўскага, аб ягонай славе і заслугах. Адзін з вучняў сказаў, што далучыўшыся да Тышавецкай канфэдэрацыі, ён змыў зь сябе ганьбу супрацоўніцтва з швэдамі. Кашталяніч жа пачаў бараніць свайго продка, даводзячы, што той мусіў лічыцца з абставінамі і добра зрабіў, што, бачачы, што сябе загубіць ды не ўратуе краю, каб ацаліць жыцьцё сваё да часоў лепшых, пайшоў на змову з ворагам. На гэта пан Тадэвуш так абурыўся, што схапіўшы камень, запусьціў ім у галаву кашталянічу — той ажно крывёю заліўся. Гэтая падзея нарабіла шуму на ўвесь кляштар. Гэты ўчынак пана Тадэвуша быў яму не на карысьць яшчэ й таму, што кашталяніч не абвінавачваў яго. Сам рэктар пакараў пана Тадэвуша, а потым загадаў яму на каленях прасіць прабачэньня ў пакрыўджанага калегі. Але пан Тадэвуш, пад розгамі сьлязы ніводнай не пусьціўшы, адказаў:

— Не папрашу.

Яго яшчэ некалькі разоў секлі, але нішто не дапамагло. Ён быў, як скала. Ксёндз рэктар ня стаў яго больш біць, каб не надарваць здароўя, але ў каталажку заперці загадаў, адкуль яго толькі на ўрокі выпускалі. Гэткім чынам хацеў да пакоры яго змусіць. Чатыры тыдні ён мужна вытрымаў, ажно пакуль сам Ягамосьці Аскерка, кашталян наваградзкі, прыехаўшы ў школу і даведаўшыся пра ўсё, сам не папрасіў за яго. Бывалі яшчэ й частыя сутычкі паміж студэямі, перакупнікамі і жыдамі, а скаргі прафэсарам былі такія шматлікія, што тыя, маючы каля тысячы навучэнцаў у сваіх школах, ня ведалі, як гэтаму рады даць. Але езуітам прыйшла добрая думка, якую яны ажыцьцявілі разам зь Ягамосьці Яблонскім, тагачасным ваяводам наваградзкім; яны стварылі школьны суд, які абіраўся зь ліку студэнтаў і неадкладна рассуджваў усе іхныя спрэчкі зь мяшчанамі. Напачатку гандляркі пабойваліся мець справы з студэнтамі, але неўзабаве зьмірыліся з тым законам, бо большай справядлівасьці нідзе пад сонцам не знайшлі. Суды прызначаліся пасьля абеду ў чацьвер, на іх старшыняваў прэзыдэнт, у склад уваходзіла чатырох судзьдзяў, двох пісараў і рэгент. Студэнты вялі справы, а боку, які скардзіўся, нават выдзялялі абаронцу-студэнта. Усё гэта адбывалася на вельмі прыстойным узроўні, а моладзь гэткім парадкам знаёмілася з правам і вучылася публічна выступаць. Штогод зьбіралі соймікі, на якіх абіралі праўнікаў, але калі прэзыдэнтам аднойчы выбралі пана Тадэвуша, дык на гэтай пасадзе ён адбыў ажно да сканчэньня навучаньня. Раз нават «засудзіў» самога княжыча Радзівіла, маршалковіча надворнага, які пазьней стаў канюшым літоўскім, хоць на ягоным баку былі й ксяндзы-езуіты. Бывала, пан Тадэвуш так права вучыў, каб выкарыстоўваць законы ў сваёй судовай дзейнасьці, што прафэсары мусілі сіламоц адбіраць у яго з рук кнігі. Аднаго разу ягоны брат пан Юзаф, сваволячы, нейкай гандлярцы паразьбіваў збанкі. Пачаўся судовы зыск. Гандлярка настолькі спадзявалася на справядлівасьць пана Тадэвуша, што патрабавала канчатковага рашэньня справы, але ён падняўся і сказаў:

— Тут рэч не ў даверы, а ў тым, каб чыніць паводле закону; закон жа не дазваляе, каб вінаваты вінаватага судзіў. Я лічу за лепшае выконваць законы, чымся цешыцца славай, што роднага брата засудзіў.

Пасьля Барскай канфэдэрацыі пан Тадэвуш вярнуўся дадому і абсеў у Грушаўцы. Душа ягоная, аднак, ужо была занадта зраненая, а здароўе падарванае. Апроч іншых хваробаў, у яго часта тачылася галава, а бяссоннымі начамі навальваліся і цiснулі цяжкія думкі. Да сябе нікога не падпускаў, а калі сказаў, што жыць ня хоча, браты сталі пільнаваць яго. Калі я насьмеліўся адведаць яго, і мяне яму назвалі, то ўспомніў мяне.

— Пан Севярын! Гэта мой школьны і вайсковы таварыш. Хай увойдзе.

Ён ветліва прывітаў мяне і спачатку спакойна размаўляў, але ўборздзе пачаў увесь трэсьціся і кідацца, і калі б слугі не стрымалі, то накінуўся б і на мяне. Я разьвітаўся зь ім са сьлязамі. Неўзабаве ж і скончылася ягоная пілігрымка па сьлёзных пакутах. Ён упаў у беспамяцтва і, разьбіўшы шыбу ў вакне, шклом парэзаў сабе вантробы. Праз два дні пасьля тога прыпадку ён і аддаў дух Пану Богу. Кажу — Пану Богу, бо за колькі гадзін перад сконам да яго вярнулася прытомнасьць і ён пры ясным розуме прыкладна падрыхтаваўся да сьмерці.

**Пераклаў з польскай Алег Дышлевіч**

**Генрык Жавускі** (1791–1866) — польскі пісьменьнік XIX ст. Адам Міцкевіч, зь якім Жавускі пазнаёміўся ў Рыме, быў захоплены ягонымі аповедамі пра наш побыт часоў Станіслава-Аўгуста і пераканаў яго ўзяцца за пяро, прадказваючы велізарны посьпех. Дзякуючы гэтай парадзе і зьявіліся вядомыя «Паментнікі Пана Сэвэрына Сапліцы, чэсьніка парнаўскего» (Рым, 1832; СПб, 1839) — шэраг выдатных паводле маляўнічасьці і задушэўнасьці тону карцін старашляхецкага беларускага побыту.

## АРХІВЫ БНР

Два фундамэнтальныя тамы «Архіваў БНР» складаюць разам 1700 старонак. Гэта поўнае апісаньне і частковая публікацыя дакумэнтаў Фонду №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). У выданьні ўзялі ўдзел Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк), Таварыства Беларускага Пісьменства (Вільня) і «Наша Ніва» (Менск). Але фактычна ўсю выдавецкую працу выканаў адзін чалавек — Сяргей Шупа. Ён зрабіў укладаньне, падрыхтоўку тэксту, напісаў уступны артыкул, камэнтары, выканаў пераклады, паказальнікі, кампутарны набор і макет.




*Даведкі праз тэл. (017) 227 78 92*




На пачатку году ў Нью-Ёрку выйшла **кніга ўспамінаў Яўхіма Кіпеля «Эпізоды»**. Я.Кіпель – асоба дапраўды легендарная: у 20-я гады – кіраўнік менскага маладзёвага клюбу «Беларуская Хатка», супрацоўнік Інбелкульту, у 30-я — савецкі зэк, у 1944-м – старшыня II Беларускага Кангрэсу, у 50-я — адзін зь лідэраў беларускай эміграцыі ў ЗША... Захапляльнае апавяданьне пра сустрэчы зь Янкам Купалам і Якубам Коласам, з бацькамі нацыі Вацлавам Ластоўскім, Язэпам Лёсікам, Вацлавам Іваноўскім, сяброўства зы Зьмітрам Жылуновічам, супраца з кіраўнікам беларускага супраціву ў часе нямецкае акупацыі кс. Вінцэнтам Гадлеўскім, спатканьні з расейскім генэралам Уласавым. Кніга поўная найцікавейшых сьведчаньняў пра вызначальныя падзеі беларускае гісторыі.

Выданьне можна замовіць па тэл. (017) 283-24-10.

*Працяг са старонкі 1.*

**Было. Але каб жа хоць слоўца да гэтага — пра тое, што жыць — варта.**

**Каб адчуць розьніцу, я паспрабаваў мэханічна прыставіць да Быкава Голдынгаў крэйсэр. Уявіце сабе, селянін Роўба, які ўцякае ад аблавы ў дрыгву, ужо разьвітаўся з жыцьцём, але тут зусім блізка пачуліся стрэлы — гэта былі свае, сяляне-партызаны, якія змагаліся супраць калгасаў. Або — селянін Роўба разьвітаўся — і тут відмо анёла спусьцілася зь неба і, сьветлае й чыстае, падхапіла яго на рукі, панесла з сабою ў сонечную прастору вечнага шчасьця. Гэта няпраўда? Але гэта праўдападобна — у першым выпадку з пункту гледжаньня фактаў, у другім — з гледзішча хрысьціянскае сьвядомасьці. Мы адстойваем праўду жыцьця, але самі ў жыцьці мысьлім толькі катэгорыямі праўдападабенства. Мысьленьне паспалітага чалавека — гэта не аналітычная зводка генштабу, а заўсёды — мастацкая літаратура. Менавіта так мы думаем або мусім думаць пра сваё жыцьцё, каб яно мела сэнс і працяг, і працяг сэнсу. Нашыя жаданьні абавязкова павінны збывацца. На зямлі ці на небе. Інакш мы ператвараемся ў дзікуноў, у фізіялягічныя арганізмы, інакш нам сапраўды няма для чаго жыць.**

**Уявіце, каб героі быкаўскай «Ваўчынае ямы» пры канцы твору знайшлі крыніцу, якая б іх ацаліла, і, умыўшыся ў ёй, паглядзелі на сонца і адзін на аднога і падумалі, што сталі блізкімі людзьмі. Ці хоць бы і без крыніцы — нават паміраючы ад хваробы — адчулі між сабой крэўнасьць. Была б зусім іншая гісторыя. Вы скажаце — нацяжка. А мне думаецца, што ў гэтым і хаваецца праблема выжываньня і чалавечага аптымізму беларусаў. Будзе новае лета і новае сонца, і землі ачысьцяцца, і воды ачысьцяцца, і ўнукі адселеных брагінцаў вернуцца ў свой старажытны Брагін — падноўлены і прыўкрасны, маляўнічы, туды, дзе прайшло жыцьцё дзядоў і бацькоў.**

**У грамадзкім усьведамленьні Чарнобыля дакладна гэтаксама не хапае крэйсэра, надзеі на хэпі-энд, увогуле надзеі. Чарнобыль падбіў жыцьцяздольнасьць нацыі ня столькі радыёнуклідамі, колькі гэтай вось безнадзёгай. Нацыя — у сваёй сьвядомасьці абкладзеная незразумелай і абсалютнай пагрозай — ніяк ня бачыць уласнае будучыні. Застаецца толькі марудна апускацца ў нішто.**

**Цікава было б пачытаць раман пра Чарнобыль заходняга аўтара. Якую б канцоўку прыдумаў ён? Які можа быць гэты хэпі-энд для Чарнобыля?**

**А можа ўжо позна? Можа, за трынаццаць гадоў наш кінафільм расьцягнуўся ў бясконцую мыльную опэру, а ў мыльных опэрах не бывае хэпі-энду?**

**Адна фраза ў Голдынгавым рамане асабліва запыніла ўвагу. Непрыкметная, на першы погляд, фраза. Капітан, агледзеўшы хлопчыка Ральфа і ягоных загоншчыкаў — брудных, зарослых, пабітых, размаляваных — кажа:**

**— Здавалася б, ангельскія хлопчыкі — вы ж усе ангельцы, праўда? Маглі б выглядаць больш прыстойна...**

**Перанесшы сказанае на нашыя рэаліі і на Чарнобыль, я адчуваю згаданую цывілізацыйную розьніцу. Так нагадваем мы ўсе тых бездапаможных са сваім горам хлопчыкаў-падлеткаў. І капітан кажа: здавалася б, беларусы — вы ж усе беларусы, праўда?..**

**Папрок гучыць як надзея.**

**Сяргей Паўлоўскі**

# ХЭПІ-ЭНД ДЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ



## СІНЯЯ ЦАРКВА

У дзяцінстве многія хлопцы партовага горада Гомеля марылі выключна пра марскую кар'еру. Ня быў выняткам і я. Гэтаму

спрыяла ня толькі прыгожая рака, але й наяўнасьць у горадзе над Сожам Клюбу юных маракоў і рачнікоў, дзе зімою мы вучыліся вязаць вузлы й махаць сьцяжкамі, увесну налягалі на цяжкія вёслы ялаў ды красаваліся адпрасаванымі гюйсамі ў Румянцаўскім парку, а ўлетку выпраўляліся ў падарожжы на клюбных цеплаходах. Ва ўсіх курсантаў была запаветная мара — патрапіць на «Тайфун», які спускаўся па Дняпры аж да самага Херсону. Але з далёкай выцечкай мне так і не пашанцавала, бо разьмеркавалі на ўбогі ціхаходны «Цімур», канцавою мэтай якога быў нікому невядомы Чарнобыль. Як жа мяне тады зьядала крыўда! І на клюб, і на тых шчасьліўцаў, што ўбачаць начныя агні Кіева й Днепрагэсу. Пакуль я на развалюсе «Цімуры» буду гібець у нейкім там Чарнобылі.

Але калі табе дванаццаць і постаці бацькоў паволі аддаляюцца, каб зьнікнуць за лукавінаю ракі, тады любая пристань наперадзе здаецца Кейптаўнам. Сьпяваючы піянэрска-пірацкія песьні, драючы палубу, стоячы на вахтах, мы ўвесь час марылі толькі пра Чарнобыль. Дзе абавязкова павінна быць ня так, як паўсюль. Дзе мы нарэшце кінем якар і, як сапраўдныя марскія ваўкі, ленавата хадою сыйдзем у незнаёмы, амаль замежны, горад. Каб замалявацца загарам перад дзяўчынкамі, растраціць шчодра дадзеныя бацькамі на цукеркі рублі альбо пабіцца з чарнобыльцамі.

Сваёй мэты мы дасягнулі на пяты дзень паходу. Соннае ды ўтульнае мястэчка сустрэла нас сіняй царквою на беразе, усьмешкамі месьцічаў ды неверагодным для нас дзівам — абрыкосавымі дрэвамі, што расьлі ўздоўж вуліц, як у нас таполі. Пакуль нашыя капітаны п'янствавалі ў мясцовым кабаку, мы бадзяліся па мястэчку, аб'ядаючыся тымі абрыкосамі і, згодна з указаньнем старэйшых, бокам абыходзілі царкву. Але раптам нас аклікнуў поп. Мы крыху спалохана падышлі да сіняй царквы. У апранутага ў расу мажнога барадатага чалавека аказаліся вясёлыя, жывыя вочы. Распытаўшы, адкуль такія марачкі, ды пажадаўшы шчасьлівага плаваньня, ён кожнага перахрысьціў. Самы нахабны з нас гучна запытаў: «А праўда, што Бога няма?» Але адказу папа я не магу згадаць і да сёньня. Памятаю толькі, як сьвятар праводзіў нас поглядам і як мы пасьля накінуліся на нахабніка з асуджэньнем. «Падумаеш, што Бога няма, чалавека ж нельга крыўдзіць». Так у Чарнобылі я быў упершыню ў жыцьці перахрышчаны сьвятаром, але ніякай увагі таму факту тады не надаў. Неўзабаве мы аддалі канцы й скіравалі на горад Прыпяць. Але сучасны горад нічым не зьдзівіў. На зваротным шляху мне выпала вахта. Зноў праплываючы Чарнобыль, сінюю царкву я сустрэў як нешта вельмі блізкае і глядзеў на яе, пакуль званіца канчаткова ня зьнікла з вачэй.

Праз пяць гадоў пасьля той вандроўкі пра невялікае мястэчка Чарнобыль даведаецца ўвесь сьвет. Для сьвету гэтае слова стане сынонімам апакаліпсісу. Для мяне ж яно назаўжды будзе асацыявацца з той бязьмежнай свабодай, якую адчувае птушаня, упершыню пакідаючы бацькоўскае гняздо. З чаканьнем нечага невядомага, але абавязкова толькі добрага. І зь сіняй царквою, дзе-я быў хрышчаны ня згодна з абрадам, а на шчасьлівы шлях.

**ьміцер Бартосік**

## Якім вы ўяўляеце сабе сёньняшні

**Алесь Анціпенка, дырэктар Беларускага калегіюму:**

«Я думаю, што Чарнобыль ня меў нейкіх значных сацыяльных або культурніцкіх наступстваў. Шкада, што згубілі такі вялікі кавалак прыгожай зямлі. Думаю, што было б няправільным лічыць, нібы Чарнобыль стаўся асноваю для палітычнай ці апазыцыйнай самаідэнтыфікацыі, ён ня быў пускавым мэханізмам Адраджэньня, бо ў нас было шмат іншых уплывовых фактараў. Проста аднойчы, калі на сваёй радзіме я апавядаў людзям пра наступствы радыяцыі, тлумачыў, чым Чарнобыль пагражае іхнаму здароўю і іхным дзецям, пачуў такую рэпліку, ад якой застаўся літаральна агаломшаны: «Мы і так вінаватыя»...

**Уладзімер Арлоў, пісьменьнік:**

«Лічу, што пасьля выбуху нічога істотнага ў лёсе Беларусі не зьмянілася. Каб не катастрофа, нацыя была б трохі здаравейшая біялягічна. Напэўна,магла быц крыху лепшай дэмаграфічная сытуацыя: беларускія жанчыны больш нараджалі б. Я ня схільны пераацэньваць значнасьці гэтай падзеі для Адраджэньня, бо варта паглядзець на сёньняшні стан нацыянальнай згуртаванасьці: яе няма. Бясспрэчна, Чарнобыль адыграў нейкую ролю, але ня трэба ўзводзіць яе ў абсалют. Беларускім грамадзтвам трагедыя дасюль не асэнсаваная. Увогуле ж, Чарнобыльскую катастрофу можна было б вызначыць як падзею, зь якой пачалася беларуская гісторыя XXI стагоддзя».

# НЯБАЧНЫ

Уільям Голдынг у сваім рамане «Валадар мух» распавёў пра катастрофу: над бязлюднай выспаю разьбіўся самалёт. Ацалелі адныя хлопчыкі, дзеці... На прыгожай акіянскай выспе яны знайшлі сабе мноства ежы і яшчэ нейкі час, па інэрцыі імкнуліся паводзіць сябе цывілізавана: разьмеркавалі абавязкі, парупіліся пра агонь і дах над галавою, курэлі дымам, каб іх маглі пабачыць з мора і ўратаваць. Але міналі дні, а паратунку не было. Пакінутыя сам-насам хлопцы пачалі дзічэць, забыліся пра сыгнальны агонь, пра разьмеркаваныя абавязкі. Тыя, хто заклікаў да розуму, засталіся ў меншасьці. Астатнія, пасыўна падпарадкоўваючыся імпэтнаму правадыру-дэмагогу, жылі як набяжыць, ня дбаючы пра заўтра. Урэшце ўсё скончылася нашмат большай катастрофаю: гуляючы, хлапчукі забілі двух сваіх прыяцеляў і ўрэшце падпалілі выспу...



*дзень, калі б не было Чарнобыля?*

**Ігар Бабкоў, паэт:**

«Я ня ведаю адказу на гэтае пытаньне, ды й няма жаданьня адказваць на яго. Уяўляць Беларусь без Чарнобыля бессэнсоўна. Ён проста ёсьць».

**Артур Клінаў, мастак:**

«Мне падаецца, што ў гэтым выпадку няшмат зьмянілася б. Чарнобыль на гэтай зямлі выбухнуў некалькі стагодзьдзяў таму. Калі было б ці будзе яшчэ пару чарнобыляў, дык нічога ўсё роўна не зьмянілася б і ня зьменіцца, бо для беларуса кожны такі чарнобыль — адной шкодай болей, адной шкодай меней. Чарнобыль толькі павялічыў тую чорную дзюрку, якою даўно ўжо ёсьць Беларусь. Ён мусіў выбухнуць тут, менавіта тут».

**Ірына Шаблоўская, доктар філялягічных навук:**

«Гэта пытаньне, вядома. Калі б не было Чарнобыля, усё было б па-іншаму ня толькі для нас, але і для ўсяго сьвету. Ён стаўся пачаткам новае эры; час падзяліўся на Да Чарнобыля і на Пасьля Чарнобыля. Гэта эпахальная падзея, якая паказала, што такое НТР насамрэч, да чаго яна можа прывесьці. Як гэта ні парадаксальна, але, магчыма, Чарнобыль з часам і беларусаў падштурхне ад нашай запаволенасьці да пошуку выйсьця. Трагічны духоўны досьвед Чарнобыля ўсё ж, спадзяюся, прымусіць нас зьмяніцца».

**Станіслаў Шушкевіч:**

«Каб не было той трагедыі, было б проста крыху лепей: дзеці не хварэлі б на такія страшэнныя хваробы, як рак шчытападобнай залозы, не паміралі б ліквідатары аварыі, не была б страчаная значная частка краіны. Было б меней гора».

**Тамара Шчукіна, прэзыдэнт дабрачыннага чарнобыльскага фонду «Крыніца»:**

«У першую чаргу, на маю думку, каб не Чарнобыль, як гэта ні цынічна гучыць, нашыя дзеці ніколі б не змаглі патрапіць за мяжу. Гэта страшна, вядома, але толькі дзякуючы катастрофе сотні тысячаў беларускіх дзетак паймелі магчымасьць паглядзець іншы сьвет. Гэткім чынам яны спазнаюць шмат чаго новага, і адначасова мяняецца іхны мэнталітэт, іхная сьвядомасьць. Зь іншага боку, праз Чарнобыль людзі з-зя мяжы даведаліся аб Беларусі, цікавяцца ёю. Я толькі павярнулася з падарожжа ў Італію, якое мы ладзілі для дзіцячага хору «Вечнае дзяцінства», і вы ведаеце, італьянцы пляскалі ў далоні стоячы».

**Карлас Шэрман, віцэ-прэзыдэнт Беларускага Пэн-цэнтру:**

«О, пытаньне дык пытаньне... Калі б не было Чарнобыля, быў бы, пэўне, іншы стан душы, было б нейк спакайней. Але нашмат страшнейшы іншы Чарнобыль — духоўны, які прыйшоў пасьля экалягічнай катастрофы і якім ёсьць абсалютная параза грамадзкасьці. Вялікая колькасьць людзей зьняверылася ў тым, што мы можам жыць па самасьці, а не па чужасьці. Канечне, выбух падарваў і эканоміку, і выклікаў навалу цяжкіх захворваньняў. Але Чарнобыль яшчэ не асэнсаваны як трагедыя, як катастрофа, людзі яе не ўсьведамляюць. Але той Чарнобыль, аб якім я казаў спачатку, забрудзіў не адну пятую тэрыторыі, а ўсю нашую Беларусь, і ягоным галоўным вынікам стаўся поўны зьнявер людзей».

**Падрыхтаваў Анатоль Прасаловіч**

# ЗЬВЕР

Раман Голдынга згадаўся мне, калі сябра-фатограф вярнуўся нядаўна з «чарнобыльскіх» раёнаў, дзе здымаў паводку, і распавёў пра свае ўражаньні. «Я хацеў пабачыць эпічную прыгажосьць: магутную стыхію, якая бязьлітасна ачышчае зямлю, — казаў сябра. — А няма прыгажосьці. Паўсюль бруд. Людзі, самі жывучы нішчымна, зрабілі нішчымным усё вакол сябе. Разваленыя будыніны, слупы, драты, кучы хлуду. Вада сыдзе, а бязладзьдзе застанецца. Гэта ўжо ня людзкае жыцьцё». «Ну неяк жа жывуць, — казаў я, — нешта ж робяць». «Што ім рабіць? Палі змыла, калгасныя гаспадаркі, лічы, ляснулі, грошай, тэхнікі, бэнзыну няма. Электрычнасьць не паўсюль. Заліло калодзежы, прыбіральні, могілкі, хлявы. Дык яны заплывуць за хлеў, дзе, ім здаецца, вада чысьцейшая, адтуль і мыюцца, і п'юць. Пра радыяцыю нават ужо й гаварыць забыліся. Жывуць. А навошта?..»

Навошта жыць, сапраўды? Жыць хворым і бедным, у гразі й радыяцыі, працаваць на дзяржаву задарма, сеяць хлеб, які пасьля зрэдзьчасу прывозяць у бруднай жалезнай машыне. Верыць уладзе, якая нічога ня робіць, і галасаваць за тое, каб нічога не зьмянялася... Скажуць эвакуявацца — паедуць. Скажуць вяртацца — вернуцца. Як скажуць. Хварэюць, паміраюць дзеці. Бог даў, Бог забраў. Зрэшты, дзе ён, той Бог? Як ён да нас, так і мы да яго...

Хлопчыкі ў рамане Голдынга таксама некалі хадзілі ў царкву й сьпявалі ў хоры. Пакінутыя людзьмі, яны пакінулі й Бога. На зьмену яму прыйшоў страх — таямнічы нябачны Зьвер, які ім то мроіўся, то сьніўся. Некаторым здавалася, што яны яго бачылі. Шустры падлетак-правадыр неўзабаве сьцеміў, што, песьцячы ў малодшых дзецях жах перад нябачным Зьверам, які можа спускацца зь неба і вылазіць з акіяну, ён апануе іхныя душы, спаралізуе памкненьне мысьліць лягічна. І гэта дало правадыру абсалютную ўладу.

Мільёны людзей жывуць на забруджаных радыяцыяй і хіміяй землях, бязвольна назіраючы, як усё сканчаецца: грошы, здароўе, жыцьцё. І нічога не зьбіраюцца мяняць. Бо ня бачаць ні сябе, ні сваіх дзяцей у будучыні. Ні ў сьветлай, ні ў змрочнай. Бо перакананыя, што, па-першае, да іх ужо нікому няма справы, як меркавалі і дзеці на высьпе з раману Голдынга. А па-другое... іх воля сьціснутая нябачным Зьверам, які тоіцца паўсюль — радыяцыяй. Спачатку радыяфобія нарастала стыхійна. Пасьля яе ўзялі на ўзбраеньне дэмакраты, каб згуртаваць людзей вакол сябе. Затым на гэтым пачалі спэкуляваць камуністы, мовячы: «Куды ж нам без СССР?» Дайшла чарга і да Лукашэнкі: «Каму мы патрэбныя ў сьвеце, са сваёй радыяцыяй?» Гэтак за трынаццаць гадоў людзей пераканалі, што паратунку няма, трэба слухаць правадыра, не спрабуючы пераацаніць сваё становішча і заняцца самаратаваньнем.

Драматычны твор Голдынга сканчаецца хэпі-эндам: прыехалі дарослыя і забралі дзяцей з panішчанай імі, некалі прыгожай выспы. Стала зразумела, што Зьвер, нават нябачны і ўсюдыісны, — гэта толькі зьвер, а людзі маюць розум і могуць зрабіць разумны выбар. Каб не было большых трагедыяў.

**С. Х.**



100 ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТ.



# МІКОЛА СЕЛЯШЧУК. КАЗАЧНЫ КАЛЕЙДАСКОП

Селяшчук ад пачатку мысьліў сябе графікам. Пра тое сьведчылі талент малявальніка, дакладнасьць думак і ахайнасьць у манерах. Зь першых ягоных твораў было відаць, што ў беларускае мастацтва прыйшоў незалежны і цалкам тутэйшы талент. Незалежны – падкрэсьлена. Нізка літаграфіяў «Ваенная заалёгія» з пацыфісцкімі алюзіямі і трывогай за прыроду, распачатая яшчэ за часамі навучаньня, выглядала ледзьве не дысыдэнцтвам на тле тагачаснае мастацкае думкі. Але аўтару тое даравалася. Бо рэпрэзэнтавала свабоду творчасьці і дасканалае мастакоўскае майстэрства за мяжою.

Нечаканым для самога Селешчука, эстэта і філёзафа, быў зварот да сацыяльных матываў у 80-я гады. Ці ён палічыў, што жывапіс мусіць падымаць «сур'ёзныя» тэмы? Аднак зварот да «бытавухі» ў тыя гады насамрэч абярнуўся крытычна-гіранічным увасабленьнем таго самага рэалізму, да якога заклікала ўжо і савецкая традыцыя. Хацелі праўду – калі ласка. Сьвятло начы, скрозь цыгарэтную смугу, у сынтэтычных бліках... «Кроніка аднаго вечара», «Матылькі тут не жывуць», «Трывогі мірнага дня». Як напісана ў «Гісторыі беларускага мастацтва», «публіцыстычная завостранасьць зьместу на тэмы маралі, духоўнага жыцьця маладога пакаленьня характэрныя для ягонай творчасьці». Праўда, гэты паварот быў для Селешчука хутчэй выпадковым, чым характэрным. У кніжнай графіцы мастак дэманстратыўна працаваў на ўласную славу. Ілюструючы творы Янішчыц, Сіпакова, Бядулі, Коласа, Адамчыка, зборнікі беларускіх казак, ён імкнуўся стварыць ня толькі адпаведны літаратурнаму твору вобраз, але прымусіць адчуць яго па-іншаму. Адзін з найбольш яскравых прыкладаў тут – аздабленьне кнігі «Сымон-музыка» Якуба Коласа, якое стала сэнсацыяй, адкрываючы сьвет коласаўскага рамантызму й сусьвет рамантычнай беларушчыны Селешчука. Гульня зь філіграннымі дэталямі, нібы зь лялькамі ў кардонных батлейках, насычэньне кампазыцыяў сонмам дзіўных, *недавыказаных* пэрсанажаў, якія то лятуць, то плывуць, то растуць, ператварылася ў адметны мастакоўскі кшталт казачных летуценьняў.

Нібы ў палявых травах, у працах Селешчука мігцяць чароўныя кветкі, невядомыя казюркі й карузьлікі, фантастычныя йстоты зь дзіцячых вясковых сноў, паўпеўні, паўрыбы, паўлюдзі. Але ва ўсім тым пярэстым карагодзе існуе жорсткая, дакладная структура, вывераная амаль фізіялягічна, як сама сьветабудова, што паўстала з хаосу. Структура, зададзеная межамі аркуша, рамаю карціны.

Сэнс і прызначэньне гэткага зьмяшэньня пэрсанажаў, фарбаў і, урэшце, тэхнікаў выкананьня – гульня. Сам мастак даў падказку да разуменьня сваёй творчасьці карцінаю «У майстэрні мастака лялек». З выпадковага стракатага хлуду, недаробленых лялек, паперак, фрагмэнтаў, аскепкаў, урыўкаў, паўстае прадчуваньне Стварэньня. І сам мастак, засяродзіўшы свой позірк на *недарэчах*, гатовы неўзабаве ўдыхнуць у іх душу.

...Самы цёплы кут Беларусі, дзе жывуць хамякі, сусьлікі й вушастыя кажаны, дзе растуць самыя вялікія яблыкі, сланечнік і кукуруза, дзе самы белы пясок і самыя мядзяныя сосны – радзіма Селешчука. Крыху на поўдзень ад Берасьця. Велікарыта. Праз увесь час ён імкнуўся экспанаваць графічныя аркушы, прысьвечаныя бацькоўскім мясьцінам («Сьвяточны стол у гонар нараджэньня брата», «Сыгналы мінулага часу» ды ішыя), на якіх, нібы скрозь паўдзенны летні сон, скозь мільгацень сонечных плямаў, праступае то фрагмэнт хаты, то стала, то дрэва і безьліч драбнейшых фрагмэнтаў, што захаваліся ў памяці зь дзяцінства. Менавіта ў гэтых, блізу інтымных, аркушах і былі спраўджаныя асноўныя стылёвыя прыкметы селешчукоўскага мастацтва... «Казачны калейдаскоп» быў створаны ў 1984 годзе, калі і слава й пашана распахнулі абдымкі мастаку. І ён крочыў нарэшце туды, дзе пачуваў сябе абароненым, у свой сьвет, гэтак рупліва й ашчадна паклееены, сашпілены, зьлеплены. Пэрсанажы, што шматкроць былі апрабаваныя ў мініятурах эксьлібрысаў і кніг сыйшліся на карціне разам. Вясёлыя дамы і званіцы, самотныя цені і лялечны певень на колках. Усё, што было ўзятае з кніг і аддадзенае кнігам, сыйшлося тут, на карціне графіка. Мастака Казкі. Захоплены ідэяй «Калейдаскопу», Селяшчук праз год піша працяг...

**Сяргей Харэўскі**

**Мікола Селяшчук** (1947, Велікарыта, Беларусь — 1996, Італія) графік, жывапісец. У 1970 скончыў Менскую мастацкую вучэльню, пазьней, у 1976 — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Работы зьберагаюцца ў калекцыях Беларусі, Баўгарыі, Францыі, Фінляндыі, Грэцыі, Нямеччыны, Польшчы, Экватарыяльнай Гвінэі.



# «МРОЯ»: РЭСПУБЛІКА І ПАШПАРТ

Пашпарт грамадзяніна N.R.M. 1999. («Беларуская музычная калекцыя»)

Сёньня музычныя праекты з удзелам «мрайчукоў» атрымліваюць розгалас яшчэ да іхнага выхаду. Так было і з «Народным альбомам», так сталася і з «Пашпартам грамадзяніна NRM». Як толькі «Пашпарт» зьявіўся на кампакце, ад калекцыянэраў давялося пачуць: «NRM» на CD? Лепш бы старую «Мрою» выдалі! Я й сам заўзятар той «Мроі», калі «Я — рок-музыкант», «Зондэркаманда» ці «Ён яшчэ вернецца» разганялі мурашак па скуры. Але творчы рост калектыву відавочны, хаця б у тым, што «незалежнікі» з «Мроі» канцэптуалізуюць свае праграмы.

Калісьці канцэптуальнага альбому можна было чакаць хіба што ад прадстаўніка арт-року або сымфа-року, зрэдку дацягвалі да гэтага і гардавікі. А вось розныя гіпары і панкі ў лепшым выпадку шынкавалі ў альбом россыпы сваіх гітоў. «Мроя» ж ніколі ня грала арт-року, а вось праз панк і гэві — прайшла. Калісьці ейныя стылёвы сымбіёз нараклі беларускім тэрмінам стодрок, але цяпер іхную музыку ўсё часьцей характарызуюць тэрмінам поп-гранж.

Зладжанасьць страляе ў вушы зь першых акордаў альбому ў кампазыцыі пра крутых пацаноў — «Кумба». Скінуўшы лёгкі рэп-налёт, «Паветраны шар» бліскуча ператвараецца ў стары добры «мроеўскі» стод-рок, зь якога ў «Тваім партрэце» ўсё ж вытыркаюцца прыкметныя панкаўскія рэбры. 30-сэкундавы «Гамон» прэтэндуе стаць самым ёмістым з самых маленькіх музычных партрэтаў нашай рэчаіснасьці.

Рэчаіснасьць, дзе і «Песьні пра каханьне», і «Песьні юных падпольшчыкаў» — своеасаблівыя. Настолькі своеасаблівыя, што першая зь іх па-за альбомам (яна трапіла на зборны кампакт-дыск «Вольныя танцы») набывае зусім іншы сэнс. Дакладней, у іншым антуражы яна губляе значную частку сваёй сэнсавай нагрузкі.

Затое фальклёрная «Добры вечар, дзяўчыначка» перажывае такі самы працэс, але ў адваротным кірунку: у альбоме яна набывае сэнс, пра які ейны аўтар — беларускі народ — і не здагадваўся.

«Пашпарт» гэтай «Незалежнай рэспублікі...» нельга рваць на кавалкі. Занадта ён цэльны. Аўтары мастацкай аздобы альбому толькі ўзмацнілі гэтую цэльнасьць, укладаючы ў скрынку касэты і кампакт-дыску сапраўдны пашпарт грамадзяніна NRM — рэспублікі, дзе ёсьць і свой герб, і свой сьцяг, і свой кабінэт міністраў. Нам застаецца толькі зразумець іх і далучыцца.

**Вітаўт Мартыненка**

# ТАНЦЫ ДЛЯ ВОЛЬНЫХ КЛЮБАЎ



*«Вольныя танцы: слухай сваё!», Менск, 1999, БМА.*

Гэты CD — першая ў гісторыі беларускага рок-нролу спроба сабраць пад адной вокладкай розныя паводле стылю, жанру і прафэсійнага ўзроўню гурты. Слухачам прапануюцца па адной-дзьве песьні як «монстраў» — гуртоў ULIS, NEURODUBEL, НОВАЕ НЕБА, КРАМА, ПАЛАЦ, N.R.M., гэтак і «маладых» — СКЛЕП, EXIST, ЗЬНІЧ, DEVIATION, POSTSCRIPTUM, «вечна маладых» — ŽYGIMONT VAZA і КАМЭЛЁТ, «нанова маладых» — МЯСЦОВЫ ЧАС — і таксама «пакуль маладых» — КРЫВІ.

Тамсама зьмешчаны асобны праект Касі Камоцкай і Зьмітра Вайцюшкевіча — песьня «Белая Лебедзь». Гэтая песьня — унікальная, бо рэпрэзэнтуецца толькі на CD «Вольныя танцы...». Астатнія падабраныя адвольна. Зрэшты, такі падыход не псуе эклектычнай канцэпцыі зборніка, бо галоўны крытэр адбору — гэта беларуская мова сьпеваў. Вынятак — NEURODUBEL, рэпрэзэнтаваны песьняй «Bielarus über alles». Гэтая акалічнасьць сьведчыць пра тое, што пры выбары гуртоў і іхных кампазыцыяў для кампакту ініцыятары праекту — Беларуская Музычная Альтэрнатыва і Беларускі Гэльсынскі Камітэт — кіраваліся ня толькі мовай сьпеваў, але й грамадзянскай пазыцыяй, якую выканаўцы выяўляюць, прынамсі, з сцэны.

Прэзэнтацыя праграмы «Вольныя танцы: слухай сваё!» ладзілася ў менскім клюбе «Акварыюм» 25 сакавіка і 1 красавіка. Бадай, гэта была першая ў сэзоне імпрэза, калі беларускія рокфанаты мелі магчымасьць пабачыць разам амаль увесь «залаты фонд» беларускага рок-нролу». Калі меркаваць па запоўненасьці залі і рэакцыі публікі, фэны былі ў захапленьні, нягледзячы на невысокую якасьць апаратуры на сцэне. Што да музыкаў, амаль усе ўдзельнікі праекту прыхільна паставіліся да прэзэнту — CD падобнага кшталту. Прынамсі, упершыню ў Беларусі дацямілі зрабіць рок-нрольную праграму, якая можа стацца добрым дэма-падарункам замежным сябрам-мэляманам...

Што да беларускага слухача, ідэя зборкі «...Слухай сваё!» магла б нарэшце натхніць энтузіястаў (а лепш — прадпрымальнікаў) на стварэньне CD-бібліятэкі беларускага рок-нролу. Вырашылася б праблема расьцярушанасьці і «паўпадпольнасьці» гэткай музыкі.

**Квят.**

# У ФІЯЛЕТАВАЙ НОЧЫ ВУГАЛ КРЫЛА

*Дакумэнтальная проза*



Кніга раскрывае фізыялёгію і норавы савецкай сыстэмы. Працуючы ў галоўнай партыйнай газэце «Звязда», аўтар шмат назіраў за паводзінамі вялікага і малога начальства, а таксама звычайнага «гома савэтыкуса». Падзеі кнігі разгортваюцца за фасадам пампэзнай камуністычнай ідэалёгіі, дзе пануюць амаралізм і п'янства, дзе сплятае свае інтрыгі КГБ і няма свабоды.

**Аляксандар Лукашук** (нар. 1955), працаваў перакладчыкам, журналістам, у дакумэнтальным кіно (Дзяржаўная прэмія за фільм «Дарога на Курапаты», 1994). Аўтар кніг «Зьдзек», «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста», «За кіпучай чэкісцкай работай» (міжнародная прэмія Беларускага Пэн-Цэнтру, 1998). З 1993 — на Радыё Свабода.





# ДРУГІ НУМАР ЧАСОПІСУ «ARCHE»




Выйшаў другі нумар часопісу «ARCHE». У ім раман Уладзімера Сакалова «Заусёды сьветла каля турэмных муроў», «Энцыкляпэдыя мёртвых» Данілы Кіша, раман-цытата Аляксандра Лукашука «1982», «Аповед № 3» Андрэя Дынька, апавяданьні Чарльза Букоўскага, Хорхе Люіса Борхеса, вершы Валеркі Булгакава, Багуміла Грабала, Андрэя Хадановіча. Тэма нумару — постмадэрнізм. Друкуюцца «Паэтыка адкрытага твору» Умбэрта Эка, «После современности» Івана Антановіча, «Nowa Ziemia od tłumacza» Чэслава Сэнюха, «Крапіва: Кандрат і прарок» Сяргея Петрыкевіча, «Постмадэрная мова ў мастацтве» Даратэі Алькоўскай-Летц, тэксты Жан-Франсуа Лiётара, Саламіі Паўлычко. У рубрыцы «Кіно» выступае Сяргей Фяненка, у «Вожыку» — Юрась Барысевіч, друкуюцца турэмныя ўспаміны Андрэя Мельнікава «Выжывае падлейшы», а таксама эсэ і дзёньнікавыя запісы. Дэбютуюць са сваімі тэкстамі Ян Какупала і Прафэсар Каркаран. Вялікі фармат, добры друк. Кошт 370 000 руб.

У справе набыцьця часопісу зьвяртайцеся праз тэл. (017) 249-08-88, 257-48-69. Можна атрымаць часопіс поштай (350.000 + кошт перасылкі: Менск, 220018, а/с 3).

Дыскусія з нагоды выйсьця нумару з удзелам аўтараў і рэдакцыйнага актыву адбудзецца 11 траўня, у аўторак, а 18.00 у Гомелі.

Чытайце «ARCHE» — першы часопіс XXI стагодзьдзя.

Зыгфрыд Ленц

# ПРЫХІЛЬНІК УРАДУ

Аднойчы пры канцы тыдня яны запрасілі журналістаў, каб паказаць ім на месцы, колькі ўрад мае прыхільнікаў. Яны хацелі давесьці нам, быццам усё тое, што пісалі пра неспакойны раён, не адпавядае рэчаіснасьці: ні катаваньняў, ні галечы, ні, галоўнае, шалёнага прагненьня незалежнасьці. Дык вось, яны вельмі ветліва запрасілі нас, і вельмі ветлівы, беззаганна апрануты чыноўнік сустрэў нас за опэрай і правёў да ўрадавага аўтобуса. Аўтобус быў навюткі: пах лякі й скуры плыў над намі, з радыё гучала ціхая музыка. Аўтобус паехаў, і чыноўнік выцягнуў мікрафон, драпнуў па ягонай сетачцы-накрыўцы і яшчэ раз лагодна павітаў нас. Ён сьціпла прадставіўся: «Мяне завуць Гарэк», — пасьля паказаў нам гарадзкія памяткі, распавёў, як называюцца паркі й колькі іх, растлумачыў, як пабудавалася ўзорнае паселішча на вапняковай гары, сьляпучай у ранішнім зьзяньні.

Па-за сталіцай дарога разыходзілася на дзьве: мора засталося далёка, мы вырваліся за горад, міналі засеяныя каменьням палі, бурыя адхоны; зьехалі ў лагчыну і па ёй — да моста, перакінутага цераз высахлае рэчышча. На мосьце стаяў малады жаўнер і трымаў зь нейкай лянотнай пяшчотай аўтамат; ён весела памахаў аўтобуса. У высахлым рэчышчы паміж вымытымі да белі галышамі стаялі яшчэ два жаўнеры-юнакі, і Гарэк сказаў, што мы мінаем месца, дзе надта любяць правадзіць вучэньні. Па сэрпантыне ўгару, па-над гарачай раўнінай, і праз адчыненыя шыбы ў аўтобус пранікаў, пёк вочы тонкі вапняковы пыл; прысмак вапняку закрасіў вусны. Мы пазьнімалі пінжакі. Толькі Гарэк застаўся ў пінжаку, ён усё яшчэ трымаў мікрафон і лагодным голасам тлумачыў урадавыя пляны ўвядзеньня гэтай мёртвай зямлі ў сельскагаспадарчую вытворчасьць. Я ўбачыў, што мой сусед заплюшчыў вочы, адкінуў назад галаў; вапна высушыла й пабяліла ягоныя вусны, на руках, што ляжалі на нікеляванай мэталічнай парэнчы, блакітам выбіваліся праз скуру жылы. Я хацеў штурхануць яго ў бок, бо зь люстэрка задняга віду на нас час ад часу пазіраў, мэлянхалічна пазіраў Гарэк, але пакуль я разважаў, Гарэк усхапіўся, з усьмешкаю прайшоў у зад аўтобуса і раздаў саломінкі й ледзяныя напоі ў кубках з васканага кардону.

Апалудні мы праяжджалі празь вёску; вокны былі пазабіваныя дошкамі ад скрыняў, убогія платы з сухога гальля стаялі дзіравыя, расхістаныя раўнінным ветрам. На пляскатых дахах не сушылася бялізна. Студня стаяла закрытая; не гнаўся за намі сабачы брэх, і нідзе не паказаўся нічый твар. Аўтобус, не збаўляючы хуткасьці, мінуў вёску, цягнучы за сабой шэры сьцяг вапняковага пылу, шэры, як сьцяг роспачы.

Гарэк зноўку завіхаўся ў вузкім праходзе, раздаў сэндвічы, ветліва падбадзёрыў нас і паабяцаў, што да мэты засталося зусім мала. Пачаліся іржава-чырвоныя ўзгоркі; глебу засьцілалі вялікія камяні, паміж якіх расьлі малыя бясколерныя кусты. Дарога зьніжалася, мы ехалі тунэлепадобнай выгбай. Жорсткая сьлёка пякла аўтобуснае нутро. Пасьля дарога зноў вывела на прастору, і мы ўбачылі перарэзаную ракой даліну і вёску каля ракі.



Гарэк падаў нам знак, паведамленьне й запрашэньне, мы накінулі пінжакі, а аўтобус запаволіўся і спыніўся на закарэлай гліністай пляцоўцы перад чыста пабеленай хаткай. Вапна сьляпіла так, што нам аж балелі вочы. Мы сталі ў халадку, пстрычкамі павыкідвалі недакуркі, з-пад прымружаных павекаў паглядалі на хатку і чакалі Гарэка, які зьнік у ёй.

Мінула некалькі хвілінаў, пакуль ён вярнуўся і прывёў з сабой мужчыну, якога ніхто з нас раней ня бачыў.

«Гэта Бэла Бонца, — сказаў Гарэк, паказваючы на мужчыну. — Спадар Бонца займаўся якраз хатнімі справамі, але ён гатовы адказаць вам на ўсе пытаньні».

Мы паглядзелі на Бонца, які вытрываў нашыя пагляды, зьлёгку апусьціўшы твар. У яго было старое, пыльна-шэрае аблічча, рэзкія чарнаватыя зморшчыны беглі па карку; верхняя губа была апухлая. Бонца, якога нечакана засьпелі за нейкай хатняй працай, быў гладка прычасаны, а зашпілены каўнер кашулі стаяў пад старой, худой шыі сьведчыла пра ўпартае, стараннае галеньне. На ім была сьвежая баваўняная кашуля, баваўняныя нагавіцы, закароткія, што ледзь даставалі яму да лытак; на нагах у яго былі новыя боты з жаўтаватай нявычыненай скуры, такія, якія носяць навабранцы ў вучэбках.

Мы павіталі Бэлу Бонца, кожны з нас паціснуў яму руку, тады ён кіўнуў і правёў нас да хаты. Ён прапусьціў нас пaперадзе, мы ўвайшлі ў прахалодныя сенцы. Там нас чакала старая жанчына; ейнага твару было не пазнаць, толькі хустка на галаве зьзяла ў змрочным сьвятле. Старая пачаставала нас незнаёмай, з кулак, садавінай; сакавітая мякаць зіхацела чырванаватым бляскам так, што мне спачатку здалося, быццам я ўгрызаюся ў сьвежую рану.

Мы зноўку выйшлі на гліністую пляцоўку. Побач з аўтобусам цяпер стаялі босыя дзеці; яны невыносна пільна ўзіраліся ў Бонца і пры гэтым не варушыліся, не размаўлялі адно з адным. Ні разу яны не зірнулі ні на каго з нас. Бонца загадкава-здаволена ўсьміхнуўся.

«У вас няма дзяцей?» — спытаўся Потгісэр.

Гэта было першае пытаньне, і Бонца, ухмыляючыся, адказаў: «Не, не, у мяне быў сын. Мы якраз спрабуем забыцца на яго. Ён паўстаў супраць ураду. Гультай быў, нядзара, не, каб стацца хоць кімсь, то падаўся да гэтых сабатажнікаў, якія ўсюды народ бунтуюць. Змагаюцца проці ўраду, бо думаюць, што могуць нешта палепшыць». Бонца прамовіў гэта рашуча, зь ціхай настойлівасьцю; калі ён гаварыў, я заўважыў, што ў яго роце бракавала разцоў.

«Можа, яны б і палепшылі нешта», — сказаў Потгісэр. Гарэк задаволена ўсьміхнуўся, калі пачуў гэтае пытаньне, а Бонца сказаў: «Усе ўрады аднолькавыя, усіх іх трэба цярпець, якіясь лягчэй, іншыя цяжэй. Гэты ўрад мы ведаем, а тыя другія толькі абяцаюць».

Дзеці абмяняліся доўгім паглядам.

«Але ж найвялікшы іхны абяцанак — незалежнасьць», — сказаў Бляйгут.

«Незалежнасьцю сыты ня будзеш, — сказаў Бонца, ухмыляючыся. —Што нам з тае незалежнасьці, калі краіна галее. А гэты ўрад прадае нашы тавары за мяжу. Ён паклапаціўся аб пракладцы дарог, пабудове шпіталяў і школаў. Ён акультурваў глебы і акультурыць яшчэ больш. Ён яшчэ й выбарчае права нам даў».

Дзеці скаланулія, схапілі адно аднаго за рукі й міжволі зрабілі крок наперад. Бонца апусьціў твар, ухмыльнуўся ўсё з тым жа загадкавым задавальненьнем, а калі зноўку ўзьняў твар, пашукаў вачыма Гарэка, які сьціпла стаяў за намі.

«Зрэшты, — сказаў Бонца, хоць у яго й не пыталіся, — для незалежнасьці патрэбная й пэўная сьпеласьць. Мусіць, мы ня ведалі б, што рабіць з незалежнасьцяй. Для народаў таксама ёсьць такі ўзрост, калі яны стаюцца паўналетнімі. Мы яшчэ не дасягнулі гэтага ўзросту. І я прыхільнік гэтага ўраду, бо ён не пакідае нас, непаўналетніх, на волю лёсу. Я ўдзячны яму за гэта, знаеце».

Гарэк пайшоў да аўтобуса, Бонца ўважліва сачыў за ім, пачакаў, пакуль цяжкія дзьверы аўтобуса зачыніліся, і мы засталіся адны на сухой, гліністай пляцоўцы. Чужых нібыта не засталося, і Фінке з радыё хуценька спытаўся ў Бонца: «Ну, а папраўдзе? Пакуль мы адны...» Бонца зглынуў, паглядзеў на Фінке зьдзіўлена і адчужана і ясна вымавіў: «Я не зразумеў вашага пытаньня».

«Зараз можна гаварыць адкрыта», — пасьпешліва сказаў Фінке.

«Гаварыць адкрыта», — паўтарыў Бонца задумена й шырака ўхмыльнуўся, так, што стала відаць праваліны ў шэрагу зубоў.

«Хіба што я няясна сказаў: мы за гэты ўрад, мая жонка ды я; бо ўсяго, чым мы ёсьць і чаго мы дасягнулі, мы дасягнулі зь ягонай дапамогай. За гэта мы ўдзячныя яму. Вы ведаеце, як рэдка бывае, каб чалавек быў удзячным ураду — а мы ўдзячныя. І мой сусед удзячны, і тыя дзеці таксама, і кожны ў вёсцы. Пастукайце ў любыя дзьверы, вам паўсюль скажуць, якія мы ўдзячныя ўраду».

Раптам Гум, малады бледы журналіст, падыйшоў да Бонца й шапянуў: «Я знаю напэўна, што вашага сына арыштавалі й катавалі ў турме сталіцы. Што вы на гэта скажаце?»

Бонца заплюшчыў вочы, ягоныя павекі былі прыцярушаныя парахном вапны; ён скрывіў вусны і адказаў: «У мяне няма сына, і таму немагчыма, каб яго катавалі. Мы за гэты ўрад, чуеце! Я — за гэты ўрад».

Ён запаліў самаробную крывую цыгарку, моцна зацягнуўся й зірнуў на дзьверы аўтобуса, ужо адкрытыя. Гарэк вярнуўся й даведаўся пра ход размовы. Бонца вагаўся, перакочваючы з абсацаў на мыскі. Выглядала на тое, што ён сапраўды адчуў палёгку, калі Гарэк зноў падышоў да нас, і на далейшыя пытаньні ён адказваў дасьціпна й падрабязна, раз-пораз са сьвістам прапускаючы паветра праз праваліны ў зубах.

Калі паўз нас ішоў нейкі мужчына з касой, Бонца паклікаў яго; мужчына падышоў цяжкім крокам, зьняў касу з пляча і выслухаў з Бонцавых вуснаў пытаньні, якія мы папярэдне задавалі самому Бонцу. Мужчына з абурэньнем пакруціў галавой: ён быў гарачым прыхільнікам ураду, і Бонца сустракаў кожнае ягонае прызнаньне зь цiхім трыюмфам. Урэшце мужчыны паціснулі адзін адна-



Васіль Быкаў

# БАЙКІ ЖЫЦЬЦЯ

*Трыпціх**

2. СЬМЕХ

На трэці дзень, калі грамадзяне больш-менш угаманіліся ад радасьці вялікай перамогі, было абвешчана, што кіраўніком дзяржавы робіцца той самы тоўсты палкоўнік, які першым засьмяяўся над паразай страху. Газэты пісалі пра «подзьвіг самага адважнага вайскоўца, грамадзяніна краіны». Першым дэкрэтам новага кіраўніка стала асуджэньне страху і запачаткаваньне барацьбы зь ягонымі наступствамі. У гарадах і вёсках выяўлялі плаксівых і напалоханых і бязьлітасна асуджалі іх. Упартых саджалі ў турмы — асабліва тых, хто не хацеў сьмяяцца, а тым болей, плакаў ад жалю па звыклым і любым страху. Мірона таксама пасадзілі, бо выявілася, што ён ня ўмеў сьмяяцца і нават адмовіўся вучыцца тое рабіць. Паатомныя страхавіты ў масавым парадку пераходзілі ў стан сьмехавітаў. Самыя спрытныя зь іх сьцьвярджалі, што нават і ў змрочныя часы страху часьцяком сьмяяліся. Хто — зачыніўшыся ў прыбіральні, хто — на ўласнай кухні, хто — у сьне. І тое была праўда.

Сьмех паступова, але няўхільна рабіўся нацыянальнай ідэалёгіяй, урэшце абвешчанай у адмысловым дэкрэце кіраўніка дзяржавы. З нагоды абвяшчэньня на цэнтральнай плошчы адбыўся грандыёзны мітынг. Там жа на былым п'эдэстале страху была ўстаноўленая постаць Сьмеху — мармуровая скульптура прывабнай дзяўчыны, якая аж кладзецца ад несаптольнага сьмеху-рогату. У горадзе адчыніўся ўнівэрсытэт сьмеху, дзе вывучаліся ягоныя аспэкты — псыхалягічны, фальклёрны, палітапягічны. У школах былі ўведзеныя ўрокі сьмеху (замест літаратуры і матэматыкі), якія вельмі падабаліся вучням. Зьявіліся першыя вучоныя — важныя профі ў галіне новай стваральнай навукі — сьмеху. Спакваля ў краіне распладзілася мноства ансамбляў сьмеху і весялосьці , якія, добра зарабляючы, езьдзілі па гарадах і электрамузыкай сьмяшылі публіку, асабліва моладзь. У іншых мясьцінах выступалі вучоныя-лектары, што распавядалі, як хутка добра будуць жыць людзі, што выклікала няспынны рогат у залі, і вучонаму добра пляцілі. Усё тое надта падабалася, асабліва моладзі: канцэрты і лекцыі сьмеху часам доўжыліся да ранку. Вядомы пісьменьнік, патрыярх айчыннай літаратуры, нядаўні апалягет страху, стаў ня меншым апалягетам сьмеху і і напісаў новы раман, трохі гульліва названы «Хі-хі». Праўда, жаданы аптымізм аўтара ня спраўдзіўся: адмысловыя літаратуразнаўцы (вядома ж, у штацкім) знайшлі між радкоў замаскаваныя прыкметы страху, і аўтар быў падвергнуты грамадзкаму астракізму. Ён перастаў змушана ўсьміхацца і неўзабаве памёр. Палюдзку пахаваць яго не было за што.

Увогуле ж справа сьмеху ў дзяржаве разьвівалася добра. Арганізацыямі ды гурткамі была ахопленая ўся краіна — уся краіна заўзята сьмяялася.

Усё было б добра, калі б не адна неспадзяванка — стала не хапаць ежы. Сьпярша паасобныя грамадзяне, а затым гаспадаркі і цэлыя калектывы, захапіўшыся сьмехам і весялосьцю як асноўным спосабам існаваньня, амаль перасталі працаваць і адно — сьмяяліся. Але праваахоўныя органы супраць іх не маглі ўжыць аніякіх мераў, бо ўсё было законна. Незаконным быў страх і сум, супраць якіх міліцыянты, судзьдзі і пракуроры прымалі са-

*Працяг, пачатак у папярэднім нумары.

му рукі, быццам каб змацаваць у нашай прысутнасьці сваю супольную адданасьць ураду.

Мы таксама пачалі разьвітвацца, кожны з нас падаваў Бонцу руку — я быў апошнім; але сьціскаючы ягоную грубую, з патрэсканаю скурай, руку, я адчуў папяровы шарык паміж нашымі далонямі. Павольна, сагнутымі пальцамі, я забраў яго, адышоўся й запхнуў шарык у кішэнь. Бэла Бонца стаяў і курыў хуткімі, кароткімі зацяжкамі; ён гукнуў жонку, і яна разам з Бонцам і мужчынам з касой сачыла ад'езд аўтобуса, а тым часам дзеці караскаліся на засланы каменьнем і тымі нізкімі бясколернымі кустамі ўзгорак.

Мы вярталіся ня тым самым шляхам, а праз гарачую раўніну, пакуль не натапкалі чыгуначны насып, уздоўж якога бегла гравейка. Увесь гэты час я трымаў адну руку ў кішэні, а ў руцэ маленькі папяровы шарык з такім цьвёрдым ядром, што пазногці ў яго не ўціскаліся, як моцна я ні пружыўся. Я не адважваўся выцягнуць шарык, бо час ад часу зь люстэрка задняга віду нас дасягаў мэлянхалічны пагляд Гарэка. Па-над намі й далей па мёртвай зямлі імкліва праляцеў вусьцішны цень; толькі пасьля мы пачулі гул прапэлераў і ўбачылі самалёт, які ляцеў у кірунку сталіцы нізка па-над чыгункай; на даляглядзе ён павярнуўся, зноўку гульліва праімчаў над намі і пасьля ўжо не пакідаў нас у спакоі.

Я думаў пра Бэлу Бонца, трымаў у руцэ папяровы шарык зь цьвёрдым ядром і адчуваў, як пацее далонь. У канцы чыгуначнага насыпу паказалася нешта, наблізілася да нас, і мы пазналі дрызіну з маладымі жаўнерамі. Яны прыветна памахалі нам аўтаматамі. Я асьцярожна выцягнуў папяровы шарык, але не глядзеў на яго, а хутка запхнуў яго ў маленькую кішэню, адзіную кішэню, якую я мог зашпіліць. І зноў думаў пра Бэлу Бонца, прыхільніка ўраду: я зноў бачыў ягоныя жаўтаватыя боты з сырой скуры, летуценную задаволенасьць ягонага твару і чорныя праваліны, калі ён пачынаў гаварыць. Ніхто з нас не сумняваўся, што ў ягонай асобе мы спаткалі шчырага прыхільніка ўраду.

Мы вярталіся ў сталіцу ўздоўж мора; вецер даносіў да нас працяжны, падобны да цмоканьня пацалункаў шум вады, якая білася ў падмытыя скалы. Каля опэры мы выйшлі, Гарэк ветліва разьвітаўся з намі. Я вярнуўся ў гатэль, адзін, на ліфце падняўся да свайго пакою і ў прыбіральні разгарнуў папяровы шарык, які мне ўпотайкі даверыў прыхільнік ураду: там нічога не было напісана, ніводнай літары, ніводнага слова. У паперу быў загорнуты пярэдні зуб, пакрыты карычневатымі сьлядамі нікатыны. Гэта быў чалавечы нашчэплены зуб, і я ведаў, чый.

*1959*

**Пераклаў зь нямецкай Алесь Пяткевіч**

# Андрэй Хадановіч

# *ГАЛІЦКІ ДЫВЭРТЫСМЭНТ*

I

Nihil utilius sale et sole

Ані золата, срэбра ці нікель,
ані волава, мосенж ці сьпіж –
aut NaCl, aut nihil! –
і нясем свой штодзённы крыж

(што, дарэчы, зроблены з солі
і ніколі ня зьведае ржы),
саляныя волаты волі,
саляныя слупы мяжы.

Соль – салярнае боства ў ісьце,
ўвасабляе радасьць і боль;
па-за сольлю няма карысьці –
нат у сонцы, і ў гэтым соль.

На заходзе, усходзе, дзе-кольвек
шмат сустрэнеш яе імён:
ад паўночнага слова «Сольвэйг»
да паўднёвага «Салямон»;

міжнароднае «салідарнасьць»,
аргэнтынскае «сьмерць і бусоль».
Страйк у страўніку – проста марнасьць,
калі побач ангельская соль.

Соль надзвычай пасуе да кварты,
бо піўны аздабляе шум,
шумавіньне начэй – ня варта
забываць пра салёныя жарты,
бо засталыя словы – тлум.

І – нарэшце ў справунку солі –
вырашальная якасьць яе:
солі шмат не бывае ніколі,
шмата сала заўжды не стае!

Вушкам голкі ня пройдзе кэмэл,
і, вяртаючыся ў юдоль,
патэтычны і ўзьнёслы hejnal
абрываю на ноце «соль».

*Вялічка, саляныя капальні, 136 мэтраў пад зямлёй*

II

**МытНікіфар**

Ён ня грае на кіфары, ня плыў на Кіфэру (Цэтэру et caetera),
на пытаньне, ці ён *homo sum*, без сумневаў і суму наўпрост падсумуе *«sum hetaero»*;
сьціплы мытнік, службовец мастацтва – страчаюцца й тыя, што служаць амбітней, –
ён працуе ў чаканьні на міт, занураецца ў міт, што падмуркам ягонае мытні;
песьціць міт, што ніколі нічога нікому ні з кім і нідзе,
нейкім чынам штось пэўнае там адмываючы ў мутнай вадзе;
папярэднік прыйдучых памежнікаў Заўтра, якія пакуль – парушальнікі межаў варожага Сёньня
і валодаюць мовай плыньней, зь нематы карыстаюцца плёньней;
вынаходнік сьвятой прастаты, чарнабожнік складанай заганы,
шанаваны паўсюдна, паўсюль плятанічна каханы;
непісьменны стары, які б мог стаць прарокам, але ж не прарок,
бо на гэта ёсьць іншыя, – ён – пераймальнік прыроды, сьпявак кшталту боскага птаства,
не шукае пасілку: мастацтва – насамрэч вялікае княства,
прапануе пажытак, лякуючы лякі, яго пазбаўляе адчаю;
і, прасякнуты ўсім, што наўкола, усім, што яго атачае,
ён займае пачэсны пасад леваруч ад калегі з Парыжу – найдасьвядчонага мытніка, фаміліянта трох дзейных асобаў культуры (раней іх таксама хапала!):
барбізонскага Хведара, правадыра ўсіх асьветнікаў Янкі-Якуба і Янкі-Батыста (па-наскаму будзе Купала)!

*Крыніца, музэй мастака Нікіфара*



III

**Ноч у мытні пры старым замку**

Сам-насам із швэдрам, што кінуты ў кут,
сам-насам із страчаным часам,
сам-насам із собскай прысутнасьцю тут –
із столькім, што ўжо не сам-насам, –

знадворку, бо замак замкнуты стары,
на пекную гледзячы зорку
(знадворку дачынна ўсяго, што ўнутры, –
так блізка, што ўжо не знадворку),

нарэшце стамлюся ад словаў, чужы
у некалі скончанай спрэчцы,
нарэшце спынюся на самай мяжы –
так позна, што ўжо не нарэшце.

*Замак Дунаец у Нядзіцах*

IV

**Псэўдавэрлен**

фіранкі на вокнах
сузор'і на шыбах
апоўначы вонках
астральнасьці выбух

у ноч крок за крокам
губляючы розум
навобмацак вокам
ня надта цьвярозым

сьвятоўнае ўчора
паноўнае сёньня
памкненьнямі ўгору
на небнае ўлоньне

сягае ўзрушэньне
апошняга роўню
пустыя кішэні
віджэжы і поўня

астральнасьці выбух
апоўначы вонках
сузор'і на шыбах
фіранкі на вокнах

*Кракаў, кастрычнік 1998*



мыя жорсткія меры. Аднак парушэньняў законаў ня менела, ад нялёгкага жыцьця нават стала большаць. З падачы органаў правапарадку кіраўнік дзяржавы ўгледзеў у гэтым небясьпеку для існаваньня дзяржавы і вырашыў узмацніць барацьбу зь перажыткамі страху. Але якім чынам? Было вызначана, што ў гэтай справе больш прыдатныя мэтады страху. Філёзафы пачалі казаць пра дыялектычнае разьвіцьцё папулярнай ідэі — дзеля аб'яднаньня нацыі, натхненьня яе на барацьбу за лепшае жыцьцё, калі нікога ня трэба будзе прымушаць сьмяяцца, а ўсе стануць сьмяяцца самахоць, ад душы. А пакуль што, сьцьвярджалася ў законе, трэба прымушаць сьмяяцца, не зважаючы ні на што, адно — у інтарэсах дзяржавы.

Тым ня менш, сьмяяцца людзям хацелася ўсё меней, часьцяком хацелася плакаць.

Уся рэч у тым, што жыцьцё сьмехавітаў катастрафічна пагаршалася — да недахопу харчу прыбавіўся недахоп адзеньня, абутку, паліва і гарэлкі. Зімой у кватэрах было надта халодна, купіць паліва ня мелі за што. З-за недахопу лекаў дактары пачалі шырока лячыць мэтадамі сьмехатэрапіі, але той мэтад чамусьці мала памагаў хворым, якія пamiралі плачучы, што было недапушчальна. Ды й дактары перасталі сьмяяцца. Тады ўрад пайшоў на паслабку рэжыму сьмеху. Для некаторых катэгорыяў насельніцтва ўводзіліся прывілеі. Было дазволена плакаць тым з намэнклятуры, каго зьнімалі з пасады (адзін плач у месяц); жанчыны-вэтэраны органаў мелі права на 2-3 плачы ў квартал. Плач і нават публічны сум катэгарычна забараняўся працаўнікам праваахоўных органаў, міліцыі і вайскоўцам. Выключэньне рабілася толькі для бацькоў вайскоўцаў, якія атрымлівалі «груз-2000», і то на працягу аднаго дня з часу атрыманьня грузу.

Але харчу ўсё ня большала. Абставіны ўскладніліся яшчэ й тым, што заходнія высокаразьвітыя краіны перасталі даваць крэдыты. Замест крэдытаў яны разгарнулі ў сваіх СМІ паклёпніцкую кампанію, галоўным накірункам якой стала сьцьверджаньне, што ў краіне сьмехавітаў усе зьехалі з глузду. Гэта, вядома, было нечуванай абразай нацыі, кіраўніцтва, дыскрэдытацыяй вялікай сьмехатворнай ідэі. Урад угледзеў у тым непрыкрытую варожую вылазку і прыняў рашэньне ўзмацніць узброеныя сілы. Першай і галоўнай мерай стала прысваеньне вялікай групе афіцэраў званьня палкоўніка, а палкоўнікам — генэрал-палкоўніка. Усе іншыя, прамежкавыя званьні, былі зьліквідаваныя як непатрэбныя. Тое дужа спадабалася вайскоўцам. Па колькасьці генэрал-палкоўнікаў войска краіны пераўзышло арміі самых разьвітых краінаў Захаду. Гэта быў несумнеўны і вялікі посьпех!

Есьці яшчэ ўбавілася; ня стала хапаць жыльля — нават для генэрал-палкоўнікаў. А калі ў каго й было жытло, дык не ставала добраўпарадкаваных летнішчаў, што выклікала вялікае напружаньне ў грамадзтве, якое часам аж перастала сьмяяцца. Не хапала таксама грошай, бэнзыну, транспарту. Ды сьмехавіты ня скардзіліся, адно сьмяяліся, разумеючы, што калі не задаволіць вайскоўцаў, дык тыя не абароняць ад ворагаў, якія ўсіх сьцяруць у парашок і паншчаць іхную самую жыватворную ідэю сьмеху.

Але так думалі, мабыць, ня ўсе. У сталічным

Працяг на старонцы 14

## Астольф дэ Кюстын

# РАСЕЯ Ў 1839 ГОДЗЕ

*(Урывак са скарачэньнямі)*

Усё, што вы бачыце вакол сябе ў Расеі, усё, што ўражвае ваш позірк — усё мае жахліва правільны выгляд; падарожніку, калі ён бачыць такі сымэтрычны парадак, адразу прыходзіць у галаву думка, што гэткай поўнай аднастайнасьці, гэткай супярэчнай прыродным схільнасьцям чалавека рэгулярнасьці нельга было стварыць і падтрымліваць без прымусу. У краіне гэтай сама прырода зрабілася саўдзельніцай чалавека, які, пакланяючыся аднастайнасьці, зьнішчыў усялякую вольнасьць. Яна таксама паўсюль аднолькавая: балоцістыя ці пясчаныя раўніны, зарослыя чэзлымі і рэдкімі дрэвамі дзьвюх пародаў: бярозай і сасной. А якое асяродзьдзе стварыў для сябе сам чалавек? Санкт-Пецярбург, бясспрэчна, ёсьць адным з цудаў сьвету, Масква — таксама вельмі маляўнічы горад, але як выглядаюць правінцыі! На любым шляху за 20—30 лье пападзецца вам адзін горад – і кожны раз аднолькавы.

Прыхільнасьць расейскіх гаспадароў і будаўнікоў да паганскай архітэктуры, да простай лініі, да прысядзістых пабудоваў і шырокіх вуліцаў знаходзіцца ў супярэчнасьці з законамі прыроды і патрабаваньнямі жыцьця ў халоднай і туманнай мясцовасьці, якая няспынна прадзімаецца моцнымі вятрамі. Клімату і звычаям Расеі больш пасьцілі б фартэчныя муры, высокія будынкі, цесныя, зьвілістыя вулкі сярэднявечных гарадоў, чымся карыкатуры на антычнасьць; але ж уплывовыя асобы там менш за ўсё клапоцяцца аб краіне, якой кіруюць.

У Расеі ўрад над усім пануе і нічога не жыватворыць. Народ у гэтай вялізнай імпэрыі калі не нямы, дык бязмоўны; ніхто тут не гарантаваны ад раптоўнай сьмерці. Чалавек тут ляжыць у труне двойчы — у калысцы і ў магіле. Маццяркам тут варта было б аплакваць нараджэньне сваіх дзяцей больш за іхную сьмерць. Пры такім грамадзкім ладзе чалавек зь першага дня свайго жыцьця можа ведаць (і сапраўды ведае), што ён будзе рабіць да апошняга свайго дня.

У характары гэтага павярхоўна разьвітага народу ўвогуле ўсё супярэчліва; найбольш характэрная рыса ягонае — невыналодлівасьць. Нават у найбольш славалюбных ягоных імкненьнях ёсьць нейкае малпаваньне. Завяеўніцкі дух яго спароджаны ня моцай, а ўсяго толькі прэтэнзіяй. У ім няма творчай сілы, увесь ягоны талент — у спаборніцтве, увесь ягоны геній — у запазычваньнях. Прызначэньне расейцаў — перакладаць эўрапейскую цывілізацыю для азіятаў. Далучыўшыся да грэцкай схізмы і гэтым



аддзяліўшы сябе ад Захаду, Расея праз некалькі стагодзьдзяў зь непасьлядоўнасьцю абражанага самалюбцы зноў зьвярнулася да досьведу нацыяў, якія стварыліся ва ўлоньні каталіцызму, каб пераняць у іх цывілізацыю, да якой выключна палітычная рэлігія раней Расею не дапускала. Перанесеная з палацу ў вайсковы лягер для таго, каб падтрымліваць там парадак, гэтая бізантыйская рэлігія не адпавядала найбольш высокім патрабаваньням чалавечай душы; яна дапамагала паліцыі дурыць народ — і толькі.

Расейская нацыя заўжды будзе перажываць вынікі той несамабытнасьці, ад якой яна пакутавала ў час свайго палітычнага абуджэньня. Яе кіраўнікі, і перадусім Пётар Вялікі, гвалтоўна выхапілі яе зь дзяцінства. Ледзь скінуўшы іншаземны прыгнёт, краіна лічыла свабодай усё, што хочаш, абы не мангольскае ярмо, і таму яна нават прыгон успрыняла як вызваленьне, бо ён паходзіў ад яе законных кіраўнікоў. Прыгнобленны захопнікамі народ быў шчасьлівым ужо таму, што новага тырана звалі расейскім, а не татарскім імем. Вынікі гэтай памылкі адчуваюцца дагэтуль. Расейскую зямлю пакінуў дух своеасаблівасьці; яе жыхары, звыклыя да рабства, да гэтага часу добра разумеюць толькі мову страху і славалюбства.

Якая карысьць для Расеі ў тым, што яна ажыцьцяўляе націск на Эўропу, уплывае на эўрапейскую палітыку? Ненатуральныя інтарэсы, нікчэмныя імкненьні! Для яе больш важна было б у сабе самой мець і разьвіваць жыцьцёвыя асновы, бо нацыя, у якой няма нічога свайго, апроч пакоры, мёртвая.

Расейскі дэспатызм толькі стварае бачнасьць парадку, таксама, як наша, эўрапейская, прыхільнасьць да рэспубліканскіх вартасьцяў — толькі бачнасьць свабоды.

На мой погляд, у расейцаў звычайна вельмі шмат своеасаблівага жыцьцёвага такту і хітрасьці, але мала спагады. Надзвычай вострыню ў спалучэньні з добрай доляй грубасьці складае, на маю думку, аснову іхнага характару.

Расейцы спрадвеку надта баяліся, каб зь іх не сьмяяліся. У дзіўным гэтым народзе вялікае выхвальства спалучаецца зь найменшай няўпэўненасьцю ў сабе; самазадаволенасьць на людзях і хваравітае самапрыніжэньне ўсярэдзіне — вось што я звычайна бачыў у большасьці расейцаў. У «Павучэньні Манамаха» я вычытаў мудрую і знамянальную параду сынам. Гэтае прызнаньне варта запомніць: «Больш за ўсё шануйце госьця, і славутага, і простага, і купца, і пасла; калі не можаце абдарыць яго, дык хоць стравою і пітвом задавольце, бо менавіта госьці распускаюць у іншых землях і добрую, і кепскую аб нас пагалоску». Згадзіцеся, такія хітрыкі значна абясцэньваюць гасьціннасьць.

У сэрцы расейскага народу настолькі моцная, неўтаймаваная прага заваёваў, якая толькі можа ўзрасьці ў душы прыгнечаных і якая жывіцца толькі ўсенароднай галечай. Нацыя гэтая, ад прыроды захопніцкая, робіцца тым больш прагнай, чым большыя нягоды перажывае, прыніжальнай няволяй у сябе дома загадзя выкупляючы мару аб пананьні над іншымі народамі. Чаканьне будучай славы і багацьцяў заплюшчвае расейцам вочы на тое, у якой несвабодзе яны жывуць; раб на каленях марыць аб сусьветным панаваньні, спадзеючыся дасягненьнямі ў замежнай палітыцы змыць зь сябе ганебнае кляйма народу, што выракся ўсялякай грамадзкай і асабістай вольнасьці.

Расея бачыць у Эўропе сваю здабычу, якая рана ці позна ёй дастанецца ў выніку сваіх унутраных звадаў; яна, Расея, распальвае ў нас анархію. Яны хочуць паўтарыць зноў, але ў большых памерах, тое, што зрабілі з Польшчай ў XVIII ст. «Эўропа ідзе тым жа шляхам, што й Польшча, — кажуць у Пецярбурзе, — бессэнсоўным лібэралізмам яна саслабляе сябе, а мы застанемся моцнымі менавіта таму, што ў нас свабода абмежаваная; пацерпім жа пад прыгнётам, затое сёньняшняя няволя дасьць нам магчымасьць стаць валадарамі над іншымі народамі».

Грамадзкае жыцьцё ў гэтай краіне — няспынныя падкопы супраць праўды. Кожны, хто не ўдаецца ў гэты падман, лічыцца тут здраднікам; пасьмяяцца з самахвальства, запярэчыць палітычнай рыторыцы — усё гэта лічаць тут замахам на бясьпеку дзяржавы і манарха; адно слова, і ты ператвараесься ў рэвалюцыянэра, бунтара, ворага грамадзкага ладу, злачынцу.

Расейская цывілізацыя так мала адарвалася ад сваіх вытокаў, што яна больш паходзіць на барбарства. Расея — супольнасьць захопнікаў, яе моц — не ў мысленьні, а ва ўмельстве ваяваць, то бок у хітрасьці й бязьлітаснасьці.

Толькі калі пажывеш у гэтай пустэльні, дзе цябе ўвесь час кантралююць, у гэтай турме, дзе цябе ні ўдзень, ні ўночы не пакідаюць сам-насам з сабой, імя якой Расея, — пачынаеш адчуваць, як свабодна жывецца ў іншых краінах Эўропы, якая б форма дзяржаўнага кіраваньня не была там прынятая.

Калі ваш сын будзе незадаволены Францыяй, парайце яму зьезьдзіць у Расею. Такое падарожжа будзе карысным кожнаму эўрапейцу: пабачыўшы на свае вочы гэтую краіну, кожны застанецца задаволены жыцьцём абы-дзе, абы не ў Расеі. Заўжды карысна ведаць, што ёсьць у сьвеце дзяржава, дзе шчасьце немагчымае, бо чалавек, паводле сваёй прыроды, ня можа быць шчасьлівы без свабоды. Расея дапамагае больш цаніць сваю бацькаўшчыну; вярнуўшыся дадому, падарожнік можа сказаць аб сваёй краіне тое, што нейкі разумны чалавек казаў пра сябе самога: «Ацэньваючы сябе, я сьціплы; параўнаньне зь іншымі робіць мяне гордым».

**Падрыхтавала Надзея Рагалевіч**



# БАЙКІ ЖЫЦЬЦЯ

*Працяг са старонкі 13*

горадзе пачалі ўтварацца падпольныя групы, названыя дысыдэнцкімі, якія выпрацоўвалі альтэрнатыўныя ідэі — таго ж сьмехатворнага кшталту, але не з вар'яцкім — з чалавечым тварам. Твар у некаторых падпольных выявах ужо не нагадваў ні чалавека спалоханага, ні чалавека-вар'ята, а меў нешта сярэдняе і панавуковаму называўся гома-сапіенс. Гэта быў ідэал. А ідэал належала ўвасобіць, для чаго дысыдэнты сабраліся аднойчы ў сьвяточны адвячорак на прыватнай кухні і стварылі падпольны (ценевы) урад. Як кожную важную справу, тое належала абмыць, што і было неадкладна зроблена. У добрым настроі ўрадоўцы вярталіся дадому, але адзін зь іх (старшыня ценевага ўраду), што вёз сьпіс у кейсе, задрамаў у тралейбусе і згубіў кейс. На другі дзень урад у поўным складзе быў арыштаваны.

Падзеі ў краіне сьмехавітаў не на жарт затрывожылі суседзяў, якія ўсялякімі сродкамі пачалі падахвочваць сьмехавітаў да барацьбы за свае грамадзянскія правы. Сьпярша сьмехавіты надта зьдзівіліся, але паступова ўсьвядомілі сваё першае права — на сум. Натуральна, дамаганьне такога права ў краіне законнага канстытуцыйнага сьмеху было расцэненае ўрадоўцамі як крамола і прыроўнівалася да дзяржаўнага злачынства — замаху на галоўнага кіраўніка краіны ці да абрабаваньня банку. Шмат маласьвядомых грамадзянаў з праваабарончых арганізацыяў, творчых саюзаў і моладзі пацярпела за сваю крымінальную схільнасьць да суму. (Дарэчы, той сум яны здабылі ў часе галадоўкі ў карцары, дзе сум не прысякаўся — сумуй, колькі хочаш. Карцар быў адзіным дазволеным месцам суму ў дзяржаве, чым арыштаваныя ахвотна карысталіся.) Дзіўна, што нават сьмяшлівая моладзь часам стамлялася ад казённай весялосьці і час ад часу адчувала патрэбу пасумаваць. Але такіх хутка выключалі з унівэрсытэтаў, датэрмінова заганялі ў войска, дзе славуты «інстытут дзядоўства» хутка мяняў сьмех на сьлёзы. Пры адсутнасьці паліторганаў «дзяды» вельмі дапамагалі камандзірам выхоўваць падначаленых у атмасфэры аптымістычнага патрыятызму.

А тым часам есьці ў краіне зусім ня стала чаго. Было зразумела, што галоўная нацыянальная ідэя не працуе, што прыйдзецца шукаць новую. І тады вынайшлі ідэю часовую, якая мела выдатную пэрспэктыву стаць фундамэнтальнай. Яна ня толькі не адмяняла ранейшую, але ўзьнімала яе на новую вышыню — што было надта важна. І ўрад кінуў увесь дзяржаўны бюджэт на вытворчасьць гарэлкі.

Гэта сапраўды выклікала небывалы народны ўздым. Народ усё зразумеў і прыняў бяз словаў — што значыць навуковая беззаганнасьць ідэі. На мітынгах у гарадах і вёсках прамоўцы гаварылі пра новую культурна-псыхалягічную рэвалюцыю ў краіне, пра яе лёсавызначальны сэнс. Гарэлкай бясплатна забясьпечвалася кіраўніцтва, пасьля вэтэраны-пэнсіянэры (пры норме 1 бутэлька на 1 дзень), пасьля ўсе астатнія, уключаючы немаўлят.

# Адам Глёбус

# РАСЕЙСКАЯ КАЛЕКЦЫЯ

***Нататкі з «Кішэннай гісторыі культуры»***

*Я х...ею з гэтых рускіх!*

*Анатоль Сыс*

### ГОРКІ Й ЦЮТЧАЎ

Пралетарскі літаратар Максім Горкі напісаў такі радок: «Вар'яцтву сьмелых пяем мы песьню!» У гэтых словах — уся непрасьветленасьць Расеі, якую, на думку паэта-цэнзара — Хведара Цютчава, «розумам не зразумець, аршынам агульным не памераць».

### КЛЮЧЭЎСКІ

Можна сказаць: руская мова й француская мова. Можна сказаць: францускі розум, але пра рускі так ня скажаш. Рускі дух, руская сьмякалка, руская хітрасьць... Толькі ня розум. Рабіць такія заявы досыць небясьпечна, таму знаходжу сабе падтрымку ў выказваньні гісторыка Ключэўскага: разумны рускі — гэта дурань, набіты чужымі думкамі.

### *ГОГАЛЬ*

Міт пра веліч Расеі існуе дзякуючы Гогалю. Памятаеш, у «Мёртвых душах» ёсьць чыста расейскае філязафаваньне пра слана: калі б слон нараджаўся зь яйка, якая была б шкарлупіна, з гарматы не прабіў бы! Служка д'ябла Вій гэтаксама ўражвае памерамі, павекі ягоныя падымаюць некалькі чартоў. Была ў Гогаля мара: сабраць на адной вуліцы ўсе шэдэўры сусьветнай архітэктуры, ад ягіпецкіх пірамідаў да кёльнскага сабору. Бала б вуліца, я табе скажу, Нэрон з Гітлерам ад зайздрасьці паздыхалі б. Ну й апагеем нечалавечых маштабаў зьяўляецца апісаньне Дняпра, дзе Мікалай Васілевіч кажа, што ня кожная птушка даляціць да сярэдзіны рэчкі. Ведама, курыца не даляціць, і стравус таксама. А наагул птушкі пералятаюць ня толькі рэчкі з азёрамі, а й моры. Але тут важная ня якасьць птушкі, а памеры Дняпра, ягоная веліч. Так малююць веліч усёй Расеі, як тады, так і цяпер.

### ПУШКІН

Па-руску пісаў Пушкін, а яшчэ па-руску напісалася безьліч даносаў у царскую ахранку, у ЧК, у НКВД, у КГБ, даносаў, па якіх тварыліся судзілішчы і людзі прыгаворваліся да расстрэлаў. Канцылярыя ў савецкіх канцлягерах таксама вялася на так званай «вялікай і магутнай» мове. Загады на вынішчэньне цэлых народаў прамаўляліся па-руску, з рознымі нямецкімі й грузінскімі акцэнтамі, але ж па-руску. Дык што такое жменька выдатных літаратараў, кшталту Пушкіна, у параўнаньні з плоймаю катаў, садыстаў, пачвараў, якія рыкалі, верашчалі, плявузгалі па-руску? Дробны вынятак. Рускамоўных геніяў цяпер я ня бачу. А даносы па-ранейшаму пішуцца ў ФСБ і МУС.



### ЛЕНІН

Якім нікчэмным, спарахнелым, маразматычным выглядае сягоньня расейскі імпэрыялізм. Расейскія палітыкі езьдзяць па так званым «блізкім замежжы» і ўгаворваюць чыноўнікаў розных рангаў прывесьці свае народы назад у імпэрыю. У іх знаходзіцца толькі адзін аргумэнт: мы ж столькі гадоў пражылі разам у адной дзяржаве. Сапраўды пражылі, але ня разам, а побач, бо шлюб быў гвалтоўны. А пакінуць гэтую «турму народаў», як трапна азначыў правадыр сусьветнага пралетарыяту Ўльянаў-Ленін, хацелі ўсе народнасьці, нацыянальнасьці, народы й нацыі. Яны жадалі выйсьці з Расеі з таго самага імгненьня, як апынуліся ў ёй. Расейскія імпэрыялісты ўсё яшчэ вераць у сваё адраджэньне. Дарма.

### ЛЕРМАНТАЎ

Ёсьць у расейцаў устойлівае словазлучэньне ***руская лазьня***. Пра тую лазьню напісана безьліч прозы зь вершамі вялікімі Талстымі, наздымана кінасцэнаў рознымі Міхалковымі, панамалёвана карцінаў усялякімі Кустодзіевымі. Руская лазьня — аб'ект культавы ў расейскай сьвядомасьці, без усялякіх перабольшаньняў. Таму рускі чалавек мусіць любіць сваю лазьню й хадзіць чысты. А тут ня так, лазьню ён любіць, а ходзіць брудны. Адна знаёмая неяк між іншым сказала пра свайго мужа: чытаць ён мала чытае, а кніжкі любіць. Дык вось любімы паэт рускага народу напісаў у адной са сваіх кніжак такія словы: «Бывай, ***нямытая Расея***, краіна панства і рабоў...» Вельмі слушна заўважыў М.Ю.Лермантаў пра нямытасьць сваіх суайчыньнікаў, якія калі й сходзяць у лазьню, дык пасьля напапіваюцца і ў гразі выкачаюцца.

### ІВАНАЎ

Карціна-монстар Аляксандра Іванава «Зьяўленьне Хрыста да народу», напісаная для храма Хрыста-Збаўцы ў Маскве, каштавала імпэратарскаму бюджэту дзесяць тысячаў рублёў — грошы велізарныя па тым часе. Іванаў пакрыўдзіўся, бо за другую карціну-монстра «Медны зьмій» пэндзля акадэміка Бруні цар выклаў на дваццаць тысячаў болей. Я пагаджаюся з ацэнкай імпэратара. Бруні прагматычна абраў, кажучы сучаснай моваю, чыста галівудзкі шлях — намаляваў карціну-катастрофу з фантастычнымі элемэнтамі. Падобныя катастрофы ў мастацтве заўсёды карыстаюцца попытам у гледача. «Дзявяты вал» Айвазяна, «Апошні дзень Пампеі» Брулова й «Медны зьмій» Бруні хоць бы палохалі гледачоў. А што «Зьяўленьне», на якім няма ніякага зьяўленьня, а ёсьць апранутая асоба мужчынскага полу, якая нібыта ідзе да паўапранутых асобаў мужчынскага полу, застылых у ненатуральных гіпсавых позах? Сумна. Не кранае.

### БУНІН

З расейскіх літаратараў XX стагодзьдзя самы ясны й зразумелы для мяне — Іван Бунін. А тое, што Аляксандар Блок напісаў, нібыта ў Буніна ёсьць толькі адзін варты згадкі вершык «Хрыстос», пад увагу не бяру. Блок, як вядома, выключны лірык, а Бунін — літаратар. Ягоная дзёньнікавая кніжка «Окаянные дни» нарэшце паказала ўсяму сьвету, наколькі жахлівы, хаатычны, бессэнсоўны рускі бунт. Толькі ня верш «Хрыстос», які я вывучаў на памяць у юнацтве, ні «Окаянные дни», што зь цяжкасьцю дачытаў з-за адчайнага пэсымізму, паразьлівага між радкоў, а эратычныя апавяданьні са зборніка «Цёмныя прысады» выклікаюць у мяне захапленьне. Многія называлі й называюць Буніна парнаграфістам. Але, калі Бунін парнограф, дык тады эротыкі ў рускай літаратуры не існуе наогул.

### САЛЖАНІЦЫН

У сваім опусе «Як абсталяваць Расею» Салжаніцын назваў рэспублікі Сярэдняй Азіі расейскім падчарэўем. Калі пайсьці ў параўнаньнях за публіцыстам, можна Ўладзівасток ахрысьціць задняпраходнай адтулінай, а Камчатку хвастом, які з-за энэргетычнага крызісу пачаў адмярзаць. Тое, што Масква — сэрца Расеі, вядома й без Салжаніцына... Як і большасьць «абустройшчыкаў» Расеі манілаўскага ўзору, Салжаніцын пражыў жыцьцё за мяжою Радзімы. І вярнуўшыся, не забывае чужую старонку, што корміць, поіць і апранае. Таму васьмідзесяцігоддзьдзе Салжаніцын сьвяткаваў на тэрыторыі швэдзскай амбасады, а не ў Мураме ці Суздалі. І ясна чаму. Не «абвустроілі» яшчэ Расею, не збудавалі, як тыя швэды, сацыялізм з чалавечым тварам. І апошняе, што варта сказаць пра творчасьць Салжаніцына... Усе ягоныя жахі разам узятыя — нішто ў параўнаньні з «Запіскамі зь мёртвага дому» Хведара Дастаеўскага. Гэта Дастаеўскаму швэды далі Нобэлеўскую прэмію, а атрымаў яе Салжаніцын.

### РАСЕЙСКАЯ КНІГА

Пераважная большасьць людзей, задзейнічаных у расейскім кніжным бізнэсе, — нярускія. Як сказаў адзін мой калега габрэй, так склалася гістарычна. Пагаджаюся. Першую рускую біблію надрукаваў беларус Скарына, першыя рускія тлумачальныя й этымалягічныя слоўнікі зрабілі немцы Фасмэр з Далем, навет заснавальнік сучаснай літаратурнай рускай мовы Пушкін па бацьку эфіёп. Як склалася, так пайшло й так ідзе. Асноўныя капіталаўкладаньні на расейскім кніжным рынку належаць немцам і габрэям, а вось большасьць бэлетрыстыкі пішацца беларусамі.

### ТАЛСТОЙ

Пра адлучэньне Льва Талстога ад расейскай праваслаўнай царквы я даведаўся ў Ленінградзе, у музэі рэлігіі й атэізму, які месьціўся ў памяшканьні Казанскага сабору. На сьценапісе палымнела пекла, у агнявой геене сядзелі сумныя Талстой зь Лермантавым. Ідыятызм карцінкі я й зараз ня стаўлю пад сумнеў. Гонар расейскай культуры й нацыі — Талстой, любімы паэт Расеі — Лермантаў на загад невядомых паўдуркаў намаляваныя сярод чартоў. Прыклад расейскага праваслаўнага цемрашальства. Сумна, што сёньня пачаўся новы этап дзікунства. Адзін мой знаёмы журналіст, схаваўшы партбілет, распачаў праваслаўную кар'еру. Сустрэліся мы выпадкова ў букіністычнай краме. Новы праваслаўны прытарабаніў здаваць на камісію зборы твораў Талстога й Лермантава. «А што зробіш, калі ніхто ня купіць?» «Занясу на сьметнік».

### МАРТЫНАЎ І ДАНТЭС

Лермантаў і Пушкін загінулі на дуэлях. Пушкіна сьмяротна параніў Дантэс, а Лермантава застрэліў Мартынаў. Факты. Мартынаў пражыў доўгае жыцьцё й рабіў некалькі спробаў напісаць тлумачэньне фатальнай падзеі. Пачынаў ён нібыта са шкадаваньня, а потым рабіўся злы. Тэксты ня скончаныя, абрываюцца нечакана. З гэтага вынікае, што, калі б Лермантаў выжыў і зноў назваў Мартынава **мартышкай**, той зноў бы страляў у крыўдзіцеля. Дантэс, наколькі вядома, не пакінуў ніякіх пакаяньняў, забіў «сьвятач рускай паэзіі» й забіў. І што асабліва засмучае ў праявах неміласэрнага лёсу: ні Мартынава, ні Дантэса нельга параўнаць зь легендарным Сальеры, які так мітalягічна атруціў Моцарта. А тут — пошлая бытавуха й дзіцячыя крыўды. І Лермантаў, і Пушкін загінулі бяздарна, а доказы гэтага — Мартынаў і Дантэс.

*Карлавы Вары.*

*Люты. 1999 год.*



Сем'і, у якіх было шмат дзетак, раскашавалі як мае быць — і дарослыя, і дзеці ўвесь дзень пілі і рагаталі, астатні час спалі і пахмяляліся. І дзякавалі ўладзе, галоўнаму кіраўніку і мясцовым вэртыкальшчыкам, якія займелі адзіны пільны клопат — забясьпечыць самыя глухія куткі краіны сьвежай гарэлкай. Гэта належала рабіць без пасярэднікаў-злыдняў, якія нахабна заніжалі градус. Сацыялягічны інстытут, які правёў апытаньне (было ахоплена 100% насельніцтва) выявіў небывалы паказчык тых, хто ўхваляў новую палітыку ўраду, — 100%. Папулярнасьць кіраўнікапалкоўніка стала такая, што ўрад надаў яму чын Вялікага Каудыльё.

*Але заставалася нявырашанай адна застарэлая* праблема, якая вынікала з тае аксіёмы, што, выпіваючы, трэба закусваць. Закусваць не было чым; праўда, вучоныя пачалі прапагандаваць новы спосаб ужываньня алькаголю. Спасылаючыся на перадавыя заходнія краіны, яны даказвалі магчымасьць выпіваючы не закусваць; некаторыя даводзілі, што есьці наогул шкодна для здароўя. Але тыя рэкамэндацыі кепска ўспрымаліся насельніцтвам. Дайшло да таго, што некаторыя зь несьвядомых грамадзян (пераважна жанчыны) пакрысе пачалі адмаўляцца піць. Пачуліся нават размовы, нібыта малако было болей карыснае, асабліва для дзетак. Але калі б малако было болей карыснае, дык бы яно было і даражэй. А так з усіх харчовых тавараў гарэлка мела самы вялікі кошт. Ведама, то былі правакацыйныя размовы з мэтай дэстабілізацыі грамадзтва, і праваахоўныя органы, якія даўно і справядліва зрабіліся карнымі, сурова каралі адступнікаў ідэі. Як і тых вучоных, якія ўзяліся (ведама, беспадстаўна) прапагандаваць цьвярозасьць. Напе-ракор ім у прыклад ставілася сьвятое жыцьцё Вялікага Каудыльё, які піў з дня нараджэньня і давёў дзённую норму да аднаго літра чыстага алькаголю. Менавіта дзякуючы гэтаму, пісалі прыдворныя акадэмікі мэдыцыны, палітолягі, сацыёлягі ды іншыя, любы народам Каудыльё падарыў ім такую дасканалую ідэю. І калі яна ня ўсюды і не ва ўсім дае плён, дык у тым не ягоная віна — віна тых, хто недасканала авалодаў ёю. Значыць, трэба больш піць і лепш працаваць.

Супраць таго, каб больш працаваць, не пярэчыў ніхто — ні адна ўрадавая ці апазыцыйная партыя — з тым сапраўды былі згодныя ўсе. Але ніхто ў гэтай краіне ўжо даўно не працаваў, нашмат больш прыемна было піць. *Паколькі гарэлкі* на кожны дзень не хапала, пілі ўсё, што лілося: самагон, сусла, піва, воцат, клапамор, тармазную і мазольную вадкасьці, тасол, бэнзын, газу. Ніхто ў краіне не баяўся нікога, нікога ня слухаў — ні дактароў, ні міліцыянтаў, якія таксама пілі ня менш за астатніх.

Калі жыць зусім стала неяк, зрабіўся вялікі пераварот, які назвалі па-заходняму — дэмакратычны. Да ўлады прыйшлі тыя самыя людзі, што валадарылі раней. Толькі цяпер яны апранулі двухбартовыя гарнітуры і пачалі салодка ўсьміхацца перад народам. Калі ж ніхто ня бачыў, зубамі ірвалі адзін аднаму *горла, дамагаючыся поўнай улады. Для таго* патрэбныя былі асаблівыя здольнасьці, якімі з ранейшых ніхто не валодаў. Тады неўзабаве дзесьці знайшоўся незвычайны чалавек, што перагрыз усіх і авалодаў уладай.

Пачалася новая эра — эра Вялікага Жаху.

Але тое — асобная гісторыя, пра якую летапісец раскажа наступным разам.

# ПІВА ЗА БЕЛАРУСЬ

Дзякуй, спадарства, за шырокі ўдзел у акцыі. Насьпеў час зрабіць першыя высновы. У табліцы піўнога рэйтынгу (гл. «НН» ад 15 сакавіка г.г.) адбыліся істотныя зьмены. Увогуле, на сёньня згадвалася пад паўсотні напояў.

| Гатунак | Балы |
|---|---|
| 1. «Старажытнае» (Менск) | 26 |
| 2-3. «Портэр» (Менск) | 24 |
| 2-3. «Чорны прынц» (Ліда) | 24 |
| 4. «Клясычнае» (Ліда) | 18 |
| 5. «Траецкае» (Менск) | 16 |
| 6-7. «Ракаўскі бровар» (Менск) | 15 |
| 6-7. «Рэчыцкае» (Рэчыца) | 15 |
| 8-9. «Кароль хмелю» (Ліда) | 13 |
| 8-9. «Князь Рагвалод» (Полацак) | 13 |
| 10-11. «Стары замак» (Ліда) | 12 |
| 10-11. «Граф Чапскі» (Менск) | 12 |
| 12. «Барон Таўбэ» (Берасьце) | 11 |
| 13. «Аліварыя» (Менск) | 10 |
| 14. «Герольд» (Пружаны) | 7 |
| 15. «Бархатнае» (Ліда) | 7 |

Як бачым, беларусам зболышага чамусьці падабаецца цёмнае піва. Мо таму, што ў савецкі час яго амаль не выраблялі, і людзі яшчэ ня зьбілі ахвоты на яго. Цікава, што пра піва піша толькі мужчынская частка нашых чытачоў. Пэўна, піва сапраўды напой мужчынскі.

Сярод самых кепскіх названыя «Баярын Ворша» і «Куцейна» (Ворша), «Сьвіцязянскае» і «Каласок» (Навагрудак), «Вечаровае» (Баранавічы), «Нагана» (Менск), «Жыгулёўскае» (ня раз) і разьліўное з бочак.

Наконт прапановы назваць усе гатункі лідзкага піва за ўзнагароду. Разьлюбіў я лідзкі піўзавод, калі там зьявіўся «Спартак-чемпион», бо памятаю, як у 79-м спартакавец Хідыятулін зламаў нагу нашаму Байдачнаму. І той у 27 гадоў скончыў гульню.

Чэмпіянат працягваецца. Будзьма, шаноўныя!

**Андрэй Мельнікаў**

Прывітаньне, усе беларусы й беларусачкі. Беларускае піва — самае смачнае, толькі ў мяне некалькі пытаньняў да півавытворцаў:

а) чаму ў продажы ў крамах толькі па 2—3 гатункі (пераважна «Жыгулі», яны ёсьць паўсюль). Слабо выставіць усе 20—30, што робяцца ў Менску, за раз?

б) куды падзеліся «Портэр», «Сонечнае», «Хакей», «Спадчына» etc.?

в) чаму пераважаюць белыя празрыстыя пляшкі, калі яны шкодзяць піву?

г) чаму так рэдка сустракаюцца этыкеткі на роднай мове?

Мая пяцёрка:

1. «Портэр-Крыніца» (Менск)
2. «Чароўнае» (Полацак)
3. «Князь Рагвалод»/«Канкурэнт» (Полацак) — цяжка вызначыць, бо абодва смачныя!
4. «Скарынаўскае» (Полацак)/«Леў» (Менск) — гл. заўвагі да п.3.
5. «Траецкае»/«Сябры» (Менск) — гл. заўвагі да п.3, 4.

Найгоршае — «Маладзечанскае сьветлае».

Чагосьці ўсе цягнуцца зь «Лідзкага»... На мой густ, яно вадзяністае ды й не такое смачнае, як менскае ды полацкае. Што ж: колькі галоваў — столькі думак, колькі ратоў — столькі густоў.

Піва — сьвята для душы, і асабіста я раблю сабе сьвята кожны дзень (ці амаль кожны). Піўному мору няма межаў!

**Пятро Варахобін, вядучы праграмы «Добры вечар, Беларусь»**




*1 траўня 1909 году*

**У Думе і каля Думы**

*97-е засяданьне.* На гэтым засяданьні разьбіраюць далей расходы на міністэрства прасьветы. Дэп. *Чхэідзэ* (сацыял-дэмакрат, ад Тыфліск. губ.) гаворыць, што на Каўказе міністэрства ў школах разводзіць абрусеньне — і гэта выходзіць толькі на шкоду народу і самому правіцельству. Праф. *Багданов* (правы, ад Кіеўск. губ.) радзіць скасаваць унівэрсытэты, а завясьці толькі народныя вучылішчы. Дэп. *Енікеев* (мусульманскай партыі, ад Казан. губ.) жаліцца, што міністэрства зусім ня дбае аб завядзеньні прасьветы сярод мусульманаў (татараў). Татары мелі надзею, што іх дэпутаты ў III Думе даб'юцца для іх лепшых парадкаў, але з таго, што гаворaць правыя і акцябрысты, відаць, што ім няма чаго спадзявацца. Дэп. *Белоусов* (сацыял-дэмакрат, ад Іркуцкай губ.) кажа: «Дума ахвотна дае грошы на ўсё, на што правіцельства хоча, і здаецца людзям, што будуць рэформы. А папраўдзе Расея ў 20 сталецьці безграматная. Можа хто скажа, што ў нас няма навукі, бо няма грошы. Але на навуку грошы мала затым, што іх трацяць без карысьці. Міністар народнай прасьветы, Шварц, хоча агранічыць доступ у вучылішча ня толькі жыдам, але і ўсім нярускім. Цяперашняя школа — гэта ісправіцельна-арэстанцкае аддзяленьне для дзяцей».

*98-е засяданьне.* Дэпутаты ад Беларусі і Літвы: *Есьман* і кс. *Мацеевіч* гаварылі аб палажэньні народнай прасьветы ў нашым краі — выказалі, што ў нас справу народнай прасьветы трымаюць у сваіх руках члены саюза «ісцінно-русскіх». Дэп. *Фрыдман* (партыі народнай свабоды ад Ков. губ.) апавядаў, — як цяжка вучыцца жыдам у Расеі, і казаў, што агранічэньнямі ў школе калечаць толькі душу маладзёжы. Дэп. *Мілюков* (партыі народнай свабоды, ад Пецярбурга) ад імя сваёй партыі, а таксама трудавікоў, прагрэсістаў і мусульманаў прасіў Думу прызнаць, што цяперашняя школа служыць для таго, каб закапаць усё, што народ у дні свабоды здабыў для прасьветы. Гэту рэзалюцыю акцябрысты і правыя адкінулі, а пастанавілі: трэба разьвіваць у школе патрыятызм і сьвядомасьць значэньня рускай гасударственнасьці, а такжа каб у школе давалі навуку ў рэлігійным духу і прэданнасьці цару і айчызьне.

Грошы, каторыя правіцельства прасіла на народную прасьвету, Дума дае.

# НАВІНЫ

**КОЖНЫ ДЗЕНЬ У ЛЮБЫМ АДДЗЯЛЕНЬНІ БЕЛСАЮЗДРУКУ ВЫ МОЖАЦЕ ПАДПІСАЦЦА НА ГАЗЭТУ «НАВІНЫ». ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63312.**

# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Гісторыя беларускай літаратуры XX стагодзьдзя. У 4 т. Т.1 / Нац. акадэмія навук Беларусі. Ін-т літаратуры імя Янкі Купалы. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 583 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0140-9

Лісаў М. Батаніка з асновамі экалёгіі: Вучэб. дапам. — Менск: Вышэйшая школа, 1998. — 338 с.: іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-06-0138-8

Марціновіч А. Сьвятая Еўфрасіньня: Нарыс: Для малод. шк. веку / Маст. В. Сташчанюк. — Менск: Юнацтва, 1999. — 62 с.: іл. — Наклад 4000 ас. ISBN 985-05-0274-6

Палын / Тэатар восьмага дня. — Менск, 1999. — 14 с. — Наклад 500 ас.

Швед В. Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў.-- Менск, 1998. -- 132 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6099-38-2

Международно-правовые документы в области средств массовой информации / Уклад. Н.Доўнар. — Менск: «Мэдысонт», 1999. — 202 с. Наклад 1000 ас. ISBN 985-6530-02-4

Русско-белорусский словарь общеупотребительной лексики / Уклад. Н. Крыўко. — Менск: ООО «Аверсэв», 1999. — 1183 с. — Наклад 11000 ас. ISBN 985-6389-30-5

Свистунович С. Опалая листва: Раман, кніга 1 / Пер. зь бел. аўтара. — Масква, 1998. — Наклад 299 ас.

Шмуленсон Г. Пегас лягает второй раз / Мастак Т.Гінцбэрг. — 2-е выд., дап. і выпр. — Менск: «Арти-Фекс», 1999. — 200 с.: іл. — 200 ас. ISBN 985-6119-31-6

## Паштовая скрынка

**Арцёму А.** зь Віцебску. «Пяць ружаў» – пранізьлівая рэч, але мова яшчэ Вам не даецца.

**Сяргею Б.** з Гомеля. А дзе ж «die modernen Sagen»? Дзёньнік ня можа быць самамэтай. Толькі тое, што нельга не запісаць, вартае запісу.

**Уладзіславу І.** зь Віцебску. Мала пішам, бо Вы ня пішаце. Судзячы з допісу паўтараюць ідэі Элізабэт Бадэнтэр, урывак з бэстсэлеру якой «XY. Мужчынская сутнасьць» мы друкавалі ў 1997 годзе. Мачыцкі кодэкс паводзінаў і гамафобская ідэалёгія існуюць, і ўжо гэтым яны нам цікавыя, а грамадзтву карысныя. Цэнзураваць аўтараў мы ня будзем.

**Тацяне К.** Інтэрнэт стварае новую мысьленчую сытуацыю: праўду становіцца вельмі цяжка адрозьніць ад няпраўды. Бо немагчыма кантраляваць аўтарства, бо колькасьць інфармацыі перавышае крытычную і ніякая цэнзура ці квазыцэнзура немагчымыя. Таму калі ў Інтэрнэце пішуць, што «камуністы ядуць дзяцей», людзі ня вераць, бо яны бачылі шмат камуністаў. Калі ж пішуць «амэрыканцы скідаюць на Югаславію ўранавыя бомбы», дык сёй-той верыць, бо, як сьцьвярджаецца ў адным зь перакладаў «Прыгодаў Алісы ў краіне цудаў», «ён не знаёмы з павадкамі іхтыязаўраў».

**Валер'ю С.** зь Берасьця. Гэта цяпер у Беларусі і пад іншымі такімі рэжымамі людзі гінуць тысячамі – бо няма чым лячыць, а тысячы нараджаюцца з страшнымі хваробамі – бо няма рэактываў, каб гэта ў свой часперадгадаць, а мільёны сьпяваюць – бо ня маюць надзеі на долю. А Вы нагледзеліся чужога тэлебачаньня, і паўтараеце за імі. Глядзіце ж таксама польскую ТВ, спадарожнікавыя эўрапейскія каналы, параўноўвайце тое, што бачыце. Войска, танкаў і самалётаў у пераліку на чалавека ў нас ужо цяпер найбольш у Эўропе, а толку наймені, а вы прапануеце яшчэ войска ўзмацняць. Калі Ваш настаўнік верыць у жыдамасонскасыянісцкія змовы, дык ён проста дурны.

**Юр'ю К.** з Трыесту. У электронным ліставаньні зручна карыстацца беларускай лацінкай абояе «безгачковымі» варыянтамі. Было б цікава, каб вы напісалі, што думаеце пра падзеі ў Югаславіі. Электронныя адрасы беларускіх выданьняў наступныя:

«Навіны» http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/

«Arche» http://arche.home.by

«Беларускі гістарычны агляд» http://www.data.minsk.by/bhr або http://pagina.de/bha

«Архіў найноўшай гісторыі» http://members.xoom.com/_anh_

Побач можна знайсьці й іншыя выданьні.

**Адасю Л.** зь Менску. Герой апавяданьня, «дзейная асоба кірмашовага часу», не ўяўляе цікавасьці.

**Юрасю Б.** зь Менску. Ці можна два разы адным і тым самым пальцам пакалупацца ў адным і тым самым носе?

**Віктару М.** зь Менску. Паспрабуйце напісаць артыкул, ні разу ня ўжыўшы словаў «трэба» і «мусім».

**Зьмітру С.** зь Менску. «...сэнс нэўтралізацыі набыцьця легітымнасьці Лукашэнкам – майстрам плебісцытарнай мабілізацыі электаральных масаў» – гэта ж дысэртацыя.

**Наступны нумар газэты выйдзе 17 траўня.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запрашаем музыкаў да рэалізацыі беларускамоўнага праекту. Алех Субель, Лібкнэхта, 71-17, Тэл.: 256-04-10

Набуду збор твораў У.Караткевіча ў 8 тамах. Тэл.: 283-61-87, Андрэй

Набуду 3-ці том Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі. Тэл.: 252-81-86, Дзьмітры

Віншую Адэльку з народзінамі. Зычу быць прыгожай як маці, здольнай як бацька. Разгарні крылы й дакраніся да зор. Дабрадзей

3 траўня па адрасе МЕНСК Варвашэні 8 МАЛАДЫ ФРОНТ праводзіць сэмінар «БЕЛАРУСКІ ШОЎ-БІЗНЭС».Адбудзецца сустрэча з прадстаўнікамі «БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫЧНАЙ АЛЬТЭРНАТЫВЫ» і аўтарамі адзінай кнігі пра беларускі рок «ПРАЗ РОК-ПРЫЗМУ» ( Нью-Ёрк, 1989). Пачатак а 17.00. Уваход вольны.

5 траўня газэта «РАНІЦА» праводзіць прамую тэлефонную лінію з гуртом «НЭЙРАДЗЮБЭЛЬ». Аляксандр Кулінковіч і іншыя музыкі чакаюць вашых тэлефанаваньняў з 16.00 да 18.00 па тэл.: (017)682670 і (017) 2682588.

29 красавіка ў 10.00 і 2 траўня на хвалях «РАДЫЁ-2» (Fm 70.4 Am 1197 kHz) выйдзе аўдыёвэрсія «БЕЛАРУСКАГА ГІТ-ПАРАДУ».

14 траўня ў клюбе «АКВАРЫЮМ» ( Кульман, 14) адбудзецца прэзэнтацыя альбомаў «ЯЗЫЧНІК-Я» і «ДУХ ЗЯМЛІ» гурта «ЗЬНІЧ». Пачатак а 19.00. У гасьцях — POSTSCRIPTUM, VICIOUS CRUSADE і інш. Папярэдне замовіць касэты і квіткі можна па тэл.: (017) 2490888 і (017) 2656362.

Пры Пазьняку беларуская мова — мова нацбольшасьці, пры Чыгіры — «нацменшасьці», пры Лукашэнку яе зусім няма. Вячаслаў Мілкоўскі

...а нашыя бацькі так і не гаварылі па-расейску, дзяды — тым больш. Дык няўжо забудземся, як яны размаўлялі — забудзем іх? Сэрца не дапусьціць. Вячаслаў Мілкоўскі

Андрэя Аляхновіча віншуем з Днём народзінаў. Шчасьця, дабрабыту, здароўя табе, дружа! КАЦІК & Mielnikaw

Альгерда Чыжа, Яніну Пушкіну, Вольгу Цярэшчанку (Яўсеенку), Сержука Храмава, Юрася Мацко віншую з Днямі народзінаў! Mielnikaw

«Большасьць? А што такое большасьць? Гэта ўсё лухта. Заўсёды розум мела толькі меншасьць...» Словы Л.Сапегі ў паэме Ф.Шылера «Дзьмітры»

Lićviny! 23 krasavika spaúniajecca 90 rok adoźvie Piłsudzkaha «Da žycharoú VKŁ». Adradzimo šlachocki lozunh: Volny z volnym, roúny z roúnym! Žyvie Litva-Vola!

Большасьць з мноства тэарэтыкаў беларускае нацыянальнае ідэі забыліся пра яе надзвычай простую формулу — Незалежная Беларусь. Сяржук Аржанцаў

Які відэафільм павінен зьявіцца ў перакладзе на беларускую мову ў першую чаргу? Пішыце на а/с 150, 220107

Паслугі касмэтоляга + якасная касмэтыка. Тэл.: 241-80-29, Ганна

Мілая Алінка, віншую цябе з днём нараджэньня. Жадаю здароўя, быць шчасьлівай, пекнай, прываблівай, яскравай. Павал

Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» абвяшчае, што з 1/05/1999 году прыём заявак на конкурс «Беларускія Майстэрні — Вакно ў Эўропу» спыняецца. Ляўрэаты конкурсу атрымаюць пісьмовае паведамленьне. Пра працяг конкурсе будзе абвешчана праз газэты.

Ад куляў забойцы загінуў шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны

**АЛЯКСЕЙ ШПАК.**

Выказваем спачуваньне родным і блізкім. *Сябры*

**КУПОН** БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

*Імя і прозьвішча* ______________________________

*Адрас, тэлефон* ______________________________




«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Набор Аляксандры Макавік. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2867. 8 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18[00], 25.04.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N1933

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12